25 студзеня 2019 | № 3 (614)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

1984-ы пачнецца ў 2020-м?

стар. 19



# Пражывем і без Расіі

## Гэта факт, які проста трэба ўсвядоміць



Сяргей ПУЛЬША



Мы ўжо чвэрць стагоддзя жывём у суверэннай дзяржаве. Час нарэшце гэта зразумець. А ўсім «аб'яднальнікам» я задам адно пытанне: што нам можа даць Расія?

«Саюз — калі ласка. Аб'яднанне — калі ласка, але толькі гэта людзі павінны вырашыць, а не мы. Мы не адмаўляемся ні ад аднаго тэзіса», — сказаў надоечы Лукашэнка.

Шэсць прарасійскіх арганізацый Беларусі апублікавалі заяву з патрабаваннем ліквідацыі партыі БНФ. Зварот падпісаны чатырма грамадскімі аб'яднаннямі, адной прыватнай установай і адной каардынацыйнай радай левых партый. У ліку падпісантаў экс-дэпутат Палаты прадстаўнікоў і адзін з нядаўніх кіраўнікоў Камуністычнай партыі Беларусі Валер Драко, які арганізоўваў у Мінску шэсце «Несмяротны полк» і заклікаў далучыцца да «Саюзнай дзяржавы» непрызнаныя «ДНР» і «ЛНР» на мінскай вечарыне памяці забітага лідара «ДНР» Захарчанкі.

Некаторыя дзяржаўныя (!) дзеячы кажуць, што «без Расіі нам нікуды». Цытаты шырока разышліся па інтэрнэце. А ў мяне ўзнікае адно пытанне. Што нам дасць Расія? Якую мы выгаду атрымаем з такога яднання? Вось проста, з калькулятарам?

Новыя тэхналогіі? З якімі ў космас лётаюць на «Прагрэсах» узору 1970 года, што рэгулярна падаюць у акіян, у той час, як Ілан Маск ужо запускае модулі, якія вяртаюцца з космасу, і рыхтуе экспедыцыю на Марс? Што можа нам даць краіна, якая займае 1/6 частку зямлі, але не здолела выпусціць свой смартфон? У той час як у Беларусі ёсць свае мабільнікі, напрыклад, Flycat? Краіна, якая, валодаючы велізарнымі чалавечымі рэсурсамі, замест лідарства ў інтэрнэце прапануе абмежаваць інтэрнэт?

Расія можа даць нам грошы? Не смяшыце... Расійскі рубель каштуе тры беларускія капейкі — хто да каго павінен далучацца? «Аб'яднанне грашовых сістэм» на такіх умовах? Не больш, чым міф. Можа, прапанаваць Расіі больш стабільны беларускі рубель?

Расія дасць нам танныя энерганосьбіты? А давайце палічым, ці танна гэта? Што Расія выканала з дамоўленасцяў па ЕАЭС, па Мытным саюзе? У гэтым годзе павінен быў бы ўжо пачаць працу адзіны рынак энерганосьбітаў. Але «не лёс». А чаму так?

А мы, «святейшыя за Папу Рымскага», у межах ЕАЭС забілі сваіх прадпрымальнікаў. Мы выконваем патрабаванні стандартаў ЕАЭС, на якія ў Расіі чхаць хацелі. Яны не выдаюць даведкі аб сертыфікацыі ЕАЭС нашым ІП, якія ім даюць грошы і ў іх жа закупляюцца... А нашы фіскалы такія даведкі патрабуюць. Таму што — «святейшыя за Папу Рымскага». Мы да літары выконваем усе дамоўленасці. А яны?

Мне рэгулярна па каментары тэлефануе ўкраінскі канал «112». Тры разы яны пыталіся: «Чаму Беларусь у ААН галасуе супраць Украіны»? Тры разы я ім спрабаваў растлумачыць — у нас з Расіяй агульная знешняя палітыка, стратэгію якой падпісвае Макей на два гады ў рамках агульнай знешнепалітычнай дактрыны. І таму Беларусь у ААН галасуе супраць Украіны, што не дадае нашай краіне ні аўтарытэту, ні павагі... Мне сорамна за тое, што я павінен апраўдвацца перад сваімі сябрамі-ўкраінцамі і тлумачыць, што ўлада і народ — не адно і тое ж. А Расія хоць раз выступіла на баку Беларусі? Хоць разок агульная знешнепалітычная дактрына спрацавала на карысць Беларусі, а не Расіі?

Што Расія можа даць Беларусі? Сваю сістэму адукацыі? Імперскія амбіцыі? Дзякуй, не трэба. Што яна можа прапанаваць у абмен на аб'яднанне, чаго б мы самі ўжо не мелі б? Вось шчыра — што?

Давайце проста сядзем з калькулятарам — і палічым. Што, хто, каму і навошта?

Мы Расіі даём многае. Транзітны калідор на Захад. Адзінага саюзніка ў Еўропе на міжнароднай арэне (гэта, на самай справе, шмат чаго варта). Адзінага партнёра, які можа ў любы момант працягнуць руку дапамогі ў ААН. А што нам дае Расія?

Чарговую чачэнскую вайну? Грузінскую вайну? Украінскую вайну? Што мы будзем мець ад саюзу з Расіяй? Алігархаў? Прыватызацыю ў іх рукі найбольш прыбытковых прадпрыемстваў? Наша войска, уцягнутае ў міжнародныя канфлікты? У Сірыю?

Растлумачце мне: што мы маем ад саюзу з Расіяй? І што мы страцім, калі саюза не будзе? Цэны на энерганосьбіты? Прабачце. Ёсць міждзяржаўныя дамоўленасці, ёсць цана транзіту, і ёсць суд у Гаазе.

Я рэальна не разумею, што мы набываем ад гэтага саюза. Нічога? Дык навошта ўвесь гэты цырк?

Патлумачце мне, калі ласка. З калькулятарам.

# Групу па правядзенні рэферэндуму аб забароне будаўніцтва акумулятарнага завода не зарэгістравалі

**Брэсцкі райвыканкам адмовіў у рэгістрацыі ініцыятыўнай групы па правядзенні мясцовага рэферэндуму аб забароне будаўніцтва акумулятарнага завода. Аб гэтым паведаміў TUT.BY праваабаронца Раман Кісляк.**

Адказ з райвыканкама прыйшоў 21 студзеня. У дакументе паведамлялася, што парадак утварэння ініцыятыўнай групы быў выкананы, але пытанне, якое было прапанавана вынесці на рэферэндум, не адпавядае патрабаванням заканадаўства. Актывісты заклікалі прагаласаваць «за» ці «супраць» пад прапановай «забараніць любую дзейнасць, звязаную з будаўніцтвам і эксплуатацыяй завода па вытворчасці свінцова-кіслотных акумулятарных батарэй на тэрыторыі Брэсцкага раёна».

«Гэта пытанне не можа быць вынесена на мясцовы рэферэндум, так як мае значэнне для Рэспублікі Беларусь у цэлым і ўрэгулявана заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь», — паведамляецца ў адказе.

Акрамя таго, у лісце ўказваецца, што дзейнасць па вытворчасці свінцова-кіслотных акумулятарных батарэй заканадаўчымі актамі не забаронена, а будаўніцтва завода АКБ на тэрыторыі Брэсцкага раёна мае важнае значэнне для інавацыйнага развіцця Беларусі.

Цяпер у сябраў ініцыятыўнай групы ёсць месяц на тое, каб абскардзіць рашэнне райвыканкама.

Акумулятарны завод будуе на прамысловай пляцоўцы «Аэрапорт» у свабоднай эканамічнай зоне «Брэст» ТАА «АйПауэр». Жыхары Брэста і некалькіх вёсак Брэсцкага раёна лічаць, што прадпрыемства пагражае іх здароўю. З 25 лютага 2018 года кожную нядзелю на плошчу Леніна ў Брэсце прыходзяць праціўнікі будаўніцтва акумулятарнага завода, якія абменьваюцца апошнімі навінамі аб ходзе работ прадпрыемства.

29 красавіка на ўскраіне Брэста, у парку Воінаў-інтэрнацыяналістаў, прайшоў санкцыянаваны ўладамі мітынг, на які сабралася каля дзвюх тысяч чалавек. З тых часоў неаднаразовыя спробы праціўнікаў будаўніцтва завода атрымаць дазвол на правядзенне мітынгу поспехам не ўвянчаліся — гарадскія ўлады не давалі дабро, матывуючы гэта тым, што ў заяўленыя даты запланаваныя іншыя мерапрыемствы.

# Штрафы за ўшанаванне памяці Героя Украіны Жызнеўскага

НЧ

**Пасля акцыі памяці Міхася Жызнеўскага каля ўкраінскай амбасады ў Мінску 22 студзеня затрымалі старшыню «Маладога фронту» Дзяніса Урбановіча і актывістку «Еўрапейскай Беларусі» Вольгу Нікалайчык. На наступны дзень іх справы разгледзелі ў судзе Цэнтральнага раёна Мінску.**

Вечарам 22 студзеня ля помніка Тарасу Шаўчэнку, што побач з амбасадай Украіны, сабралася каля дзясятка актывістаў, якія ўсклалі кветкі і запалілі знічы ў гонар Міхаіла Жызнеўскага. Затым яны праспявалі «Магутны Божа» і гімн Украіны.

Прыкладна каля 20 гадзін вечара, калі ўдзельнікі ўшанавання пачалі разыходзіцца, на праспекце Незалежнасці супрацоўнікі міліцыі гвалтоўна затрымалі Дзяніса Урбановіча і Вольгу Нікалайчык і адвезлі іх у РУУС Цэнтральнага раёна.

А на наступны дзень Вольгу Нікалайчык аштрафавалі на 1020 рублёў (суддзя Вікторыя Шабуня), Дзяніса Урбановіча — на 1275 рублёў (суддзя Іван Касцян).

Як сказала Вольга, затрыманне на памінальнай сустрэчы мае палітычную афарбоўку — гэта, кажа яна, не было пікетам. Сведкі на працэсе, сцвярджае яна, «неслі лухту, што мы крычалі, што гэта быў пікет».

«Улада зноў прадэманстравала бесчалавечнае стаўленне да тых, хто шануе гераічных беларусаў, нацыянальную памяць. Іх вельмі моцна раздражняе, калі мы здольныя памятаць», — падкрэсліла Нікалайчык.




# Хто здзяйсняе экалагічнае злачынства?

**Светлагорскія экалагічныя актывісты і актывісткі працягваюць змагацца за навакольнае асяроддзе з цэлюлоза-кардонным камбінатам (СЦКК) і заводам беленай цэлюлозы (ЗБЦ).**



Пасля таго, як напрыканцы мінулага года з’ехалі кітайскія партнёры, якія будавалі гэты завод і спрабавалі запусціць яго, беларускія спецыялісты спрабуюць правесці пуска-наладачныя работы самастойна. Вынік гэтых спроб светлагорцы і жыхары Якімавай Слабады адчуваюць на сабе перыядычна. З пачатку года ўжо некалькі разоў накрывала горад і вёску моцным смуродам.

«Калі нашы актывісты звярнуліся са скаргамі да кіраўніцтва СЦКК, то там толькі выбачыліся за створаныя нязручнасці, бо ў іх здарылася аварыя. Пабудавалі новы завод, які яшчэ і не працаваў на поўную магутнасць, а там ужо аварыя за аварыяй. Абсталяванне не наладжваецца, выпуску прадукцыі патрэбнай якасці няма і, відаць, не будзе, бо там пастаянна што-небудзь ламаецца», — каментуе сітуацыю светлагорская праваабаронца «Вясны» Алена Маслюкова.

Чарговы інцыдэнт на заводзе беленай цэлюлозы здарыўся ў суботу, 19 студзеня. Светлагорскія грамадскія актывісты ў прамежак часу паміж 13:30 і 14:10 зафіксавалі моцны зліў бруднай вадкасці цёмна-карычневага колеру з пенай па ліўневай каналізацыйнай трубе з тэрыторыі завода ў Бярэзіну. Пры гэтым адчуваўся характэрны смурод.

«Мы адразу ж выклікалі на месца здарэння спецыялістаў Светлагорскага раённага аддзялення Міністэрства па надзвычайных сітуацыях (РАНС). Пасля патэлефанавалі ў РАУС, дзе нам параілі звярнуцца ў РАНС. Мы патрабавалі, каб яны зафіксавалі факт відавочнага парушэння прыродаахоўнага заканадаўства. Яны зарэгістравалі скаргу, а пазней узялі з мяне тлумачэнні. Мы спрабавалі датэлефанавацца да пракуратуры, але там ніхто не адказаў», — расказвае Алена Маслюкова.

Супрацоўнікі РАНС, якія прыехалі на месца здарэння, зрабілі відэаздымку і паведамілі нам, што іх дзяжурны спрабуе датэлефанавацца да розных інстанцый: да галоўнага ўрача СЗЦГіЭ, кіраўніцы Светлагорскай раённай экалагічнай інспекцыі, старшыні Светлагорскага раённага выканаўчага камітэта. Пра тое, што адбываецца на заводзе, было паведамлена таксама яго кіраўніцтву — намесніку дырэктара завода Камандзірчыку.

«Відавочна, што кіраўніцтва заводаў здзяйсняе экалагічнае злачынства. Па сутнасці, сваёй гаспадарчай дзейнасцю яны наносяць шкоду навакольнаму асяроддзю і парушаюць правы людзей на жыццё ў спрыяльных умовах», — дадае Алена Маслюкова.

**spring96.org**

# «Пернікі» для чыноўнікаў?

Яўген КІРЫЛАЎ

**Як павінен выглядаць ідэальны чыноўнік, калі прытрымлівацца парадаў кіраўніка Беларусі?**

На нарадзе 22 студзеня кіраўнік дзяржавы ў чарговы раз казаў пра якасці, якімі павінен валодаць беларускі чыноўнік.

— Задача зрабіць дзяржаўную службу падобнай, скажам, да воінскай службы, выпрацаваць дакладныя і вычарпальныя патрабаванні да яе праходжання, падвысіўшы імідж дзяржаўнага кіравання ў цэлым, — такую рэкамендацыю Лукашэнка даў сваёй вертыкалі, калі абмяркоўваўся новы закон аб дзяржаўнай службе.

І тут жа дадаў, што чыноўнік павінен быць сціплым — і не гнацца за матэрыяльнымі выгодамі.

— Я папярэджваў усіх вас, што гэтыя пернікі, якія ў нас прынята раздаваць у любым законе ў выглядзе нейкіх сацыяльных гарантый, не павінны быць вышэй таго, што яны ёсць. Матэрыяльнае становішча дзяржслужачых павінна расці або падаць у адпаведнасці з ростам або падзеннем жыццёвага ўзроўню нашага насельніцтва, — заявіў ён.

«Салідарнасць» узгадала, якім яшчэ павінен быць чыноўнік паводле запаветаў кіраўніка дзяржавы. І якія «пернікі» яму за гэта нададзеныя.

### Жыць як па воінскім статуце

— Калі гэта будзе, як у ваенных, адпаведны статут — добра, хай будзе статут. Але людзі павінны бачыць, што прэзідэнт прад’яўляе вельмі жорсткія патрабаванні да дзяржаўных чыноўнікаў. А за гэта ім належыць гэта, гэта і гэта... За парушэнне сыходзіш з пасады — ідзеш у турму, — казаў Лукашэнка на нарадзе летам 2018 года.

Сярод «бонусаў», якія належалі чыноўніку, кіраўнік Беларусі называў «забяспечыць жыллём, медыцынай, а дзяцей забяспечыць школай або дзіцячым садам».

### Разбірацца ў сельскай гаспадарцы

— Абараніце расліны і падрыхтуйцеся да ўборкі збожжа. Жалезна. Трэба сіласу столькі — значыць, столькі і не болей. За гэта будуць несці адказнасць ад спецыялістаў да прэм’ер-міністра.

— Мы ўсе ведаем, як рабіць, але з-за расхлябанасці мы губляем велізарныя грошы, — даваў распараджэнне ў 2016 годзе тагачаснаму прэм’еру Мясніковічу кіраўнік дзяржавы, і загадваў: «Усе комплексы трэба напоўніць свіннямі».

### Умець размаўляць з журналістамі

— Я не ведаю, як гэта вы будзеце рабіць, але калі я пачую або ў інтэрнэце прачытаю, што чыноўнік не размаўляе з журналістам і не падае тую інфармацыю, якую павінен... Уносьце неадкладна прапановы аб яго замене, — абураўся Лукашэнка на круглым стале з кіраўнікамі дзяржаўных СМІ.

— Калі ты прыйшоў міністрам, намеснікам, кіраўніком прадпрыемства, будзь добры размаўляць з журналістамі, як бы ні было цяжка і складана, — вучыў нядбайных чыноўнікаў Аляксандр Лукашэнка.

### ...і рамантаваць дах

Яшчэ не паспела забыцца гісторыя, калі кіраўнік Беларусі падчас нарады ў Оршы звольніў увесь склад урада. Заадно дасталася і міністру будаўніцтва — за тое, што праваліўся дах на мясцовым прадпрыемстве.

— Ён сядзеў і не мог адрамантаваць дах. Хто меў права адмяняць мае рашэнні, якія былі пастаўлены публічна перад народам. Жалезабетонна трэба было вырашыць — і кропка, — ладзіў разнос Лукашэнка.

***

Нягледзячы на тое, што ўсе патрабаванні і пагрозы кіраўніка дзяржавы да чыноўнікаў ужо даўно вядомыя, а іх «пернікі» можна знайсці, напрыклад, у выглядзе элітнай нерухомасці ў Драздах — лепш ад гэтага дзяржаўная машына працаваць не стала.

І нешта падказвае, што новы закон аб дзяржаўнай службе наўрад ці дапаможа зрабіць беларускага чыноўніка ідэальным — хоць бы па версіі Лукашэнкі.

**Паводле gazetaby.com**
**Пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Рыбачкі і рыбакі

Сяргей САЛАЎЁЎ


Фота www.ria.ru

**Скандал з вядомай сваімі сексуальнымі прыгодамі грамадзянкай Беларусі Насцяй Рыбкай (Вашукевіч), яе затрыманнем, потым вызваленнем у Маскве мог бы застацца сюжэтам свецкай хронікі, калі б не дзве акалічнасці.**

Па-першае, расійскі апазіцыйны палітык Аляксей Навальны сцвярджае, што мільярдэр Алег Дзерыпаска асабіста замовіў арышт і пасадку Анастасіі Вашукевіч. Як помсту за тое, што яна запісала і зліла ў інтэрнэт размовы Дзерыпаскі пра тое, як ён і намеснік кіраўніка ўрада Расіі Сяргей Прыходзька абмяркоўвалі ўмяшанне Расіі ў амерыканскія выбары.

Па-другое, скандальным сюжэтам зацікавілася першая асоба дзяржавы Рэспублікі Беларусь — Лукашэнка. Яго прэс-сакратар Наталля Эйсмант заявіла, што кіраўнік дзяржавы «тэрмінова загадаў» заняцца вызваленнем затрыманай у Расіі Анастасіі Вашукевіч. Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей, адклаўшы ўсе справы, кінуўся вызваляць Насцю Рыбку, і, урэшце, беларуская дыпламатыя атрымала выдатную перамогу. Кіраўнік МЗС распавёў, як спрытна і хутка ён выканаў даручэнне кіраўніка краіны, дамогшыся вызвалення скандальнай персоны.

Не буду маралізаваць. Жыццё Насці Вашукевіч — гэта яе жыццё. І яна вольная распараджацца ім паводле свайго меркавання. Хай спіць, з кім хоча і як хоча — гэта яе права. У мяне іншае пытанне. Няўжо ў кіраўніка краіны няма іншых турботаў, апроч вызвалення Насці Рыбкі?

Напрыклад, у 2018 годзе ВУП Беларусі вырас усяго на 3%. Упаў прырост вытворчасці прамысловай прадукцыі: да 5,7% з 6,1% па выніках адзінаццаці месяцаў. У валавым выражэнні ВУП за 2018 год склаў 121 568,3 мільёна рублёў, а аб'ём вытворчасці прамысловасці — 110 069,1 мільёна рублёў.

Запасы гатовай прадукцыі за год выраслі на 616,7 мільёна рублёў, гэта значыць на 16%, і дасягнулі 4467,2 мільёна рублёў. Такім чынам, істотную частку прыросту прамысловай вытворчасці абумовіла павелічэнне запасаў! То бок, не прададзенай прадукцыі, а працы «на склад»!

Аб'ём прадукцыі сельскай гаспадаркі ў 2018 годзе не вырас, а знізіўся ў параўнанні з 2017 годам на 3,4% і склаў 19 025,4 мільёна рублёў. У найбольшай ступені скарацілася вытворчасць збожжавых: на 33,3% — да 5 826 300 тон.

А вось хтосьці казаў пра «харчовую бяспеку», і экспарт сельгаспрадукцыі на ўзроўні 7 мільёнаў долараў. І сцвярджаў гэта неаднаразова, не толькі на словах, але і ў выглядзе велізарных датацый на сельскую гаспадарку.

У снежні беларускія будаўнікі здзейснілі «цуд» і рэзка павялічылі аб'ём уводу жылля ў эксплуатацыю. За адзін (!) месяц яны ўвялі 884,2 тысячы квадратных метраў жылля агульнай плошчы. Гэта амаль у 3 разы больш сярэднямесячнага ўзроўню за папярэднія 11 месяцаў.

А зараз пытанне: у якасць такога жытла хтосьці верыць? Месяц і аўральны парадак уводу ў эксплуатацыю? Зноў атрымаем прэтэнзіі і трэснутыя сцены дамоў пасля?

Па выніках першага квартала 2018 года рост ВУП складаў 5,1%, па выніках першага паўгоддзя паказчык знізіўся да 4,5%. Паводле прагнозаў Мінэканомікі, рост ВУП Беларусі па выніках 2018 года павінен быў скласці 3,9–4,1%. А згодна з падпісанымі Лукашэнкам у пачатку 2018 года задачамі сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на год — рост ВУП прагназаваўся на 3,5%.

Вынік — 3% ВУП. Але гэтыя 3% — «межы статыстычнай хібнасці», як мяне неаднаразова пераконвалі сацыёлагі.

Не, безумоўна, добра, што мы клапоцімся пра Насцю Рыбку і нашых грамадзян за мяжой. Але, можа, варта паклапаціцца яшчэ і пра нашых грамадзян у Беларусі?

Паводле звестак Белстата, у студзені-лістападзе мінулага года ў дзяржкіраванні рэальныя зарплаты, якія разлічваюцца з улікам інфляцыі, выраслі на 25,9% да аналагічнага перыяду 2017 года. Гэта лепшы паказчык з усіх сфер дзейнасці. Для параўнання: у дактароў рэальныя зарплаты за гэты перыяд павялічыліся на 11,3%, у настаўнікаў — на 12,2%, у работнікаў культуры — на 12,3%, у праграмістаў — на 5,7%.

Сярэдняя зарплата ў работнікаў дзяржкіравання ў студзені-лістападзе мінулага года склала 1267 рублёў, у той час як сярэдняя па краіне за гэты перыяд — 944 рубля.

Гэта — афіцыйная статыстыка. Пры гэтым варта ўспомніць: лекары, настаўнікі, работнікі культуры і іншыя, якія атрымліваюць «сярэднюю зарплату па краіне», плацяць падаткі. За іх кошт забяспечваюцца «рэальныя зарплаты ў дзяржкіраванні». Якія, зноў успомнім, у пяць разоў вышэй за афіцыйную інфляцыю. Пытанне — за што мы ўсе плацім? Што нам карыснага зрабілі дзяржаўныя кіраўнікі? Можа, узгадае нехта?

Я гатовы плаціць. Але за вынік. Напрыклад, стваральнікам пяцітомніка пра гісторыю беларускай дзяржаўнасці, які стане асновай новага навучальнага курсу для студэнтаў вышэйшых навучальных установаў, загадчыку цэнтра Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Валянціну Голубеву.

«Мы зыходзім з таго, што ў нашай гісторыі нічога дрэннага не было. Усё, што было, — гэта наша гісторыя. Мы б хацелі гэта ацаніць рэальна, любую вяху на шляху да Рэспублікі Беларусь паказаць аб'ектыўна. Мы хочам паказаць і спробы нашых беларускіх нацыяналістаў, якія будавалі БНР, і спробы беларускіх нацыянал-камуністаў, якія ў Петраградзе і Маскве ў гэты ж час там дамагаліся таго, каб зрабіць хоць нейкую нацыянальную дзяржаўную адукацыю», — кажа Голубеў.

На самай справе, гэта тое, што робіць «Новы Час». Гісторыя не можа быць «правільнай» або «няправільнай». Мы і гісторыю БНР асвятляем, і гісторыю БССР, і гісторыю рэпрэсій… мноства іншых гісторый. Мы не дзелім гісторыі на «свае» і «чужыя». Гісторыя не можа быць «дрэннай» або «добрай». Яна такая, якая ёсць.

Таму я дзвюма рукамі «за» канцэпцыю Голубева, і буду рады, калі сапраўды ёй нададуць «больш часу ў параўнанні з тым, што існуе сёння».

Але кіраўнік краіны чамусьці занепакоены не нашай гісторыяй, а Насцяй Рыбкай. І кідае на яе выратаванне ўвесь МЗС. Я не спрачаюся: Насця — жанчына прыгожая, сексуальная і прываблівая. І нам сапраўды трэба абараняць сваіх грамадзян, дзе б яны ні знаходзіліся і хто б яны ні былі.

Але, можа, варта, звяртаць увагу на надзённыя справы? А МЗС ужо само разбярэцца? Тым больш, што ў Макея пагадненне пра агульную знешнюю палітыку з Расіяй. А калі гэтае пагадненне не на карысць Насці — нашто нам яно?

ФІГУРЫ ГОДА

## Андрэй Бандарэнка



**Кіраўнік праваабарончай арганізацыі «Нью платформ інавейшн», былы палітвязень, агульным сходам прызначаны дырэктарам «БелГазеты».**

Але асноўны акцыянер газеты Кірыла Жываловіч паведаміў, што гэта не проста змена кіраўніцтва, а рэйдарскі захоп.

Пра тое, што дырэкцыю таварыства з абмежаванай адказнасцю «БелГазета», якое выпускае аднайменны інфармацыйна-аналітычны штотыднёвік, з пачатку студзеня ўзначаліў праваабаронца Андрэй Бандарэнка, стала вядома 21 студзеня.

«Я не планаваў займацца гэтым напрамкам, але так склалася, што спатрэбіўся набор усіх маіх прафесійных якасцяў як бізнесоўца, журналіста і праваабаронцы», — заявіў Бандарэнка ў каментары БелаПАН. Але ў выніку Жывановіч прызначыў дырэктарам іншага чалавека — Юрася Карэтнікава. Калектыў газеты з гэтым не згодны, пра што паведаміў у адмысловай заяве на сайце выдання.

## Павел Шаройка



**Украінскага журналіста Паўла Шаройку перавялі з СІЗА КДБ у бабруйскую выканаўчую калонію № 2. Перавод адбыўся да Новага года. У калоніі яго ўжо наведвала жонка.**

Раней КДБ Беларусі заявіў, што абмен Шаройкі на затрыманага ва Украіне беларуса Юрыя Палітыку немагчымы, але ўкраінца могуць памілаваць.

Украінскага журналіста Паўла Шаройку ў траўні мінулага года асудзілі ў Беларусі на 8 гадоў пазбаўлення волі за шпіянаж. Як паведаміў КДБ Беларусі, Шаройка быў кадравым супрацоўнікам галоўнага ўпраўлення разведкі Міністэрства абароны Украіны, ён затрыманы пры правядзенні агентурнай акцыі на месцы злачынства.

Паводле звестак КДБ, у краіне Шаройка стварыў агентурную сетку з ліку грамадзян Беларусі, якія за грошы выконвалі яго заданне па зборы звестак разведвальнага характару ў ваенна-палітычнай сферы.

У чэрвені 2017 года ва Украіне па падазрэнні ў шпіянажы быў затрыманы грамадзянін Беларусі Юрый Палітыка. Як паведамлялі ўкраінскія СМІ, паводле дадзеных пракуратуры, беларус спрабаваў вывезці ў сваім смартфоне аэраздымкі зоны АТА і карту наступальнай аперацыі «Шторм» украінскай арміі. Сам затрыманы сваю датычнасць да шпіёнскай дзейнасці адмаўляе і запэўнівае, што ўсе паказанні даваў пад катаваннямі, ніколі не працаваў на беларускі КДБ, не збіраў сакрэтныя звесткі для Расіі.

Палітыку пагражае да 15 гадоў турмы. Спачатку ён утрымліваўся ў СІЗА ў Чарнігаве, а затым, як стала вядома ў верасні мінулага года, быў пераведзены ў СБУ ў Кіеве. Тэрмін утрымання яго пад вартай быў падоўжаны да 26 лютага 2019 года.

## Арына Сабаленка



**Беларуская тэнісістка стане 10-й у рэйтынгу WTA пасля Australian Open, што з'яўляецца яе найвышэйшым дасягненнем у кар'еры.**

Сабаленку магла б абысці Серэна Уільямс, але тая прайграла ў 1/8 Australian Open Караліне Плішкавай (6:4, 4:6, 7:5). Уільямс будзе займаць 11-е месца.

Сабаленка — пераможца трох турніраў WTA ў адзіночным разрадзе, фіналістка Кубка Федэрацыі (2017) у складзе нацыянальнай зборнай Беларусі. Аддае перавагу агрэсіўнаму сілавому тэнісу з кароткімі розыгрышамі — у тры-чатыры ўдары. Часта выконвае эйсы. Па гульнявой манеры падобная з Серэнай і Вінус Уільямс. Паводле ацэнкі старшыні Беларускай тэніснай федэрацыі Аляксандра Шакуціна, байцоўскія якасці Сабаленкі пануюць над яе фізічнай формай, дзякуючы чаму яна «ўмее выйграваць, падавалася б, абсалютна безнадзейныя матчы».

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Рэспубліка Беларусь як прыклад дзяржавы па панятках

**Нашы недатыкальныя, у адрозненне ад недатыкальных у Індыі, месцяцца не на дне, а на вяршыні сацыяльнай іерархіі.**

Тыдні два таму на адной з аналітычных тусовак мадэратар пацікавіўся стаўленнем аўдыторыі да адзінага палітыка (АП). Узнаўляю пытанне: «Каму ён яшчэ не надакучыў?» Я рашуча падняў дзве рукі. Такі ўчынак запатрабаваў тлумачэнняў.

Усё вельмі проста. Хіба можа надакучыць карміцель! Пра што б я і мае калегі пісалі, калі б не яго, як бы гэта мякчэй сказаць, неардынарныя заявы? Паводле якіх заўгодна мерак, чвэрць стагоддзя — немалы тэрмін. Маім аднагодкам яго цалкам хапала, каб закончыць школу і ўніверсітэт ды абзавесціся сям'ёй.

Чвэрць стагоддзя знаходжання аднаго чалавека на пасадзе, якая не прадугледжвае ніякіх абмежаванняў, у тым ліку і канстытуцыйных, — падзея ўнікальная. Можна сказаць, што ў геаграфічным цэнтры Еўропы прырода паставіла эксперымент на радасць усім, хто цікавіцца гуманітарнымі ведамі. Дзе і калі яшчэ складуцца ўмовы для яго паўтарэння? Так што варта не адцягвацца, а лавіць кожнае слова пентачэмпіёна электаральных прэзідэнцкіх кампаній.




## Недатыкальныя

На шчасце, за словам у кішэню АП лезці не прывык. Абмяжуюся адным адкрыццём з прэс-рэліза ад 15 студзеня, прысвечанага разгляду кадравых пытанняў: «Пакуль на стол мне не пакладуць вычарпальныя факты, ніхто да вас (прызначэнцаў АП. — *Заўвага рэд.*) дакрануцца не можа. Вы знаходзіцеся ў кадравым рэестры прэзідэнта і, натуральна, пад абаронай прэзідэнта. Але калі толькі я бачу канкрэтныя правапарушэнні, асабліва звязаныя з хабарамі і іншымі праявамі карупцыі, значыць, памнажайце на два як мінімум».

У Беларусі, такім чынам, маецца каста недатыкальных. Але, у адрозненне ад Індыі, дзе гэта каста знаходзіцца на самым дне сацыяльнай іерархіі, у «дзяржаве для народа» недатыкальныя належаць да вышэйшай касты, а дакладней, да вышэйшага саслоўя.

Я не памылюся. Нягледзячы на адсутнасць паняцця «саслоўе» ў Канстытуцыі, нам выпала шчасце / няшчасце (патрэбнае падкрэсліць) жыць у саслоўным грамадстве.

Грамадства капіталістычнае з яго класавай структурай, заснаванай на спажыванні (найбольш нізкі, сярэдні і вышэйшы клас), у Беларусі так і не склалася. З хаосу «ліхіх 90-х», як фенікс з попелу, адрадзіліся саслоўі. Гэта катэгорыя ўведзеная ў навуку для апісання іерархій служэння.

У рынкавай эканоміцы працуюць дзеля ператварэння рэсурсаў у капітал, у рэсурснай — служаць дзеля справядлівага размеркавання рэсурсаў. Таму паняцце справядлівасці з'яўляецца базавым у саслоўнай будове свету. Пра гэта рэгулярна і нагадвае АП.

«Саслоўная сацыяльная справядлівасць, — тлумачыць расійскі сацыёлаг Сымон Кардонскі, — палягае ў размеркаванні рэсурсаў паміж саслоўямі прапарцыйна іх становішчу ў іерархіі саслоўяў». Іншымі словамі, такі від справядлівасці не прадугледжвае механічнай роўнасці ні ў размеркаванні матэрыяльных выгод, ні роўнасці перад законам. Усё якраз наадварот. Тым, хто спрабаваў судзіцца з дзяржавай, спадзяюся, тлумачыць гэта не патрэбна.

Як у савецкім мультфільме пра казляня, якое ўмела лічыць да дзесяці, дзяржава нас не толькі ўсіх пералічыла, але і ранжыравала з пункту гледжання карыснасці для сябе. А карысць ад кожнага з нас далёка не аднолькавая. Адна справа — лекар і настаўнік, а зусім іншая — чыноўнік і сілавік.

Асобным радком праходзяць тыя, каму пашчасціла патрапіць у кадравы рэестр АП. Пра гэта ён і нагадаў 15 студзеня.

Здавалася б, пры чым тут кадравы рэестр? Канстытуцыя такога паняцця не ведае. Затое ў ёй 185 (!) разоў згадваецца слова «закон». Але мае рацыю тройчы мае рацыю АП, калі заяўляе, што «ўсё ў законах не прапішаш». Законы — гэта афіцыйная нарматыўная сістэма. Але яна не адзіная. У яе існуе канкурэнт — сістэма паняццяў, што ўзыходзіць да крымінальнай і турэмнай культуры.

Кожны постсавецкі чалавек, як і яго савецкі папярэднік, убірае з малаком маці ўменне выбару «правільнай» нарматыўнай сістэмы, г.зн. максімальна адпаведнай канкрэтнай сітуацыі.

«Сваім — усё, чужым — закон». Гэты базавы прынцып жыцця па паняццях не ў Беларусі вынайдзены, аднак і парламент не беларусы прыдумалі. Але ж жыць хочацца, і пажадана жыць так, каб потым не было пакутліва балюча за змарнаваныя гады.

## Стужка Мёбіуса

«Дзяржаўная ўлада ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на аснове падзелу яе на заканадаўчую, выканаўчую і судовую» (Канстытуцыя, артыкул 6). Вось такі прыклад з афіцыйнай нарматыўнай сістэмы. Для разумення яе суаднясення з сістэмай паняційнай рэкамендую чытачам правесці эксперымент са стужкай Мёбіуса.

Асаблівых ведаў і навыкаў не спатрэбіцца. Адрэжце палоску звычайнай паперы і з дапамогай клею злучыце яе канцы, папярэдне перавярнуўшы адзін канец адносна іншага на палову абароту. Колькі паверхняў у папяровага кальца? Той, хто мяркуе, што дзве, — памыляецца. Адна! Праверыць гэта вельмі проста. Вазьміце фламастар і паспрабуйце зафарбаваць адзін з бакоў стужкі, не адрываючыся і не пераходзячы на іншы бок. Атрымалася? Вось у тым і справа...

З нашымі нарматыўнымі сістэмамі тая ж гісторыя. Яны знаходзяцца на адным баку стужкі (жыцця) і пры гэтым умудраюцца не перасякацца. Зноў працытую Кардонскага: «Яны (нарматыўныя сістэмы. — *Заўвага рэд.*) існуюць у адной і той жа прасторы, у адных і тых жа людзях. Людзі расшчэпленыя: яны жывуць па паняццях, але інтэрпрэтуюць паводзіны навакольных у тэрмінах закона. І з іх пункту гледжання атрымліваецца, што ўсе парушаюць закон».

На першы погляд, выжыць у такіх спецыфічных умовах, а ўжо тым больш квітнець, практычна немагчыма. Аднак мільёны жылі, жывуць і яшчэ доўга будуць жыць, ды ўмудрацца пры гэтым зарабляць не толькі на хлеб з маслам, але і на новыя легкавыя аўтамабілі, што пацвярджаецца статыстыкай. У прыватнасці, паводле дадзеных Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі, у 2018 годзе аб'ёмы продажаў новых аўтамабіляў у Беларусі выраслі на 56% у параўнанні з мінулым годам, а мяжа ў 300 аўтамабіляў у разліку на 1 тысячу чалавек была пераадоленая ў рэспубліцы-партызанцы яшчэ ў 2015 годзе.

Такі бурны рост быў бы немагчымы без крэдытнай падтрымкі, але што гэта мяняе? На які б тэрмін ні выдаваўся крэдыт, вяртаць яго ўсё адно давядзецца, ды яшчэ і з працэнтамі. Без стабільнага даходу рашыцца на афармленне крэдыту — справа рызыкоўная, а ў саслоўным грамадстве стабільнасць даходаў наўпрост залежыць ад здольнасці дэманстраваць лаяльнасць начальству.

Мастацтвам такой дэманстрацыі беларусы авалодваюць з дзяцінства. Без дапамогі з боку дзяржавы справа, зразумела, не абыходзіцца. Але для таго і існуюць так званыя «канструктыўныя структуры грамадзянскай супольнасці»: БРСМ, «Белая Русь», прафсаюзы, жаночыя і ветэранскія арганізацыі.

## Калі гэтага не зразумеў — значыць, не міністр

Вернемся да нарады ў АП 15 студзеня. Акрамя выдатнага прызнання «На тэрыторыі Мінскай вобласці ў вёсцы я сам жыву», падзея запомнілася двума адкрыццямі вясковага жыхара наконт пытанняў адукацыі. Яны прагучалі пры прызначэнні Міхаіла Лусцянкова рэктарам Беларуска-Расійскага ўніверсітэта.

Першае тычылася неабходнасці прывядзення школьных праграм у нармальны выгляд: «У нас часам ужо ў восьмым-дзявятым класе вывучаюць тое, што мы раней вывучалі ў ВНУ. Няўжо так жыццё паскорылася? Няўжо ўсіх іх матэматыкамі рыхтуем? Таму трэба вельмі сур'ёзна заняцца адукацыяй. Калі міністр гэтага не зразумеў — значыць, ён не міністр».

Другое адкрыццё перакінула масток паміж сярэдняй адукацыяй і вышэйшай. Апошняя падпала пад крытыку за бесперапынныя спробы ўкараніць чужую нашай традыцыі двухступенькавую сістэму падрыхтоўкі спецыялістаў: «У магістратуру павінны ісці пераважна людзі, якія будуць займацца навукай і выкладаннем. Усіх туды скопам пасылаць не трэба. Добра, мы прысвоім званне бакалаўра пасля заканчэння ВНУ, каб дыпломы падыходзілі, але будзем лічыць, што гэта чалавек з вышэйшай адукацыяй».

Цікава, як падобныя адкрыцці спалучаюцца з прадэклараваным курсам на пабудову IT-краіны, або перад намі чарговы прыклад стужкі Мёбіуса? Але калі гэта так, дык любое рашэнне АП, якім бы экстравагантным яно ні здавалася для іншых назіральнікаў, не будзе выходзіць за межы «беларускай мадэлі».

Нешта падобнае мае аднагодкі маглі назіраць на прыкладзе КПСС, што абвясціла сябе кіруючай і накіроўваючай сілай савецкага грамадства. Любыя рашэнні, якія прымалі верныя ленінцы, заўсёды былі адзіна правільнымі, у тым ліку і рашэнні па адмене папярэдніх рашэнняў. А ўсім астатнім заставалася толькі вагацца разам з лініяй партыі, што яны паспяхова і рабілі, пакуль нечакана не выявілася, што нейкі Гарбачоў разваліў краіну.



Прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка (злева) і бацькі Міхася Жызнеўскага




На магіле Міхася Жызнеўскага ў Гомелі (злева ад помніка — бацькі Міхася)




Міхась Жызнеўскі быў пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Герояў Нябеснай сотні

# Гісторыя жыцця, смерці і ўганаравання беларускага Героя Украіны

Алена ЛІТВІНАВА

**Пяць гадоў таму, 22 студзеня 2014 года, падчас Еўрамайдана ў Кіеве быў забіты беларус Міхась Жызнеўскі. Пазней яго назавуць Героем Украіны, прэзідэнт Парашэнка перадасць Зорку Героя ягоным бацькам у 2017 годзе. Забойца дагэтуль не знойдзены.**

Ніна Жызнеўская, маці героя Нябеснай сотні Міхася Жызнеўскага, памерла 4 траўня 2018 года на 62-м годзе жыцця. Менш як праз месяц пасля таго, як пахавалі яе мужа, 73-гадовага Міхаіла Жызнеўскага.

«Нарэшце!» — так сацыяльныя сеткі ва Украіне адрэагавалі на ўганараванне званнем Героя Украіны беларуса Міхася Жызнеўскага. Залатую зорку героя атрымалі бацькі — Міхаіл і Ніна Жызнеўскія — у Кіеве падчас сустрэчы з прэзідэнтам Украіны Пятром Парашэнкам.

Менавіта бацькі набліжалі гэты дзень, неаднаразова звярталіся да ўкраінскіх уладаў з просьбай ушанаваць свайго сына пасмяротна найвышэйшай узнагародай Украіны. Такім чынам яны хацелі спыніць хвалю абразаў і абвінавачанняў у «бандэраўшчыне», якія пасыпаліся ў Беларусі на іх сям'ю адразу пасля гібелі Міхася.



Прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка разам з жонкай ускладаюць кветкі да помніка Міхасю Жызнеўскаму ў Кіеве



Дома ў бацькоў Жызнеўскага. Партрэты Міхася

## «Забілі Локі!»

Міхась Жызнеўскі стаў адной з першых ахвяраў сутыкненняў удзельнікаў Еўрамайдана з міліцыяй. Гэта адбылося раніцай 22 студзеня 2014 года, калі «Беркут» пайшоў у наступ на ўрадавым квартале на вуліцы Грушэўскага, разбіраючы барыкады і затрымліваючы людзей. Першым застрэлілі ўкраінскага грамадзяніна армянскага паходжання **Сяргея Нігаяна,** другім — **Міхася Жызнеўскага.** У той дзень загінулі пяць чалавек, і чацвёра з іх — у выніку агнястрэльных раненняў у грудзі, шыю і галаву. Каля 200 пратэстоўцаў атрымалі раненні.

У штабе нацыянальнага супраціву, дзе аказвалі медычную дапамогу параненым, нават не адразу ўдалося высветліць прозвішча беларуса — актывісты былі разгубленыя з прычыны гібелі замежнага грамадзяніна. Яго ведалі як Аляксея. Часам ён прадстаўляўся як Локі. Казаў, што выбраў гэтае імя са скандынаўскай міфалогіі — так звалі бога хітрасці і падману, які быў аднachасова станоўчым ды адмоўным героем.

Міхась Жызнеўскі браў удзел у акцыі пратэсту з першых дзён — ён уваходзіў у самаабарону, якая ахоўвала Еўрамайдан.

## Уцёкі ва Украіну

Міхась Жызнеўскі прыехаў ва Украіну ў 2005 годзе, калі яму было 17 гадоў. Як распавядала маці, Ніна Жызнеўская, кіраўнік рыцарскага клубу, у якім займаўся Міхась, узяў яго з сабою ў якасці «жывога шчыта»: нібыта ён пазычыў грошы на выраб сярэднявечных даспехаў, але пазыку не вярнуў і вымушаны быў уцякаць, хаваючыся ва Украіне. Але сам Міхась пераконваў сваіх сяброў з УНА-УНСО, што з'ехаў з Беларусі праз палітычны пераслед.

Ва Украіне Міхась спачатку спрабаваў замацавацца ў Данецку, потым у Крывым Рогу і Кіеве. Урэшце спыніўся ў Белай Царкве, што ў 90 кіламетрах ад украінскай сталіцы. Менавіта там ён працаваў зваршчыкам і мантажнікам вокнаў. Яго сябры сцвярджалі, што гэтая праца для Локі была толькі сродкам заробку — ён працягваў цікавіцца гісторыяй, міфалогіяй, вайсковай справай і рыцарскім рухам. Міхась займаўся страйкболам і, дарэчы, менавіта дзякуючы гэтаму захапленню далучыўся да УНА-УНСО — у гэтай арганізацыі была выдатная страйкбольная каманда.

Пасля ўцёкаў ва Украіну Міхась Жызнеўскі не кантактаваў з сям'ёю на працягу 7 гадоў. Што праўда, у 2014 годзе планаваў паездку да бацькоў у Гомель.

## Развітанне ў дзень нараджэння

У дзень нараджэння, калі Міхасю Жызнеўскаму павінна было споўніцца 26 гадоў, з ім развіталіся ў Міхайлаўскім саборы Кіева. Пасля паніхіды, на якую прыйшлі каля 10 тысяч чалавек, труну пад выгукі «Герой» і «Жыве Беларусь!» неслі па некалькіх вуліцах Кіева, праз майдан Незалежнасці да барыкадаў на вуліцы Грушэўскага, дзе ён загінуў.

## Самы вядомы герой Нябеснай сотні

У часе Рэвалюцыі годнасці загінулі больш як 100 украінцаў. Усе яны пасмяротна былі ўганараваныя званнем Героя Украіны. За выключэннем двух замежных грамадзян — беларуса Міхася Жызнеўскага і грузіна **Давіда Кіпіяні.** Для ўкраінцаў яны ўсё роўна засталіся героямі, хоць і без зоркі. Абодва сталі рыцарамі ордэна Героеў Нябеснай сотні — гэтая ўзнагарода была заснаваная ў 2014 годзе ўжо пасля змены ўлады ва Украіне.

Міхась Жызнеўскі стаў адным з самых вядомых герояў ва Украіне. Яго памятаюць і шануюць.

У 2015 годзе была заснаваная ўкраінска-беларуская літаратурная прэмія памяці Жызнеўскага «Воін святла». Яе штогод прысуджаюць украінскаму і беларускаму аўтару за стварэнне вобраза героя, які адстойвае свабоду і справядлівасць.

У 2016 годзе імем Міхася Жызнеўскага перайменавалі вуліцу Германа Цітова ў горадзе Оўруч Жытомірскай вобласці.

У Кіеве на вуліцы Грушэўскага ёсць два помнікі беларусу Міхалу Жызнеўскаму, у тым ліку на месцы яго гібелі пасярэдзіне праезнай часткі вуліцы Грушэўскага, а таксама памятная дошка на вуліцы Беларускай і іншыя памятныя знакі з партрэтам Міхася.

## Шлях да зоркі

Ва Украіне больш як тры гады ішлі дыскусіі, як ушанаваць вышэйшай узнагародай замежных грамадзян, якія загінулі падчас Рэвалюцыі годнасці. У парламент накіроўваліся некалькі варыянтаў адпаведнага законапраекту.

Вярхоўная Рада Украіны на ініцыятыву прэзідэнта ўхваліла змены ў закон «Аб дзяржаўных узнагародах», згодна з якімі званне Героя Украіны можа прысвойвацца як выключэнне тым замежным грамадзянам, якія ўжо «ўзнагароджаныя ордэнам Героеў Нябеснай Сотні, а таксама за здзяйсненне выключнага геройскага ўчынку, звязанага з адстойваннем канстытуцыйных прынцыпаў дэмакратыі, правоў і свабод чалавека падчас Рэвалюцыі годнасці (лістапад 2013-га — люты 2014 года)».

З 2016 года бацькі — Міхаіл ды Ніна Жызнеўскія — атрымлівалі і пажыццёвую пенсію, прызначаную ўказам прэзідэнта Пятра Парашэнкі на ўшанаванне памяці іх сына.

## Няпросты выбар для Лукашэнкі

Падчас вясновых акцыяў пратэсту ў Беларусі дзяржаўныя СМІ выкарыстоўвалі факт гібелі Міхася Жызнеўскага ў прапагандысцкіх фільмах, малюючы негатыўны вобраз Еўрамайдана. Дый сам Аляксандр Лукашэнка, калі закранаў тэму ўдзелу беларусаў у ваенных дзеяннях на Данбасе, выказваўся даволі рэзка, хоць і пазбягаў згадваць імя Міхася Жызнеўскага.

«З тымі, хто сёння ваюе, мы разбярэмся, калі яны вернуцца ў краіну. Я ўсіх папярэдзіў, і на заканадаўчым узроўні мы прынялі рашэнне: калі ты пайшоў ваяваць (гэта значыць забіваць) — не важна, на баку Данбаса ці супраць яго, — то мы з цябе спытаем. Гэта адзінкі, можа, нейкія два дзясяткі чалавек. Адзін на Майдане паваяваў — труп прывезлі», — заявіў ён у 2015 годзе падчас наведвання БМЗ ў Жлобіне.

Ва Украіне наведванне мемарыялу на алеі Герояў Нябеснай сотні ў Кіеве стала пратакольным мерапрыемствам для ўсіх афіцыйных замежных дэлегацый. І, верагодна, у кіраўніка Беларусі будзе няпросты выбар: ці пакласці кветкі да помніка беларусу, што загінуў на Майдане? Сёлета ў жніўні чакаецца візіт Лукашэнкі ва Украіну.

Тэкст і фота «Радыё Свабода»

25 студзеня 2019 | № 3 (614) Новы Час

# Рускі прывід

## Гісторыя аднаго артыкула, які апярэдзіў час

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Чытачоў, якія набылі суботні нумар ад 15 студзеня 1994 года папулярнай «Народнай газеты» (дарэчы, выдання на той час вышэйшага заканадаўчага і прадстаўнічага органа ўлады — Вярхоўнага Савета), чакала сапраўдная сенсацыя.**

На другой старонцы нумара на ўсю паласу быў апублікаваны артыкул лідара Беларускага народнага фронту і кіраўніка парламенцкай апазіцыі БНФ Зянона Пазняка пад назвай «О русском империализме и его опасности».

Артыкул быў пададзены на рускай мове, аднак мелася невялічкая прадмова, у якой давалася адпаведнае тлумачэнне. Паводле прызнання самога аўтара, ён свядома ўжыў рускую мову, каб надрукаваць артыкул у галоўнай прасаўмінаўскай газеце «Советская Белоруссия». Па словах Пазняка, там друкаваць яго артыкул катэгарычна адмовіліся, таму ён звярнуўся ў «Народную газету». Сам лідар БНФ пры гэтым заўважыў, што ў «Народнай газеты» «зусім іншы ўзровень», чым у «Советской Белоруссии», дый у іншых выданнях. Са свайго боку, рэдакцыя «Народнай газеты» паведаміла, што мусіць даць слова Зянону Пазняку паводле заканадаўства аб статусе народнага дэпутата і аб сродках масавай інфармацыі.

### Чаму адмовіліся?

Праз два дні ў сваёй калонцы пад назвай «Писание от лукавого, или о том, почему "Советская Белоруссия" отказалась печатать статью лидера Белорусского народного фронта Зенона Позняка» выказаўся галоўны рэдактар «Советской Белоруссии» Ігар Асінскі (гэты рэдактар узначаліў газету ў лістападзе 1993 года).

Асінскі заявіў, што артыкул Пазняка пададзены ў зневажальнай у адносінах да рускага народа і Расіі форме, а гэта, маўляў «торпедирует» жыццёва неабходны для Беларусі грашовы саюз з Расійскай Федэрацыяй. Асінскі сцвярджаў, што на Захадзе беларусы ніколі не былі і не будуць патрэбныя: «Даже если все 10 миллионов белорусов будут петь по утрам и вечерам аллилуйю Западу, он никогда не станет оказывать нам экономическую помощь в таких же масштабах, как Эстонии, Литве и Латвии».

Як чалавек, зразумела, залежны ад Кебіча, Асінскі не змог не абысці пытанне рэйтынгу Савета Міністраў. Асінскі прыводзіў лічбы апошняга апытання грамадскай думкі, праведзенага Інстытутам сацыялогіі Акадэміі навук: за адстаўку ўрада нібыта выступаюць 16,6% насельніцтва, між тым Пазняка падтрымліваюць толькі 4,2% (фарміраванне адпаведнай грамадскай думкі на карысць Кебіча тады актыўна курыраваў сацыёлаг Ігар Катляроў).

Асінскі прызнаў, што антырасійскі складнік ідэалогіі БНФ вядомы, але дзівіўся таму, «откуда такая сверхоткровенность, граничащая с той, на которую способен человек после изрядной дозы спиртного». І даў уласны «вразумительный» адказ: «От полного паралича, охватившего все ветви власти». У якасці аднаго з фактараў, які бачыцца ён сведчыў пра такі параліч, Асінскі прыводзіў візіт у Беларусь 15 студзеня 1994 года Біла Клінтана. Галоўны рэдактар абураўся, чаму такі прыезд, маўляў, вызначалі амерыканскі пасол і беларуская апазіцыя, чаму прэзідэнт ЗША наведаў не Курган Славы ці Хатынь, а Курапаты, «последнее слово о которых отнюдь не сказано».

У канцы Асінскі заявіў пра тое, што «националистическая оппозиция перешла в решительное наступление», і зрабіў бязлітасную выснову: калі б такі артыкул з'явіўся ў Германіі, то лідара БНФ прыцягнулі б да крымінальнай адказнасці за распальванне нацыянальнай варожасці.

### Укрыжаваць яго!

Кліч Асінскага наконт прыцягнення Пазняка да крымінальнай адказнасці падхапілі ветэраны і камуністы Бабруйска. Праз камуністычную газету «Мы и время» яны звярнуліся ў вышэйшыя органы, у прыватнасці, да генеральнага пракурора Васіля Шаладонава. Бабруйчане «недоумевали о причине молчания генерального прокурора республики по части очередной фашистской выходки З. Позняка».

Не засталіся ўбаку і дэпутаты Вярхоўнага Савета. На пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета 20 студзеня 1994 года Міхаіл Сасноўскі заявіў, што мэта артыкула Пазняка палягае ў тым, каб «взорвать белорусско-российские отношения, осложнить реализацию наметившегося экономического и политического сотрудничества с Россией». Тое, што прапаноўвае Пазняк, казаў Сасноўскі, гэта «путь к конфронтации, к столкновению, к кровавым драмам». Калега Сасноўскага, дэпутат ад арганізацыі ветэранаў вайны і працы Аляксандр Траццякоў накіраваў афіцыйны запыт Шаладонаву, каб той распачаў афіцыйнае расследаванне.



У адказ дэпутат ад апазіцыі БНФ Лявон Баршчэўскі нагадаў пра інцыдэнт у Мінску (16 студзеня 1994 года) з Булатам Акуджавам. 16 студзеня 1994 года гэты сусветна вядомы бард даў канцэрт у Белдзяржфілармоніі. Аднак левыя камуністы і панславісты (Славянскі Сабор «Белая Русь») усяляк імкнуліся сарваць канцэрт. Навошта, пытаўся Баршчэўскі, нам саюз з такой Расіяй, «дзе і Анпілаў паэт»?

У сувязі з гэтым незалежная газета «Свабода» ўсур'ёз меркавала, што артыкул Пазняка можа стаць добрай нагодай для забароны БНФ у цэлым. Бо публікацыя выклікала адпаведны рэзананс у расійскіх урадавых колах. Гэта пацвярджае ў сваіх мемуарах «Искушение властью» былы прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч: нібыта яго калега Віктар Чарнамырдзін абураўся тым, што Беларусь хоча адабраць у Расіі Смаленск.

Аднак зімой 1994 года кампанія супраць Пазняка не пайшла далей за словы і прапановы. Каб не ствараць прэцэдэнт, улады не сталі распачынаць справу. Тым больш, што ў Кебіча меўся свой разлік. У лістападзе 1993 года пытанне аб справаздачы галоўнага рэдактара «Народнай газеты» па ініцыятыве ветэранаў-дэпутатаў было ўключана ў парадак дня 13-й сесіі Вярхоўнага Савета. За гэтую ініцыятыву прагаласавалі 188 народных абраннікаў, зачэпкай для яе паслужыла інтэрв'ю Шушкевіча ў верасні 1993 года галоўнаму рэдактару «Народнай газеты». Тады Сярэдзіч прапанаваў старшыні Вярхоўнага Савета «аб'яднацца» з Расіяй і Украінай, каб нанесці ўдар па сілах мінулага.

Дэпутаты-ветэраны Мікалай Лакцюшын і Надзея Ізвалава запатрабавалі ад Сярэдзіча тлумачэнняў: па кім і ў якіх маштабах ён хоча нанесці ўдар.

Для лідара БНФ сітуацыя, калі яго жадалі прыцягнуць да адказнасці, была добра знаёмая. Яшчэ 23 лістапада 1989 года Лепельская раённая арганізацыя ветэранаў вайны і працы накіравала ў Вярхоўны Савет БССР ліст, у якім выказвала здзіўленне і абурэнне «степенью деградации лидера БНФ». Гаворка ішла пра выступ Пазняка на другім з'ездзе Народнага фронту Латвіі 8 кастрычніка 1989 года. У сваёй антыкамуністычнай прамове Пазняк назваў СССР «нашим общим гробом». Абураныя ветэраны пісалі: «Позняк называет СССР тюрьмой народов. Ах, Зенон, Зенон, не видел ты тюрьмы. Тебе мало стало твоего академического иждивенчества на горбу рабочих и крестьян. Наш корабль штормит, но мы не допустим, чтобы позняковские крысы прогрызли его днище».

Аднак лістом ветэранаў справа не скончылася. Шэраг дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР 11-га склікання накіравалі ліст на імя прэзідэнта АН БССР Уладзіміра Платонава. У лісце было пастаўлена пытанне-ўльтыматум: што робіцца кіраўніцтвам АН «по прекращению раскольнической антиконституционной деятельности сотрудника Института истории З.С. Позняка». 6 снежня 1989 года старшыня Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Мікалай Дзямянцей даў Платонаву даручэнне разгледзець справу. 15 студзеня 1990 года адбылося сумеснае пасяджэнне дырэкцыі і прафсаюзнага камітэта Інстытута гісторыі.

Аднак ніякіх санкцый да Пазняка ўжыта не было. У рашэнні пасяджэння гаварылася, што «по ряду позиций дирекция и профсоюзный комитет не разделяет взглядов Позняка, особенно про тюрьму народов». Адначасова ў рашэнні адзначаўся «некорректный тон письма, особенно выражение "академическое иждивенчество на горбу рабочих и крестьян"». У рашэнні канстатавалася, што навукоўцы атрымліваюць нізкую зарплату ў параўнанні з іншымі катэгорыямі работнікаў па краіне ў цэлым. Таксама супрацоўнікі Акадэміі падкрэслівалі, што «из письма вытекает стремление авторов положить конец плюрализму мнений, а это противоречит духу перестройки».



**Вячаслаў Кебіч і Віктар Чарнамырдзін падчас сумеснай заявы аб аб'яднанні грашовай сістэмы Рэспублікі Беларусь з грашовай сістэмай Расійскай Федэрацыі, 5 студзеня 1994 года.** «Советская Белоруссия», студзень 1994 года.

Працяг на стар. 19

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №1 (149)
(студзень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест



# Пасля нябыту: Зміцер Жылуновіч

**Зміцер Хведаравіч Жылуновіч... Ён жа — Капылянін, Сымон Друк, Авадзень, Цішка Гартны. Паэт, празаік, перакладчык, журналіст. Мастацкі вобраз аўтара «Маніхвэста Часовага рабоча-сялянскага ўраду Беларусі», абвешчанага 1 студзеня 1919 года, стварыў у сваёй дакументальнай аповесці «Без эпітафіі» (1989) Эрнест ЯЛУГІН.**




Фота Юліі Брожынай

**Адзіны ў Беларусі памятны знак, усталяваны ў гонар Зміцера Жылуновіча (Цішкі Гартнага) у 2000 годзе каля Капыльскага раённага краязнаўчага музея. Грошы былі сабраныя гараджанамі на суботніках, а стварыў яго мясцовы скульптар Уладзімір Бандарэнка.**

Пісьменнік распавёў нам пра сваю працу над біяграфіяй кіраўніка першага ўрада БССР, акадэміка АН БССР.

***— Эрнест Васільевіч, Зміцер Жылуновіч блізкі Вам як публіцыст, рэдактар газеты і часопіса. Што падштурхнула даследваць яго жыццё і дзейнасць? Якія абставіны і асобы паспрыялі ў стварэнні кнігі пра яго?***

— У канцы 80-тых гадоў я працаваў адказным сакратаром часопіса «Нёман». Палацкіх чытачоў зацікавілі мае эсэ пра Мікалая Улашчыка і Адама Мальдзіса ў кнізе «Толькі камні», і ў рэдакцыі мне даручылі напісаць пра Жылуновіча да 100-годдзя з яго дня народзінаў. Мне паспрыяў Аляксей Кароль, які працаваў у Інстытуце гісторыі партыі. Праз яго я атрымаў доступ да дакументаў пра допыты. Падзяліліся сваімі знаходкамі Віталь Скалабан, аўтар дысертацыі пра дзейнасць Беларускага Нацыянальнага Камісарыята, і У. Д. Якутаў — аўтар прац пра Аляксандра Чарвякова. Багаты гісторыка-літаратурны і чалавеказнаўчы матэрыял быў сабраны ў кнізе «Успаміны пра Цішку Гартнага», укладальнікамі якой была дачка пісьменніка, кандыдат філалагічных навук Г. З. Жылуновіч і вядомы зямляк Гартнага, доктар гістарычных навук С. Х. Александровіч.

Першы варыянт кнігі на рускай мове быў надрукаваны ў часопісе «Нёман» пад назвай «После небытия». Яе прызналі наватарскай. Мне важна было паказаць, што зрабіў Зміцер Жылуновіч як дзяржаўны дзеяч. Кніга выходзіла ў СССР вялікім накладам. Калі ўтварылася Рэспубліка Беларусь з ідэяй незалежнасці, узнятая тэма стала яшчэ больш актуальнай.

Ну а пра публіцыстыку і газету... У свой час, калі Ніл Гілевіч і Алег Трусаў запрасілі мяне да рэдагавання ў «Нашым слове», я зразумеў, якой важнай з'яўляецца газета як калектыўны арганізатар і натхняльнік...

Акрама таго, я знайшоў месца, дзе пахаваны Жылуновіч.

***— Як гэта адбылося?***

— Я тройчы наведваў Магілёўскую псіхалякарню, дзе некалі знаходзіўся Жылуновіч. Я знайшоў трох сведак, якія распавялі мне пра падзеі 1937 года: урача і дзвюх санітарак шпіталя. Адна з санітарак па прозвішчы Зваркова была маладой дзяўчынай у той час. Яна трапіла туды за сваім бацькам, таму што сям'ю раскулачылі і бацька звар'яцеў ад роспачы, а маці і маленькае дзіця выкінулі на вуліцу, і ніхто не даваў ім прытулку. Старэйшая дзяўчынка прабілася да свайго бацькі і працавала ў шпіталі санітаркай.

Урэшце, бацька Звярковай памёр, і яго пахавалі ў той яме, дзе і Змітра Жылуновіча. Яна праходзіла туды наведваць свайго бацьку. Яна і паказала мне гэта месца, бо выдатна яго ведала. Калі я быў удзельнікам здымачнай групы дакументальнага фільма па маёй кніжцы «Без эпітафіі», то сведкаў знялі на кінакамеру. (Каля 25 гадоў фільм паказваюць па тэлебачанні.) Сведкі паведамілі, што былі там і бачылі мёртвага Жылуновіча. У іх у той час была ўзята падпіска пра неразгалошванне. Афіцыйнай версіяй лекараў была гангрэна лёгкіх, але ёсць меркаванне, што гэта было самагубства.

Жылуновічу спецыяльна дазвалялася прыходзіць у кантору і чытаць газеты. Калі ён даведаўся, што ў Маскве ідзе суд над нацдэмамі, ён зразумеў, што яго можа чакаць такі ж лёс. Каб пазбегнуць жорсткіх катаванняў, ён пайшоў на мужны ўчынак, бо не хацеў патрапіць сведкам на працэс, і не хацеў, каб знішчылі яго сям'ю. Жонку Надзею Сцяпанаўну, сына і дачку як сям'ю ворага народа проста выслалі з Беларусі і не дазволілі ім жыць у вялікіх гарадах; ім даводзілася цяжка. У асяроддзі вязняў ведалі, што Жылуновіч скончыў з сабой, гэта быў ягоны апошні мужны

**У 1925 годзе Жылуновіч вязе ў Берлін дзвесце тысяч марак і два пуды рукапісаў, каб выпусціць у свет падручнікі на беларускай мове і некалькі томікаў беларускага прыгожага пісьменства**

ўчынак, бо ён ратаваў і сваю рэпутацыю, і сваю сям'ю.

У другое выданне кнігі, падрыхтаванае для «Мастацкай літаратуры», я дадаў усе новыя звесткі. Але яно, на жаль, не выйшла.

***— У кнізе Вы паказалі Жылуновіча ў розных перыядах жыцця: маладым гарбаром з Капыля, потым — карэспандэнтам «Нашай Нівы», рэдактарам «Дзянніцы», сакратаром Беларускага Нацыянальнага Камісарыята, кіраўніком першага ўрада БССР і рупліўцам Дзяржвыдавецтва БССР.***

— У мяне была задача не зрабіць гістарычную бухгалтэрыю, а стварыць вобраз. Я шукаю сацыяльныя і псіхалагічныя прычыны кожнай з'явы ў гісторыі. Я натхніў Генрыха Далідовіча, і ён у сваіх публікацыях развіў гэту тэму, быў маім пераемнікам.

***— Жылуновіч схіліўся да бальшавікоў. Чаму так здарылася?***

— Калі прачытаць іх праграму, яны абяцалі перадаць зямлю рабочым і сялянам, запэўнівалі, што рабочыя на заводах будуць самі выбіраць сваё кіраўніцтва і частку прыбытку размяркоўваць паміж сабой. Бальшавікам удалося пераканаць народ, што яны зробяць лепшым жыццё. У той жа час дзеячы БНР не маглі згуртавацца, спрачаліся паміж сабой.

***— Вы стварылі рознапланавы партрэт Цішкі Гартнага...***

— Ён заўсёды сачыў за сваім знешнім выглядам, любіў прыгожа апранацца. Як толькі дазволілі ўмовы, купіў шэры франтаваты касцюм-тройку. Насіў белыя накрухмаленыя каўнерыкі, гальштук-матылёк, велюравы капялюш з вузкімі палямі, прывезены з Германіі. У Капыль ён прыязджаў заўсёды ў самым лепшым касцюме, падарункі прывозіў не толькі радні, але і суседзям, дзяцей частаваў цукеркамі, пернікамі. Многім гэта падабалася.

А нехта цішком зайздросціў. Так з'явіўся данос у ЦК. На першым плане фігуравала тое, што Жылуновіч прымаў удзел у пахаванні свайго швагра з царкоўнымі ўшанаваннямі, а следам — што быў апрануты па-буржуйску, нават пачапіў гальштук.

У чэрвені 1924-га яго на год выключаць з партыі — «за адарванасць ад мас і абывацельскую псіхалогію».

У 1925 годзе Жылуновіч вязе ў Берлін дзвесце тысяч марак і два пуды рукапісаў, каб выпусціць у свет падручнікі на беларускай мове і некалькі томікаў беларускага прыгожага пісьменства. Ён узначальвае Дзяржаўнае выдавецтва БССР, актывізуе выдавецкую працу, рупіцца пра паліграфічнае забеспячэнне...

А ў 1928-ым ён становіцца правадзейным членам Інбелкульта. У 1934—1936 гадах працуе ў Інстытуце гісторыі БелАН, чытае лекцыі па гісторыі Беларусі... У сваю кніжку я ўключыў і вершы Змітра Жылуновіча.

***— У БССР да выхаду Вашай кнігі не было поўнай праўдзівай публікацыі пра лёс кіраўніка яе першага ўрада. Гэта сведчыць пра рэпрэсіўны характар савецкай сістэмы?***

— Калі не ўдалося рэалізаваць ідэю БНР, Жылуновіч і Чарвякоў думалі пра тое, што трэба падтрымаць БССР, таму што незалежнай была абвешчана не толькі асобная вобласць, а ўся краіна, хаця і ў форме савецкай рэспублікі. Інстынктыўна яны разумелі, што ні адна імперыя не ўтрымліваецца вельмі доўга, у іх было спадзяванне, што наперадзе будзе нешта лепшае, як пісалі: «Загляне сонца і ў наша ваконца».

Зміцер Жылуновіч спадзяваўся, што калі абвешчана нацыянальная рэспубліка, то з цягам часу пачнуць выкладаць усе прадметы на беларускай мове ў школах, будзе працаваць у кожным горадзе нацыянальны тэатр, возьмецца за культурную справу інтэлігенцыя і будзе створаны нацыянальны друк.

**Гутарыла Эла Дзвінская**

# Анталогія «Eurozine» з беларускім творам

**Тое, што пачалося трыццаць пяць гадоў таму як нефармальная сустрэча еўрапейскіх рэдактараў, стала асновай для праекта «Eurozine», заснаванага ў 1998 годзе ў якасці анлайнавага культурніцкага часопіса і еўрапейскай сеткі рэдакцый часопісаў.**

Каб адсвяткаваць юбілей, «Eurozine» выдаў адмысловую анталогію, якая ахоплівае праект храналагічна, тэматычна і геаграфічна. Кніга дае ўяўленне аб двух дзесяцігоддзях уцягнутасці ў самы цэнтр еўрапейскіх дыскусій. Ад новых нацыяналізмаў да Еўра-Ісламу, ад Парыжа і Прагі да свабоды слова і ролі інтэлігенцыі, ад алгарытмаў да палітыкі пост-праўды і маскуліннасці Уладзіміра Пуціна і Дональда Трампа, — зборнік тэкстаў, якія пашыраюць кантэкст.

Зборнік адкрываецца прадмовай сузаснавальнікаў «Eurozine» Карла-Хенрыка Фрэдрыксана і Клаўса Нэлена. Анталогія ўключае тэксты Славенкі Дракуліча, Яна-Вернера Мюлера, Іды Бёр'ель, Жака Рупніка, Цімаці Снайдара, Тацяны Журжэнка, Марсі Шор, Кенана Маліка, Нілюфер Гёле, Катрын Пасіг і Ахілла Мбембе. Беларусь прадстаўлена перакладам эсэ «Нічый Чарнобыль» Барыса Пятровіча.

Кніга ва ўсім свеце цяпер даступная праз «Eurozine». Аформіць заказ можна непасрэдна па электроннай пошце: office@eurozine.com.

Вось толькі два выказванні пра анталогію і сам праект «Eurozine»:

«Еўропа разрываецца на часткі. Тым не менш, адным са станоўчых наступстваў крызісу ў ЕС з'яўляецца тое, што еўрапейцы пачалі цікавіца адно адным. Фінансавы крызіс прымусіў звычайных немцаў стаць экспертамі па эканоміцы Грэцыі і Італіі; міграцыйны крызіс зрабіў чэхаў і палякаў экспертамі па нямецкай сістэме прытулкаў. Карацей кажучы, адзіная еўрапейская публічная сфера ў цяперашні час больш рэальная, чым калі-небудзь раней. Калі і ёсць праект, які ўвасабляе ў сабе гэтую ідэю, то гэта «Eurozine». Што можа быць больш еўрапейскім, чым невялікі часопіс вялікіх ідэй? Калі б «Eurozine» не існаваў, яго трэба было б прыдумаць. Дзякуй Богу і наяўным заснавальнікам, ён ужо з намі» (Іван Крысцеў, «After Europe»);

««Eurozine» — лекі ад інтэлектуальнай астмы» (Ола Ларсмо, «Dagens Nyheter»).

Сетка еўрапейскіх культурніцкіх часопісаў «Eurozine» уключае ў сябе больш за 120 выданняў, у тым ліку — літаратурна-мастацкі часопіс «Дзеяслоў».

**Ул. інф.**

# Мядовая прэмія

**Літаратурную «Мядовую прэмію» за мінулы год, заснаваную ў 2001-ым берасцейскім паэтам і пчаляром Міколам Папекам, атрымаў з рук фундатара таленавіты берасцейскі паэт і тэлежурналіст Мікола Пракаповіч.**

Пуд (вядро) мёду, а разам з ім адмысловы нагрудны знак і дыплом былі ўручаны яму за выдадзены Саюзам беларускіх пісьменнікаў у сталічным «Кнігазборы» зборнік вершаў «Прытулак памяці», а таксама аднайменную п'есу для батлейкі. Ганараванне прайшло ў Культурна-адукацыйным цэнтры «Вясковы рэнесанс» аграсядзібы «Стулы», што ў Пружанскім раёне, на ўскрайку Белавежскай пушчы.

Сядзіба Аляксандра і Ларысы Быцко для правядзення святочнай імпрэзы была выбрана не выпадкова. Менавіта тут у красавіку мінулага года пры самым актыўным удзеле саміх гаспадароў, якія выступілі ў якасці артыстаў-лялечнікаў, упершыню быў пастаўлены батлеечны спектакль «Прытулак памяці» па п'есе Міколы Пракаповіча. Пастаноўка мела добры розгалас і заахвоціла Ларысу і Аляксандра яшчэ з большай сілай прапагандаваць сваё, роднае. Па словах прыветнай гаспадыні, цяпер пасля двух-трох гадзін знаходжання ў адукацыйным цэнтры нават гарадскія дзеці пачынаюць размаўляць па-беларуску.

Перадсвяточная вечарына ў «Стулах», якая (нягледзячы на снежную замець і бездарожжа) сабрала больш за паўсотню гасцей, адкрылася прэм'ерай «Палескай батлейкі», прысвечанай памяці вядомага земляка, дыялектолага, перакладчыка на заходнепалескую гаворку «Новага запавета» Фёдара Клімчука.

Літаратурную частку сустрэчы вёў кіраўнік Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Мікола Аляхновіч. Ён заўважыў, што рэгіянальная літаратурная прэмія з кожным годам набывае ўсё большую вагу, згадаў імёны папярэдніх яе лаўрэатаў. На вялікі жаль, толькі за апошнія гады мы развіталіся з Алесем Каско (ён атрымаў «Мядовую» першым), Валянцінай Куксай, Кастусём Жмінько, Алесем Зайкам. Іх словы асабліва кранальна гучалі з экрана.

Добрыя словы пра творчасць Міколы Пракаповіча прамовілі яго сябры. У прыватнасці, мастак Мікалай Кузьміч адзначыў, што Пракаповіча-тэлежурналіста можна з поўным правам лічыць летапісцам культурнага жыцця Берасцейшчыны. Вядомая паэтэса Ярына Дашына выказала ўдзячнасць Міколу Пракаповічу як свайму літаратурнаму настаўніку. Мікола Папека жартам заўважыў, што «Мядовая прэмія» зачакалася паэтавага юбілею і ягонай новай кнігі.

У падмурку надзейна складзенага творцам паэтычнага дома ляжаць такія ключавыя паняцці, як Айчына, Сябрына, родная Мова. Якому сапраўднаму беларусу не вядомы кранальныя радкі Пракаповічавага верша «Запавет Васіля Цяпінскага»!

*Жывы народ, пакуль жывое СЛОВА.*
*Крыніцаю з-пад глею і жарствы*
*адродзіцца праз ваш ратунак мова, —*
*адродзіцеся з роднай мовай вы!*

Літаратурная імпрэза ў «Стулах» завяршылася аўтограф-сесіяй, святочнай — нягледзячы на тое, што посная — вячэрай і новымі цікавымі знаёмствамі.

**Мікола Сянкевіч**

# «Я з палескага сяла...»

## Міколу ПАЦЕЮКУ — 80

**Мікола Пацяюк нарадзіўся 24 снежня 1938 года ў вёсцы Ляхаўцы Маларыцкага раёна. Служыў на флоце, закончыў Гродзенскае музычна-педагагічнае вучылішча і Брэсцкі педінстытут. Паводле слоў самога Мікалая Іванавіча, «тры гады бадзяўся па морах і акіянах і паўвеку слугаваў школе, дзецям, роднаму краю». Выдаў зборнікі вершаў «Мелодыя сэрца», «Душой не пакрывіць», «З-пад буслінага крыла». Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

Словамі, вынесенымі ў загаловак, адкрываецца другі па ліку зборнік паэта. І гэта не скрушнае: «Прабачце, бо я з глухога палескага сяла!», а ўдзячнае, з гонарам: «Я сын гэтай зямлі! Мяне выгадавала палеская вёска!»

Бацька Міколы загінуў на вайне, хлопчык зведаў усё, што выпала на долю ягоных аднагодкаў, але сэрца будучага паэта не стала жорсткім, у ім нарадзілася і песцілася здольнасць бачыць адметнае і прыгожае. Як у вершы пра першы снег:

*Вішні белыя ў рады.*
*А па сцежцы ўздоўж садочка*
*З боку левага сляды,*
*З боку правага — слядочкі.*

Міла, хораша... Адразу паўстае ва ўяўленні шчаслівая маці — за руку з гарэзным дзіцём.

Свой паэтычны аповед Мікола Пацяюк вядзе няспешна, вольна. Яго верш адрозніш нават зрокава: ён цэльны, няма падзелу на страфы. Радкі шырокія, амаль што на ўсю прастору старонкі. Думка не абрываецца пасярод радка, што надае вершу асаблівую напеўнасць. Гэта ў тым ліку і пра Міколу Пацеюка пісаў Уладзімір Каратекевіч у сваім знакамітым нарысе «Зямля пад белымі крыламі»: «...Колькі паветра набрана ў лёгкія, столькі і аддадзена, шчодра, да апошняга, нават з лішнімі словамі, каб мелодыя сказа была завершана».

У Міколы Пацеюка мяккі народны гумар. Свой, не на ўзроўні анекдотаў. Паспрабуй не ўсміхнуцца, калі чытаеш:

*Не пытайся ты, суседка, у мяне*
*Пра здароўе: тут прыцісне, там — кальне.*

І ў ацэнцы сваіх паэтычных набыткаў паэт таксама іранічны:

*Не майстар я славесных выкрунтасаў,*
*Мой верш не прэтэндуе на вякі;*
*Я ўсім, хто здольны падкаваць Пегаса,*
*Гатоў трымаць падковы і цвікі.*

Вось каб усе, хто спрабуе нешта рыфмаваць, гэтак жа крытычна адносіліся да сваёй творчасці!..

Апошнім часам Мікола Пацяюк захапіўся перакладамі валынскіх паэтаў, неадназразова друкаваўся ва ўкраінскім Луцку. Любімыя аўтары — Ніна Горык і Тацццяна Якавенка. А яшчэ лёгка, на зайздрасць маладым, ён асвоіў камп'ютар, упэўнена адчувае сябе ў інтэрнэтпрасторы. Сваю жыццёвую пазіцыю паэт абазначыў наступнымі радкамі:

*Не зачарсцвець, не скіснуць,*
*не астыць,*
*Не пакрывацца цвіллю год ад году.*
*Бо для чаго тады, скажыце, жыць,*
*Калі ў жыцці не бачыць асалоду.*

Творчага Вам і жыццёвага даўгалецця, шаноўны Мікалай Іванавіч!

**Мікола Сянкевіч**

# Будзем чытаць «Дзеяслоў»!

**Незалежны літаратурна-мастацкі часопіс «Дзеяслоў» выходзіць у Беларусі з верасня 2002 года. Неўзабаве з'явіцца яго 100-ы нумар!**



За адносна кароткі час «Дзеяслоў» здолеў стаць папулярным і вядомым у краіне. Сёння ён — самае аўтарытэтнае літаратурна-мастацкае выданне Беларусі. Вакол «Дзеяслова» аб'ядноўваліся і аб'ядноўваюцца як знакамітыя пісьменнікі, так і самыя перспектыўныя маладыя аўтары.

«Дзеяслоў» — альтэрнатыва дзяржаўным літаратурна-мастацкім выданням, дзе ўстаноўлены ідэалагічная цэнзура і дзяржаўны кантроль над творамі і аўтарамі.

Нягледзячы на цяжкасці, часопіс зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь і выходзіць афіцыйна і рэгулярна — раз на два месяцы.

З 2005 года на часопіс можна падпісацца па ўсёй краіне праз дзяржаўнае Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Белпошта». Аднак праблемы з распаўсюдам застаюцца, бо дзяржаўныя манапалісты «Белсаюздрук» і «Белкніга» з надуманых прычынаў адмаўляюцца яго распаўсюджваць.

«Дзеяслоў» — адзіны ў краіне часопіс, які аб'ектыўна асвятляе літаратурна-мастацкі працэс, друкуе новыя творы беларускіх аўтараў (і пераклады замежных), якія не могуць быць апублікаваныя ў дзяржаўных выданнях.

Паводле водгукаў чытачоў, акрамя прозы і паэзіі заўсёды цікавая ў «Дзеяслове» эсэістыка, артыкулы на гістарычную тэматыку, публіцыстыка, літаратурная і мастацкая крытыка. Улічваючы тое, што ў Беларусі сёння няма беларускамоўных часопісаў, у якіх бы асвятляліся праблемы тэатра, кіно, музыкі, «Дзеяслоў» друкуе таксама артыкулы і на гэтыя тэмы.

Дзейнасць «Дзеяслова» накіраваная найперш на выжыванне ў краіне вольнага слова, беларускай літаратуры і культуры, на абарону права пісьменнікаў і журналістаў на свабоднае самавыяўленне, данясенне да чытачоў праўдзівай і аб'ектыўнай інфармацыі пра стан літаратуры і культуры.

Заснаваная рэдакцыяй «Дзеяслова» прэмія «Залаты апостраф», якая штогод прысуджаецца аўтарам у намінацыях «Паэзія», «Проза», «Дэбют», — адна з першых недзяржаўных літаратурных прэмій Беларусі.

Пазнаёміцца з навінамі «дзеяслоўнага» жыцця і публікацыямі можна не толькі ў папяровай версіі, але і на ягоным сайце dziejaslou.by.

Ну а калі з розных прычынаў не атрымалася падпісацца на часопіс, «Дзеяслоў» можна набыць у менскіх кнігарнях:

«Акадэмкніга» (пр. Незалежнасці, 72),

кнігарня «Логвінаў» (пр. Незалежнасці, 37а),

«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9, уваход з двара),

а таксама ў інтэрнэт-крамах knihi.by і prastora.by.

«Дзеяслоў» пачаў супрацу і з крамай Symbal.by (Менск, пр. Машэрава, 18). Цяпер яго можна замовіць і на сайце symbal.by — як у Беларусі, так і па ўсім свеце!



# Знак памяці

## Ідэя

На зыходзе леташняй зімы патэлефанаваў Валерый Бурэнь з Маладзечна:

— У ТБМ уступіў, каб мець падтрымку ў задуманым дзеянні.

У артыкуле «Іду да Драздовіча», змешчаным у кнізе «Праз церніі да зорак», ён распавёў, як не мог знайсці месца нараджэння славутага земляка і цяпер вырашыў дзейнічаць, каб пазначыць... Дык вось хоча прыехаць і паспрабаваць звярнуцца да ўладаў, большых і меншых. Якраз дарэчы — юбілей народзін мастака, 130-годдзе. Але ўжо даведаўся, што там — маладыя лесапасадкі, і ў яго «загуляла» ідэя...

— Каб не аднаму ісці — з дэлегацыяй, — так думаў і накіраваўся да нашай падсвільскай суполкі ТБМ, у прыватнасці, да мяне.

Дамовіліся сустрэцца на глыбоцкай станцыі. Ён — з Маладзечна. Я — з Падсвілля. Пачынаўся час абеду. І мы, прама ад чыгуначнага вакзала, пешкі, праз усё Глыбокае, да лягаса шлёпалі па мокрым снезе. Прыйшлі і яшчэ чакалі.

Цяпер разумею, што паход у лягас, да Сяргея Васільевіча Гайдука, быў правільным рашэннем. Заўсёды, перш, чым ісці ў кабінет выканкама, варта шырэй абвясціць ідэю. Можа, гэта і дапамагло ў «шыльдавай задуме»? Хай сабе ўсё крыху гумарыстычна і няўпэўнена, але — ад душы з натуральным удзелам, пяшчотным і пераканаўчым.

## Да Гайдука і ад Гайдука

Малады начальнік — спадар Сяргей Гайдук — неяк спантаньлычана здзівіўся ў адказ на прапанову спадара Валерыя Бурэня назваць лесапасадкі ў Пуньках імёнем Язэпа Драздовіча. І тым больш — уразіўся, калі дэлегат ТБМ сказаў: «На Гарадзеншчыне малады лес назвалі імёнем Васіля Быкава».

— Не разумею, чым прылягае Быкаў да лесу, — прыкладна так, з затоенай усмешкай, адказаў, і аж падскочылі бровы. Тут мне таксама падумалася: «Быкаў — можа й не. А ў Язэпа Драздовіча за хатай — лес. Зоркі гаварылі з ім над вершалінамі тых прысядзібных ліпаў». Дык лес шаптаў Язэпу,

*Яму ўзмацнялі летуценне*
*Лясныя блікавыя цені,*
*І зоркі прамеж вершалін*
*Нябесна гутарылі з ім.*
*Правільна, што лес — імя!..*

Валеры, прыкметна расхвалявана, дастаў з торбы важкі доказ — том «Праз церніі да зорак».

— Во тут яго творы і пра яго — беларускага «Леанарда да Вінчы», вартага ўшанавання, але вам прапаную прачытаць маленькую кніжку, для знаёмства, — сказаў адзін Васільевіч другому. Том «Ад церніяў...» доўга не затрымаўся на стале — вярнуўся ў торбу. А тоненькая кніжачка засталася ляжаць.

Спадар Гайдук заўважна скеміў, што ў намеры цёзкі па бацьку можа быць зярнятка...

Ён зычліва сказаў: «Ды мы ж зробім, калі дазволіць выканкам».

— Заяву туды панясем во цяпер, пасля абеду, — павесялела надзея на вуснах Бурэня...

У ідэалагічным аддзеле не пашанцавала на спатканне. Загадчыца была занятая экскурсіяй прадстаўнікоў прэзідэнцкай адміністрацыі. Нас рухава сустрэла ветлівая сакратарка. «Прапанова» легла на бліжэйшы стол. Чакаць было бессэнсоўна. А тут яшчэ думка пра цягнік.

І мы ўжо — бягом. На станцыю. Валер Васільевіч таксама ў Падсвілле. З Падсвілля зручней на Маладзечна.

Ён на развітанне ўручыў мне ўзнагароду за паплечніцтва — чорную рэдзьчыну з асірацелай бацькоўскай ляхі і кавалак торта — замарыць таго «чарвячка», які тачыў увесь дзень страўнік.

## «Тыя» адгулялі

...Напачатку вясны Валерый Бурэнь атрымаў пісьмовую адмову ад першага намесніка старшыні райвыканкама І. І. Пачкоўскага: «...Прапанову назваць лясную пасадку, размешчаную на месцы сядзібы Язэпа Драздовіча з усталяваннем адпаведнага знака, лічым немэтазгодным».

І Валерый сціснуў сваю мару, мне нічога не кажучы.

А тут, у сярэднюю восень, званок ад яго:

— Нібы там Знак Памяці ўсталявалі? У Пуньках. Што-небудзь чулі? Я можа б вырваўся з работы на адкрыццё?..

— Не-е, а якая сёння дата? — злякнулася, бо дапісвала верш да юбілею. Але выявіла, што яшчэ тры дні ёсць, і абрадавалася, што гэтая навіна ці не апраўдвае тое наша падарожжа. Яно, выходзіць, не марнае... Трэба ў Мар'яна спраўдзіцца. І тэлефаную. Чую:

— Дык жа «тыя» ўжо адгулялі!

— Як адгулялі? Калі?

— Весела! І яшчэ на тым тыдні. Ты што, Марыя, не ведала? Афішу трэба чытаць! Менш пісаць, больш гуляць на паветры і прыглядацца! Плошча машынамі была застаўлена. Не ўгледзела?.. Канферэнцыя гучная. І ў Пуньках... У лесе адбылося. Дык ты ж лес любіш...

«Язэпе! — адчайна ўсклікнула душа, — і на тваім юбілеі раскол. Дык што рабіць? Кладу смех на душу — хай яна іскрыцца... Бач ты: «тыя». Мы, значыць, «гэтыя»? Дык «гэтыя» не ведаюць, што «тыя» робяць? У адносінах да агульнароднага беларускага Язэпа Драздовіча?..

А ў Пунькі сапраўды хацелася. І прыгадалася рэдзьчына... І куды яшчэ паляцела думка? Чамусьці да Вацлававіча (старшыні нашага сельсавета), да якога я хадзіла з просьбай паклапаціцца пра шыльду на будынку гэтай установы, каб на дзьвюх мовах... Пэўна ж ён быў у Пуньках і бачыў прыклад: на Язэпавай шыльдзе — беларускі тэкст? А ці беларускі? — раптам ушчамілася дурашлівая думка.

І зноў затаміла Язэпава свята ў «тых». Гэта ж трэба: якіх 500 метраў (няўжо больш?) ад майго дома адбылося... У ДК. І некалькі крокаў... ад запасной, «стратэгічнай», кватэры сябра ТБМ — Місевіча. Дык той і далёка — паспеў на канферэнцыю.

Люба кажа: «Чэсік завязе ў Пунькі ў Дзень юбілею, не хвалюйся, Марыя. Убачым, які там Знак!»

## Мастак Купава задумаўся...

На могілках, дзе Язэп, дачакаліся ўсіх: і мастакоў, і Аду Райчонак, і Мар'яна, і Глыбачанаў (карэспандэнтаў-незалежнікаў), і новых — незнаёмцаў. Усяго 22 чалавекі. Дык з Пунькамі зноў што выйшла? Мікола Купава, які ўжо даўно марыць пра нейкую адметнасць на месцы сядзібы Драздовіча, пачуў маё паведамленне пра Знак (як ён пачынаўся). Пасля слова-ўспаміну паэткі Марыі Новікавай пра даўняе ўражанне (100-годдзе з Дня нараджэння мастака) Купава задумаўся і сказаў: «Хацелася б пабачыць тую шыльду на камяні».

— Ты за праважатага, Чэсь! — гукнуў Мар'ян, — а я на сядзібу — гаспадыня чакае.

Мы рушылі на Пунькі, але ззаду чамусьці прыстроілася толькі адна машына. Я заўважыла ў ёй Купаву... Праехаўшы нейкі адрэзак шляху, Чэсь спахапіўся спытаць, ці ведаюць нашы паслядоўнікі дарогу назад, да сядзібы Місевіча, бо астатнія туды ірванулі.

— Нам жа на цягнік трэба, назад да Мар'яна не паедзем... Не ведаеце? Ну, тады хутчэй, пакуль яшчэ хвост картэжа відаць, во па гэтай дарозе!

Так і не трапілі ў Пунькі...

## Не блукаў ён — ішоў...

Пасля аналізу гэткіх падзей перада мной, уночы, разгарнулася містычная карціна: усё бачу і чую. Асабліва слыхам бяру.

*Я — нічый, без патрэб*
*Па Ліплянах блукаю.*
*Я — Драздовіч Язэп...*
*«Вышыванку» шукаю...*
*Што маё захавана?..*

Ну, з аднаго боку, — думаю, — кожны пра сваё рупіцца... Дык нейкая інтуіцыя падказвае, што «Вышыванка» — гэта кніга. Як нібы я калісьці чытала. Ды пры пісьменніцкім расколе павылятала ўсё з галавы — не помню аўтара. Але голас узмацніўся:

*Я вас помню, а вы?..*
*Усё — вон з галавы?*

Аж сам Язэп мільгнуў перад вачыма. Вось і не вер у той свет... — здзіўляюся, — Язэп сочыць... Збоку той нейкі аўтар верша паведамляе:

*Задыхаўся і слеп...*

Гэта Язэп слеп? — абураюся. — Ай-яй-яй! Не гавары так, паэт! Калі мастак і скардзіўся на зрок, дык толькі восеньскім адвячоркам, калі рана цямнела. У яго дальназоркасць развівалася. Ого, які дальназоркі Язэп! І запытайся ў Чэся Лубчонка з Наваполацка. Язэп жа яму, яшчэ школьніку-пачаткоўцу, графічна занатаваў зімовы малюнак. Тады Драздовіч жыў два тыдні ў бацькі Чэся — пуцявога рабочага на чыгунцы. І той пазней вельмі журыўся, што памірае мастак у Падсвільскай бальніцы. «Ці закурыць, ці нешта смачнае, прыгатаванае мамай, насіў яму», — згадвае Часлаў. Дык жа не сляпы быў Драздовіч. І памёр не ад задышкі.»

І тут мне ў вуха разанула апраўданне:

*Не пісаў бы, што слеп,*
*Дык жа рыфму дзе ўзяць?*
*Бо не Восіп — Язэп —*
*Тут праблема уся!*

І адказ чую з сябе, знутры:

*Нам, дык сёння — на здзіў*
*Рух яго: дзе хадзіў...*
*Не блукаў без патрэб*
*Ля кустоў і ля рэк.*
*Не блукаў ён — ішоў!*
*Не на возера Шо, —*
*На нябёсы, да зор —*
*Нёс прамыслены твор.*
*Ён пытаўся — у зор:*
*«А ці якасны твор*
*Для нябесных патрэб?».*
*Дзейна-мройны Язэп*
*Мог і жыць толькі так,*
*Як аб'ёмны дзівак.*
*Зорку сноў запаліў...*
*І з падсвільскай зямлі*
*Карані яго мар*
*Так шырока пайшлі*
*Праз глыбоцкі абшар...*
*«...І шукалі яго,*
*І знайшлі не ўсяго», —*
*Кажа ясна нам лёс,*
*Беларускі да слёз...*
*«Пунькам» верны мастак!*
*Дык пра гэта і Знак...*

Вельмі зычны быў голас мой у сне, аж разбудзіў.

## Аскоміна?

У Любы таксама адчувалася нейкая аскоміна ў настроі. Але ў яе — пасля нашага наведвання Язэпавай магілы.

— Нешта не так, унутры ные, — казала яна. І пазней прынесла мне райгазету — «Веснік Глыбоччыны». Але пакуль «Веснік...», я прачытала « незалежную — «Вольнае Глыбокае». Дык там Валодзя Скрабатун што нарабіў? Знак Памяці, у сэрцы выпешчаны, што з Валерыем па інстанцыях прасоўвалі, прысвоіў толькі ўладзе: «Дзякуй уладам, што зрабілі Знак!»

— Ага, зрабілі, скляпалі малатком, — кіплю, — і не здагадаліся б пра Пунькі, бо ў іх там маса бібліятэчных мерапрыемстваў, буклетаў, выстаў, афармлення дакументаў і г. д. Што ім у лесе рабіць? А ты, Валодзя, чым ты слухаў? Такі вядомы Чэсь стаў Юзікам! І чаму ты робіш заўвагу, што я чытала «свой» верш? Няўжо мне трэба было дэкламаваць чужы? Накшталт: «Я вас помню...».

Тут вочы нервова «збочылі» ў «Веснік Глыбоччыны»! А там... Падрабязна! Калярова, урачыста-ўзнёсла, іскрыста, як феерверк, на ўсю старонку, таксама: «Я вас помню, а вы?..»

Містыка! Дык скажы, чытач, што сны не спраўджваюцца!

**Марыя Баравік**

# «Замежжа нам дапаможа!»

**Еду ў агульнаграмадскім транспарце. Увагу «палоніць» купка смуглявых іншаземцаў: не тое, каб выглядам (да гостарбайтэраў наша вока ўжо звыклася) ці паводзінамі — людзі трымаюцца даволі прыстойна.**

Вуха ловіць настойлівыя і незразумелыя, але чамусьці знаёмыя гукаспалучэнні: «Каляляська, каляляська, дабыдзень, тапапацена...» І тут нарэшце да мяне «даходзіць», што чую я родную мову, толькі з моцным акцэнтам. Аж вочы пабольшалі! Разумею: новых работнікаў бывалі праваднік вучыць, як трэба сябе паводзіць у чужой краіне, а тыя старанна слухаюць і паўтараюць за ім новыя словы.

— Куды ні зойдзеце, — кажа завадатар-кіраўнік, — кафэ, магазін, цырульня, паўсюль абавязкова кажыце перш за ўсё: «Вітаю, дабрыдзень, калі ласка, выбачайце, да пабачэння...»

Такая міласць ахапіла мяне да гэтага чалавека — дзе ж гэта ён чуў, каб у Мінску ў кафэ, магазінах ці цырульнях так размаўлялі гаспадары і наведвальнікі!?..

Яшчэ выпадак: летам на Нямізе сучасны, модна апрануты, з тэлекамерай у руках афраамерыканец браў кароткія інтэрв'ю ў мінакоў на чысцюткай беларускай мове. Магчыма, ён тут нарадзіўся, але... з якім спрытам, гонарам, годнасцю ён карыстаўся нашай мовай!

...У шэраговай школцы Маскоўскага раёна сталіцы ўзяліся адкрыць першы беларускамоўны клас. Якраз у гэту школу накіравалася ісці першакласніцай мая ўнучка. Настаўнікі папярэджвалі бацькоў: толькі калі набярэцца спіс з пятнаццаці прозвішчаў — клас пачне працаваць на беларускай мове. Чакаем верасня. Ідзем з букетамі і спадзяваннямі. Набралася аж дваццаць пяць вучняў! Радасці няма мяжы! Узіраюся ў спіс, многія ж дзеткі мне знаёмыя яшчэ ад садка, чытаю: Шай і Флорэнс — бразільянкі, Эмір Бюккер — яго бацька з Турцыі, маленькі мулат Іртыза Мухамед, Арнольд Хартман... Мае вы беларусікі! Нізкі вам паклон і шчырая ўдзячнасць! Бразільянка-мама размаўляе з рускамоўным беларусам-татам (інтэрнэт-знаёмства) на англійскай мове. Ды — яшчэ беларускі клас!

— Навошта вы аддалі дзяцей у беларускамоўны клас?

На мяне глядзяць з непадробным здзіўленнем.

— А як інакай? Гэта ж краіна будзе для нашых дзяцей радзімай. Як можна не ведаць роднай мовы?!

**Людміла Андзілеўка**

# Радаўніца



Барыс ПЯТРОВІЧ




## Зуб забалеў

звычайныя людзі вельмі рэдка заўважаюць, што яны шчаслівыя

большасць шчаслівых людзей, якіх я бачыў, вельмі часта былі з нейкімі відочнымі фізічнымі недахопамі

іх твары свяціліся шчасцем — яны ведалі кошт жыццю

як ні дзіўна, сярод самагубцаў найменш якраз людзей з фізічнымі недахопамі — яны мацней чапляюцца за жыццё і ніколі не аддадуць яго за, да прыкладу, няшчаснае каханне

бо любое каханне для іх шчасце — паздзекуецеся вы, чалавек здаровы, які ведае, што шчасця ўвогуле няма на гэтым свеце, а ёсць спакой і воля

дык вось — у іх няма спакою і волі, але шчасце ў іх, у адрозненне ад вас, ёсць

шчасце быць...

яны цэняць кожны дзень пражыты тут нават у страшных пакутах, і ніколі не спяшаюцца туды, куды вы, ні на хвіліну не задумаўшыся, зробіце крок са шматпавярховіка, у жаданні адпомсціць ёй (яму) за тое, што не заўважае вас, кахае іншага

спытай звычайнага чалавека: ці шчаслівы ён? не — адкажа чалавек ні на хвілю не засумняваўшыся ў гэтым

той чалавек, які не сумняваецца, што ён няшчасны, і ёсць сапраўды шчаслівы, бо нішто не прымусіла яго задумацца: а што такое шчасце?

і калі б ён задумаўся, то прыйшоў бы да высновы, што шчасце — гэта зусім не вялікія грошы, не сусветная слава, не бязмежная любоў і нястрымнае каханне, не сытае жыццё і не ўлада над іншымі...

праўда, прыйсьці да гэтага разумення можна толькі праз боль і пакуты

іншага шляху не дадзена

але — у мяне зноў забалеў зуб.

і падумалася: калі ён ужо скончыцца, гэты боль, калі яны ўжо скончацца, гэтыя зубы? колькі можна іх свідраваць, залечваць, вырываць, замяняць на ўстаўныя...

нехта сказаў бы: не было б большага гора...

а іншы — няўжо ёсць на свеце людзі, якія ніколі не пакутвалі ад зубнога болю і ад болю ўвогуле —

зубнога, галаўнога, сардэчнага, душэўнага... болю ад парэзанага пальца, прабітай на цвік нагі, абадранай аб калючкі акацыі ці трымай-дрэва рукі, разбітай пры аварыі машыны галавы

ад хакейнай шайбы па шчэлепах, ад укусу любімага сабачкі...

ад здрады

ад крыўды, ад несправядлівасьці...

можна бясконца працягваць называць тое, што можа прычыніць нам боль — выпадкова і наўмысна

але самы просты боль, дадзены нам пры нараджэнні і незалежны ад таго, хто ты — кароль ці свінапас — боль зубны

азіраюся назад і, колькі сябе памятаю — памятаю зубны боль, ледзь не першыя ў жыцці ўспаміны звязаныя менавіта з ім

зубы і раслі ў мяне, вылазілі з дзёснаў са страшным болем, а ўжо трохгадовага, а, можа, і меншага, маці павяла мяне да зубнога ўрача

памятаю, як баяўся я ісьці ў ягоны кабінет, памятаю, як непрыемна і, галоўнае, як балюча было — ніякіх абязбольваючых, якое там... тата і мама трымалі мяне за рукі і ногі, а я круціўся ў крэсле, як вуж, як уюн на патэльні, але вырвацца не змог і цётка Дора, адцягнуўшы маю шчаку сваім тоўстым жоўтым пальцам, які я стараўся ўкусіць, рабіла ў маім роце яшчэ больша боль нейкай страшна бліскучай металічнай штукай...

Дора Львоўна... даўно няма вас на белым свеце... быў нядаўна на могілках і бачыў помнік на вашай магіле, там, на здымку на ўвесь намагільны камень, вы як жывая — такая, якой вас я і памятаю

колькі людзей вы ўратавалі ад пякельных пакутаў і колькі праклёнаў і матаў пачулі пры гэтым... пэўна, ніводнага са шматлікіх урачоў не праклінаюць так часта, як стаматолага, і нікому так шчыра не бываюць удзячнымі...

класе ў сёмым я цвёрда вырашыў падлячыць усе свае карыесныя зубы і пачаў адпрошвацца ў настаўнікаў з апошніх урокаў, каб пайсьці да вас, Дора Львоўна, даруйце за слова — на экзекуцыю; вы былі цудоўным урачом, але то ж быў час савецкай медыцыны — суровай і беднай: лекаў не хапала, тэхнікі патрэбнай таксама... страшна згадваць той бур, якім вы свідравалі мае зубы: вы цiскалі на нейкі педаль левай нагой, і бур уядаўся ў мае зубы, і тыя свінцовыя пломбы, якія вы ставілі, і невыносны пах эфіру — я яго дагэтуль ненавіджу і невыношу, і ад адной згадкі пра яго пачынае кружыцца галава... але я мужна хадзіў кожны дзень да вас на лячэнне і калі адпрасіўся з уроку ў чацвёрты ці пяты раз запар, а так супадала неяк, што ў адной і той жа настаўніцы, яна, відаць, не паверыла, што я магу дабраахвотна хадзіць да стаматолага і прыйшла праверыць, ці праўда тое; калі настаўніца зайшла ў пачакальню і ўбачыла мяне там, вочы яе акругліліся ў здзіўленні і ёй нічога не заставалася, як сесці побач; падыйшла мая чарга заходзіць у кабінет, і я па-джэнтльменску прапанаваў настаўніцы пайсьці перада мной, не-не, замахала яна рукамі, ідзі сам...

зразумела, калі я выйшаў ад Доры Львоўны, настаўніцы, як казалі ў нас — і след прастыў

на першым курсе журфаку я напісаў апавяданне (цяпер сказалі б — фэнтэзі) «Прыгоды ў горадзе шкілетаў», апавяданне тое згубілася недзе ў часе, але змест яго я памятаю:

...калі я быў у ванне, раптам з крану замест вады пачалі выпадаць маленькія рыбкі, якія накінуліся на мяне і абгрызлі ўсяго за некалькі імгненняў: абсалютна без болю — толькі вада вакол пачырванела — і ад мяне застаўся голы, белы шкілет... мне трэба было ісці на заняткі, я апрануўся (сяк-так начапіў на сябе адзенне), і выйшаў у горад поўны такіх самых людзей-шкілетаў... аднак, не буду пераказваць сюжэт, бо згадаў я той аповед дзеля адной дэталі, якая дужа спадабалася майму аднакурсніку Воўку Сотнікаву; дэталь такая: з-за таго, што ў мяне не было вуснаў, сталі відаць мае кепскія зубы са свінцовымі пломбамі і я, саромеючыся, закутваюся ў шалік, каб іх ніхто не бачыў... Воўка дзівіўся:

**Любое жыццё — радасць. А смерць — не страшная. Яна — ніякая. І яе няма, пакуль ёсць мы, а калі яна прыйдзе — тады нас ужо не будзе... А будзе — вечны прытулак тут сярод сваіх. Ці можна гэтага баяцца?**

як я мог такое прыдумаць пра зубы... дзівак, вось гэтага якраз, у адрозненне ад астатняга, я і не прыдумляў, я толькі ўявіў сябе ў падобнай сітуацыі... дарэчы, потым, калі трэба было прайсьці медкамісію перад будатрадам, я, баючыся, што мяне не пусцяць у яго з-за кепскіх зубоў, ці, крый Божа, прымусяць лячыць іх да ад’езду, папрасіў Воўку прайсці стаматолага... калі ж праз паўгоду боль прымусіў мяне самога звярнуцца ў паліклініку, доктар доўга не магла разабрацца: што такое, на картачцы пазначаныя адныя запламбаваныя зубы (Воўкавы), а на яве перад ёю зусім іншыя... «Сяргеевіч п’яны запаўняў картку», — сказала яна медсястры і папрасіла мяне шырэй раскрыць рот...

а ўвогуле кепскія зубы — гэта бяда ўсіх палешукоў, калі не ўсіх беларусаў; кажуць у нас не хапае ў вадзе фтору ці яшчэ чагосьці, таму і зубы такія нетрывалыя

з дзяцінства памятаю, як кожнае лета па нашай вёсцы хадзіў гарбаценькі фельчар Раманюк з участковай бальніцы, спыняўся каля кожнага калодзежа і нешта сыпаў у яго... старыя жагналіся і не хацелі піць калодзежную ваду некалькі дзён, маладзейшыя ведалі: падсыпае фтор, якога не хапае ў нашай палескай вадзе, падсыпае, каб зубы ў вяскоўцаў не чарвівелі і не высыпаліся без часу...

з тых летніх дзён мінула шмат гадоў, скроз якія меткамі стаяць дні і месяцы, калі я пакутваў ад зубнога болю — дома, у камандзіроўцы, у вандроўцы, падчас выступу — у самых розных месцах і сітуацыях... найчасцей мне не верылі, што гэта праўда — што я не прыдурваюся, не адлыньваю ад чагосьці, а сапраўды нешта не магу рабіць, бо проста кашмарны боль... трэба сказаць, што гэты самы боль ніколі ў мяне не ўскладняўся нейкімі флюсамі — знешне было ўсё як звычайна, хіба твар можа трохі чырванейшы — вось павер, што чалавек сапраўды пакутуе, а не выпендрываецца... дзякуй тым, хто верыў і суперажываў, дарую тым, хто не верыў і прымушаў працаваць, нават здзекаваўся... колькі розных абязбольваючых я перапіў, часам, даводзячы сябе да паўвар’яцкага стану... але прайшлі постсавецкія часы, з’явіліся «капіталістычныя» стаматалагічныя матэрыялы і прыстасаванні, і мне за месяц, праўда, за немалыя грошы, абсалютна без болю залячылі ўсе зубы, падзівіўшыся некалькім свінцовым пломбам ад Доры Львоўны, якія ніяк не павінны былі б столькі гадоў стаяць паводле ўсіх інструкцыяў...

я адчуў сябе чалавекам... я адчуў сябе шчаслівым

але няма нічога вечнага... тым болей шчасця...

бо

у мяне зноў баліць зуб,

пішу гэтыя радкі і ў вачах цямнее ад болю, баліць уся сківіца, баліць вуха, баліць уся галава, баліць чэрап — чаму там так балець, здавалася б, костка ж... і колькі таго зуба...

ажыў незабіты — недабіты — нерв, языком да зуба не дакрануцца, халоднае патрапіць — хоць ты крычы ў неба, гарачае — не супакойвае: клін клінам — не праходзіць... толькі лячэнне, толькі стаматалогія

заўтра я туды пайду

пайду, каб потым яшчэ раз уразумець, што ёсць, аказваецца, і на гэтай зямлі моманты, калі пачуваеш сябе шчаслівым

## Радаўніца

Чарка пайшла кругам — ад вуснаў да вуснаў. Кожны браў у рот маленькі каўточак пякуча-цёплай вадкасці і перадаваў чарку суседу.

Людзі і сапраўды сядзелі колам укруг разасланых на траве рушнікоў і абрусаў, застаўленых талеркамі з ежай. Пляшка на ўсіх была адна, і чарка адна. Год тысяча дзевяцьсот пяцьдзясят дзявяты.

Дзеці весела бегалі ад купкі людзей да купкі, гулялі ў «біткі», а дарослыя сядзелі вакол абрусаў і рушнікоў сур’ёзныя, але разгаворлівыя.

Дрэвы шапаталі — перашэптваліся, птушкі шчабяталі-перасвістваліся, людзі гаманілі, дзеці сакаталі... Маўклівымі былі толькі крыжы наўкол. Але не страшнымі сёння.

Радаўніца — у нас кажуць, што ад слова «радаваць» (ці радавацца). Радавацца жыццю, пакуль жывы. Вучыцца разумець, што любое жыццё — радасць. А смерць — не страшная. Яна — ніякая. І яе няма, пакуль ёсць мы, а калі яна прыйдзе — тады нас ужо не будзе... А будзе — вечны прытулак тут сярод сваіх. Ці можна гэтага баяцца?

...Чарка адна — вуснаў трынаццаць. Але па трэцім крузе — усе будуць п’яныя. Усім хопіць адное пляшкі. Хмель асвеціць вочы, улагодзіць вусны. І добра будзе ўсім у гэтай гамане, і п’янка. І турботы ўсе забыліся, і клопаты засталіся там, у гасцях, бо толькі тут яны дома, сярод сваіх. Ніхто пра гэта не кажа, мажліва, ніхто пра гэта і не думае, яно проста ёсць, як дрэвы, як крыжы, як птушкі, як вецер, як чарка...

Я яшчэ не нарадзіўся, але ўжо быў тут.

# Кропка вяртання



Ярына ДАШЫНА



Фота www.LuxFon.com

***

Птушка, спавітая небам, —
у неба ірвецца.
Я ахвярую табой, калі давядзецца.
Час набаўляе зморшчынак і тугі.
Сыйдуцца на вадзе кругі
кропкай вяртання
з небыцця.
Я —
жыцця адчуванне —
магутнасць і безвыходнасць:
глебы карэнне
і хворай зямлі бязроднасць.
Ты ў ахвяру прынёс мяне
гэтай клетцы…
Птушка, спавітая небам, —
у неба ірвецца.

## Радаўніца

еду да мамы…
еду да таты…
СВЯТА

***

Мама пераносіцца далей:
за тужлівы подых сцюж-завей,
за дажджы і шэрыя туманы…
За нявіннасць праўды і маны.
І здаецца, мамы не было,
не спявала сэрца, не цвіло
бэзава-язмінным… Сухавей.
Цьмяна ўсё.
І мама ўсё далей….

## твая вайна

нясі гэты крыж
між
падобных табе
дзе
кожны ўбок
крок
карае твой
Бог

***

вось мы з табою і квітыя
з побытам вершы зжытыя
тысячы ват
слова-злучэннямі звітыя
ў цішыню праліты
неўпапад
вось я табе ў дадатак
бонусам ці на ваты
ці проста так

## У вітрыне

Нелюдзімая ноч.
Ліхтары адзінокіх таполяў.
І пакуль горад спіць,
прытупляючы рытм і бег,
свет падвешаны на цвікі
пад нябесную столяй
растрасае ў паветры
бязважкі пялёсткавы снег.
І пакуль горад спіць,
мішурою прысыпаны белай,
сніць заганы людскія
пад коўдрай пуховай сваёй,
ты, чужая яму, спяваешся
вершам збалелым.
Ты чужая яму…
І заўсёды была чужой
дэкарацыям-шыбам
у люмінісцэнтнай краіне,
пад нябесную столлю
распятай на бляск цвікоў…
Так падобны таполі на дрэвы
у гэтай вітрыне,
і сцэнар на жыццё,
і ворагі на сяброў…

## Біябібліяграфічнае

Усё адбалела і стала няважным.
Нас раздзяляюць кропка й працяжнік
між элементамі апісання.
Час на спісанне.
Пад загатоўкі і пад загалоўкі…
Неяк няўтульна і неяк няёмка
у гэтай позе —
вершам у прозе…

***

адваяваныя рана вымерлі вершы
да дна
бачыш на гэтым пляцы
толькі адзін паяцы
адна
я натоўп забаўляю зграю звяроў
людзей
сцэны жыцця са сцэны
голас цішэй

## Здрада

Неба — нібы па-над небакраем
рушніком упрыгожылі абраз…

Засталіся там, дзе пакідаюць,
здраджваюць у самы цяжкі час.
З словамі на вуснах невымоўна —
ў той прасторы, у хвіліне той,
дзе адбыўся раптам бессэнсоўны
у сістэме чалавечай збой.
Дзе змаўчалі з кратамі на сэрцы
і атруту выпілі нагбом…

па-за небакраем адгукнецца
шэпатком.

***

Пахне твой швэдар табой і тваім раем.
Я дастаю табе да пляча, я зазіраю
ў вочы твае, шэра-зялёны бурштын.
Я не была ніколі такой маленькай:
сонца ў валасах, на запясці фенькі,
безабаронная зусім і нічыйная зусім.

Бог — гэта і ёсць сэнс, я адчуваю
пера-ўвасабленне,-тварэнне адчаю,
-мысленне часу ў рэжыме он-лайн.
Я не была ніколі такой старою:
сонца ў валасах фарбаванае хною,
восень у кубку — брыкецік цукру і лайм.

Кісла-салодкія ноткі прысмакам новым.
Проста і сумна, і весела адначасова.
І разумееш сутнасць сумневу, маўляў —
гэта ўсяго невымернасці небакраю.
Людзі стамляюцца жыць і паміраюць.
Людзі, якіх ніколі ніхто не кахаў…

***

Калі аднойчы на зямлі засцюжыць
і стане змрок заслонай увачу,
перакладзі мяне на мову птушак,
я разам з імі ў вырай палячу.
Не адагрэцца, не адвершавацца,
не адарвацца ад прамерзлых слоў…
Я буду толькі аднаго баяцца —
нібыта забываю зноў і зноў
шляхі назад, вяртання да Айчыны,
і крыл узмах над пругкай сінявой…
І галасы каханых і любімых,
і голас свой.

***

Ніхто да цябе не падобны
у гэтым сусвеце падробным,
на гэтай зямлі.
Ты сам і канец, і пачатак
сябе,
ты і воля і краты.
І камяні,
калі прыйдзе час паняверцы,
збіраць аднаму давядзецца
ў полі сваім…
І будзе заўжды адзіным
і дрэва, і тая галіна,
з якой адарваўся,
сын.

# Парцэлы



Алесь МАКРАЦОЎ

***

Го́рада
гаснучыя агні.
Вуголле начнога
вогнішча.

***

Шчасця…
падснежнікі.
Пасля скрухі
і суму…

***

Штрыхавы
код…
з роднага
лесу…

***

Залатое
ядро…
веснавой
поўні…

***

Сінусоіда змяі…
рэчку пераплывае…

***

Неба…
душу прыцягвае.
Цела —
вабіць зямля.

***

Горад…
разбаўлены
градамі.
Дачы…

***

Ліпкае
сонца…
потнага
ліпеня…

***

Соль…
незабытых
вякоў.
Мова…

***

Не стала…
у лесе дарог,



не сапсаваных
коламі…

***

Дарожная
сетка…
Сістэма
людазвароту…

***

Прабітай
шыны…
шыпенне
гадзючае…

***

Двухмоўная
творчасць…
Як зберажэнні
ў рублях і эўра?

***

Асмялеў…
малады лес.
Увайшоў
у вёску…

***

Юбілейны
падарунак
дачкі…
Унучак…

# Пад чужынскім прыгнётам



Уладзімір АРЛОЎ

**Пры канцы XVIII стагоддзя тры краіны — Расея, Аўстрыя і Прусія — таемна змовіліся і падзялілі паміж сабой Рэч Паспалітую, куды ўваходзілі Польшча і Вялікае Княства Літоўскае. Дзяржава нашых продкаў — ліцвінаў-беларусаў — страціла незалежнасць і трапіла ў адсталую Расею, якую называлі жандарам Еўропы і турмой народаў. Беларусы добра памяталі, што з усходу заўсёды прыходзілі захопнікі, якія рабавалі нашы гарады і вёскі, прыносілі голад і хваробы, гналі да сябе тысячы палонных. Аднак — каб падмануць новыя пакаленні беларусаў — у царскай, а потым у савецкай імперыі захоп Літвы-Беларусі называўся «доўгачаканым ўз'яднаннем», хоць беларускія землі ў складзе расейскай дзяржавы ніколі не былі, а прадзеды ніколі туды не імкнуліся, бо ведалі, што іх там чакае.**

### Беларусы галасавалі нагамі

У Расеі сялян прыгняталі больш жорстка. Замест ранейшых разлікаў з гаспадарамі грашыма вяскоўцаў пагналі на паншчыну. Цяпер вельмі часта на панскім полі трэба было гнуць спіну ўсе сем дзён тыдня. У сялян маглі адабраць іхні надзел зямлі разам з гаспадаркай і прымусіць працаваць за мізэрны харч. Такія паднявольныя людзі нічым не адрозніваліся ад рабоў на тагачасных амерыканскіх плантацыях. У пецярбургскіх і маскоўскіх газетах друкаваліся абвесткі памешчыкаў аб продажы пародзістых сабак і сялян, прычым сабакі часта ставіліся гаспадарамі на першае месца.

Расейскія землеўладальнікі, якім у Беларусі было пры канцы XVIII стагоддзя «пожаловано» паўмільёна сялянаў, тысячамі адрывалі іх ад родных мясцін і адпраўлялі ўглыб Расеі на цяжкія будаўнічыя работы. Царскія законы дазвалялі прадаваць прыгонных сялян без зямлі, разлучаць мужа з жонкай, бацькоў з дзецьмі. Гаспадары мелі права як заўгодна караць прыгонных і нярэдка назвечылі або забівалі іх, але заставаліся беспакаранымі.

За «шчасце» такога «ўз'яднання» нашыя продкі галасавалі нагамі. Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай, які адбыўся ў 1772 годзе, з захопленага абшару Полацкага, Віцебскага і Мсціслаўскага ваяводстваў у Вялікае Княства Літоўскае ўцяклі больш за 30 тысяч беларусаў. Калі з дапамогаю расейскіх штыхоў былі паняволеныя ўсе нашыя землі, вяскоўцы пачалі пераходзіць у Беласточчыну, якая трапіла пад уладу Прусіі.

### Гарады без вольнасцяў і гербаў

Як вы ведаеце, гарады ў Вялікім Княстве Літоўскім мелі шырокія правы. Гараджане-месцічы выбіралі раду, якая кіравала гарадскім жыццём, абараняла сваіх купцоў і рамеснікаў, збірала падаткі. Селянін, які ўцякаў ад лютага пана ў горад, рабіўся вольным чалавекам.

Права горада на самакіраванне называлася магдэбургскім, бо яно ўпершыню ўзнікла ў нямецкім Магдэбурзе, а затым хутка пашырылася па еўрапейскіх краінах. У Расеі, якая не належала да Еўропы, магдэбургскага права ніколі не было. Там гараджане, параўнаўча з нашымі месцічамі, былі бяспраўнымі царскімі падданымі.

Захапіўшы беларускія землі, царскія ўлады адабралі ў нашых гарадоў усе магдэбурскія правы. Пад забарону трапілі і даўнейшыя гербы, якія былі на гарадскіх пячатках і аздаблялі ратушы — будынкі, дзе працавала рада. Самі ратушы, што, як і гербы, нагадвалі месцічам пра былыя вольнасці і незалежную дзяржаву, таксама мулілі вока новым гаспадарам. У колішніх ратушах расейцы парабілі суды, турмы, паліцэйскія ўправы. Калі пад час пажару згарэў будынак ратушы ў Навагрудку, імперскія чыноўнікі так і не далі дазволу на яе рамонт. Гэты дазвол павінен быў прыйсці з Пецярбурга, дзе вырашаліся нават пытанні перабудовы якога-небудзь свірна, не кажучы ўжо пра ратушы. Такія парадкі панавалі ў Расейскай імперыі.

Часам ратушы не хацелі прыстасоўваць пад іншыя патрэбы, а проста руйнавалі. Такі лёс напаткаў ратушу ў Менску. Расейскія ўлады спрабавалі знішчыць яе рукамі саміх менчукоў, але пралічыліся. Жыхары адмовіліся зносіць дарагі ім прыгожы будынак са старадаўнім гадзіннікам, які адбіваў час ажно з 1600-га года. Ратушу разбуралі салдаты царскага гарнізона. Гадзіннік купіў нейкі расейскі памешчык. Ён хацеў аздобіць гадзіннікам свой маёнтак і загадаў пабудаваць дзеля гэтага адмысловую вежу. Захавалася паданне, што, калі гадзіннік узнялі на вежу, яна абрынулася і пахавала гарадскую рэліквію. Менчукі казалі, што гадзіннік не захацеў адлічваць час чужынцам.

Менскую ратушу з гадзіннікам аднавілі толькі ў XXI стагоддзі.





**Вокладка першай кнігі «Айчына. Маляўнічая гісторыя»**

### Зруйнаванае Берасце

У ажыццяўленні сваіх планаў каланізатары цалкам пагарджалі інтарэсамі нашых людзей. Самы красамоўны прыклад гэтага — лёс старажытнага Берасця, якое пры канцы XVIII стагоддзя лічылася адным з найпрыгажэйшых гарадоў Усходняй Еўропы.

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, што адбыўся ў 1795 годзе, расейцы вырашылі пабудаваць у Берасці фартэцу для ўмацавання заходніх межаў імперыі. Царскія вайсковыя інжынеры новыя ўмацаванні вырашылі размясціць не побач з горадам, а якраз на яго месцы. Улады мала цікавіла тое, што тысячы месцічаў будуць выгнаныя з родных сценаў. Старадаўнія храмы, манастыры, палацы, жылыя будынкі былі зруйнаваныя. Каланізатары знішчылі цэлы горад, а жыхароў перасялілі за некалькі кіламетраў.

Царскую фартэцу збудавалі ў 1830–1840 гадах. Таму цяпер у Берасці няма будынкаў, старэйшых за дзвесце гадоў. Успомніце пра гэта, калі будзеце на экскурсіі ў сучаснай Брэсцкай крэпасці.

### Раскраданне ліцвінскіх скарбаў

У Расею вывозілі багатыя бібліятэкі і мастацкія калекцыі нашых арыстакратаў. На ўсход везлі каштоўныя архівы і летапісы, што захоўваліся ў манастырах, замках ды палацах арыстакратычных родаў.

Як сведчаць гістарычныя дакументы, Публічная бібліятэка ў Пецярбурзе выбірала сабе «все редкие и роскошные издания, коих она не имеет и, следовательно, могущие служить ее украшению». У наш час у адной толькі Дзяржаўнай бібліятэцы Расеі ў Маскве знаходзяцца 82 выданні Францішка Скарыны. Між тым у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі іх усяго дзесяць, а ў Полацкім Музеі беларускага кнігадрукавання няма ніводнага.

Маскоўскія і пецярбургскія музеі ганарацца цяпер мастацкімі творамі з Нясвіжскага замка Радзівілаў. У Смаленскім гістарычна-археалагічным музеі можна ўбачыць калекцыі князёў Сапегаў. На пальцах адной рукі можна пералічыць сёння славутыя слуцкія паясы, якім пашчасціла застацца ў Беларусі. А вось у расейскіх музейных эскапазіцыях і сховішчах лік гэтых шэдэўраў беларускіх майстроў ідзе на сотні.

Рабуючы нашыя каштоўнасці, каланізатары рабавалі душу народа, падрывалі ягоныя жыццёвыя сілы.

### «Нас пагоняць у Маскву, на вайну…»

У царскай імперыі на Беларусь лёг цяжар падаткаў, якія напачатку былі ў пяць разоў большыя, чым у расейскіх губернях. Апрача падаткаў, на вясковае і гарадское насельніцтва наклалі іншыя павіннасці, самай цяжкай з іх стала рэкруцкая. Па гэтай павіннасці юнакоў і мужчын ад 19 да 35 гадоў забіралі ў царскае войска. Служыць спачатку трэба было ўсё жыццё, потым гэты тэрмін паводле «ласкі» імператрыцы Кацярыны II скарацілі да 25 гадоў. У мірны час у салдаты бралі з 500 душ аднаго хлопца, а ў вайну — чацвярых, пецярых і нават васьмярых. Родныя забраных ведалі, што амаль ніхто з іх ужо не вернецца дадому. Тужлівымі і поўнымі болю былі рэкруцкія песні:

*Будуць мяне, малайца,*
*у салдацікі браць.*
*Будуць мне, малайцу,*
*белы ручкі вязаць.*
*Будуць мне, малайцу,*
*скоры ножкі каваць.*
*Будуць мяне, малайца,*
*у няволю адпраўляць…*

Да канца XVIII стагоддзя беларускія губерні далі царскай арміі больш за 100 тысяч салдат. Беларусы-ліцвіны заўсёды былі добрымі ваярамі, але цяпер мусілі ўдзельнічаць у захопніцкіх паходах царскіх генералаў і гінуць за чужыя інтарэсы. У адной з рэкруцкіх песняў гучалі такія горкія радкі:

*Нас пагоняць у Маскву, на вайну,*
*У Расею, на чужую старану…*

### Не Якуб, а «Яков», не Паўліна, а «Полина»

У Расеі беларусаў не лічылі самастойным народам і не прызнавалі нашае мовы. Вы памятаеце, што ў продкаў адбіралі іхнія спрадвечныя імёны. Якубаў у новых дакументахператваралі ў «Яковов», Астахаў у «Евстафиев», Паўлінак зрабілі «Полинами», Анэляў — «Аннами». Царскія пісары, хто як хацеў, парабілялі на свой расейскі капыл нашыя старадаўнія імё-



ны Усяслаў, Брачыслаў, Альгерд, Рагнеда, Звеніслава...

Вельмі не падабаліся пісарчукам і «неправаслаўныя» імёны. Габрыэль ці, напрыклад, Мальвіна, маглі стаць «Гаврилой» і «Марфой», Ян — «Иваном». Згоды на гэта ніхто не пытаўся. Да беларускіх прозвішчаў дадаваліся расейскія канчаткі, а сялян пачасту проста запісвалі на прозвішча памешчыка.

Такім чынам беларусаў таксама пазбаўлялі памяці, каб перарабіць на расейцаў.

### Людзі другога гатунку

У Вялікім Княстве закон даваў жанчынам — шляхцянкам і мяшчанкам — шырокія правы ў валоданні маёмасцю. У Расеі жанчыны такіх прывілеяў тады не мелі. Вольныя ліцьвінкі страцілі таксама шмат іншых ранейшых правоў.

Большасць нашых продкаў у той час былі вуніятамі. Царская ўлада ненавідзела народную вуніяцкую веру, бо яна захоўвала мову і звычаі народа і перашкаджала рабіць ліцьвінаў-беларусаў расейцамі. Вуніятаў пачалі гвалтам пераводзіць у праваслаўе. Аднак новыя гаспадары не даверялі і мясцовым праваслаўным святарам. Беларусаў адпраўлялі служыць у далёкія губерні імперыі, а адтуль да нас прысылалі расейцаў. Гэтыя папы не ведалі ні мовы, ні традыцыяў прыхаджан. Яны зацята змагаліся з калядаваннем, гуканнем вясны, Купаллем, Дзядамі, з усімі спрадвечнымі беларускімі святамі і звычаямі.

У Расеі людзьмі другога гатунку зрабіліся габрэі, якія некалькі стагоддзяў жылі ў Вялікім Княстве Літоўскім і мелі там шмат правоў. Царскія ўлады абклалі габрэяў-юдэяў цяжкімі падаткамі і ўстанавілі для іх «мяжу аселасці», за якой не дазвалялася сяліцца.

Усіх нязгодных з новымі парадкамі бязлітасна каралі. Гэта ў Расейскай імперыі заўсёды ўмелі рабіць. Дзяржаўным злачынствам лічыліся нават «дзёрзкія абразлівыя словы». Нашых продкаў кідалі ў турмы, адпраўлялі на сібірскую катаргу, высылалі ў арыштанцкія роты. Жудасным пакараннем, якога не ведала ніводная еўрапейская краіна, было біццё шпіцрутэнамі — доўгімі гнуткімі дубцамі. Асуджанага з аголенай спінай гналі праз шыхт узброеных шпіцрутэнамі салдат. Часам прысуд патрабаваў зрабіць некалькі тысяч udараў, пасля чаго чалавек звычайна паміраў.

### Мары аднавіць дзяржаву

Магнаты і ліцьвінская шляхта, якіх у Вялікім Княстве называлі «палітычным народам», каб захаваць маёнткі, прысягнулі царскаму трону, але былі пазбаўленыя ранейшых прывілеяў і вольнасцяў. Апрача таго імператар Аляксандр І загадаў праверыць шляхецкія дакументы і ўсіх шляхцічаў, якія не пацвердзяць свае правы, прыпісаць да сялян або мяшчан.

Цар і ягоны ўрад баяліся вольналюбівага «палітычнага народа», а шляхта варожа ставілася да новай улады і марыла пра адраджэнне ўласнай дзяржавы і яе вяртанне ў Еўропу.

У 1811 годзе група арыстакратаў-ліцьвінаў прапанавала цару Аляксандру аднавіць Вялікае Княства Літоўскае і вярнуць яму землі, страчаныя ў выніку Люблінскай вуніі 1569 года з Польшчай. Пасля гэтага меркавалася прыняць канстытуцыю, вызваліць беларускіх сялян ад прыгону і правесці дэмакратычныя змены. Галоўным аўтарам пададзенага цару праекта стаў граф Міхал Клеафас Агінскі, якога добра ведалі не толькі на нашых землях, але і ў многіх еўрапейскіх краінах.

**Малюнак Паўла Татарнікава**

# ПАМЯТНЫЯ ДАТЫ 2019 года:

## пра беларускія мерыдыяны, украінскія паралелі, львоўскі экватар

**Спаўняецца 990 гадоў ад нараджэння Усяслава Чарадзея (29.07.1029–14.21.04.1101), сына Брачыслава, унука Рагнеды. 975 гадоў таму ён заняў пасад князя Полацкага (1044); быў на пасадзе князя кіеўскага (1068–1069).**

*Мяне гукалі леты на улонне,*
*каб летапісы дзвінскія бярог...*
*Як Усяслаў, дасюль я у палоне*
*маіх на бацькаўшчыну выбраных дарог.*
*І Беларусь крывіцкая аберуч*
*узважвае сыноўскае крыло:*
*маю любоў, маю адданасць, веру, —*
*усё, што вывела мяне за родны бераг*
*і што назад на бераг прывяло.*

**(З верша Сяргея Панізьніка «Бераг».)**

915 гадоў ад нараджэння княжны, заступніцы і нябеснай апякункі нашай зямлі Еўфрасінні Полацкай (5.01.1104–5.06.1173). Першая жанчына, кананізаваная Рускай праваслаўнай царквой у 1547 г., прылічана да ліку святых у 1893 г. Па яе заказе майстар-ювелір Лазар Богша ў 1161 г. стварыў напрастольны крыж. Мастацкія асаблівасці шэдэўра сведчаць пра сувязі з традыцыямі кіеўскай ювелірнай школы. У 1187 г. мошчы Еўфрасінні з Іерусаліма былі перанесены ў Феадосіеву пячору Кіева-Пячорскай лаўры. Яе нятленныя астанкі перавезены ў Полацк — у Спаса-Еўфрасінеўскі манастыр. 5 чэрвеня — Агульнанародны Дзень Святой Еўфрасінні Полацкай.

*Я — адна*
*Кветка зорная*
*З неба сіняга.*
*Я — вясна*
*Непаўторная.*
*Еўфрасіння Я!*

**(З песні «Споведзь»: музыка Віктара Войціка, словы Сяргея Панізьніка.)**

450 гадоў таму Іван Фёдараў з Пятром Мсціслаўцам выдалі «Евангелле вучыцельскае» (1568–1569), а таксама кнігі «Псалтыр», «Часасловец» (1569–1570).

445 гадоў таму Іван Фёдараў у 1574 г. выдаў у Львове першую ўкраінскую друкаваную кнігу «Апостал» і наступную — «Азбуку» («Буквар»). У Астрогу выдаў «Храналогію» Андрэя Рымшы: гэта першы беларускі друкаваны каляндар і першы выдадзены твор беларускай паэзіі.

Івана Фёдарава (Федаровіча) з беларускага роду Рагозаў лічаць заснавальнікам кнігадрукавання і ў Расіі, і ва Ўкраіне. Пахаваны «друкар кніг дагэтуль нябачаных» у Ануфрыеўскім манастыры Львова.

*Самотны Леў стаіўся каля вежы.*
*Ён зіркачам-хімерам не раўня.*
*Туман яго атульвае ў начлежжы,*
*загрывак абдымае цішыня.*

**(З верша «Львоў» Наталкі Пазьняк у перакладзе Сяргея Панізьніка)**



205 гадоў ад нараджэння Тараса Шаўчэнкі, украінскага пісьменніка, мастака, грамадскага дзеяча, заснавальніка новай украінскай літаратуры і нацыянальнай літаратурнай мовы. 190 гадоў таму ён, казачок (дваровы) П.Энгельгарта, прабіраўся Віленскім гасцінцам у Пецярбург. Каля вёскі Мясата Маладзечанскага раёна ўстаноўлены мемарыяльны знак у гонар тых, хто праходзіў у Вільню гэтым гасцінцам: С. Будны, Т. Шаўчэнка, М. Гогаль, Я. Купала, Я. Колас і дзясяткі іншых. У 1839 г. у Пецярбургу Шаўчэнка пазнаёміўся з Я. Баршчэўскім, Р. Падбярэзскім. Супрацоўнічаў з З.Серакоўскім, Э. Жалігоўскім, Я. Станкевічам. Сябраваў з Б. Залескім. У 1843 г. па дарозе на Украіну наведаў Віцебск, Магілёў, Гомель. Творы Т. Шаўчэнкі перакладалі Я. Купала, А. Гурло, Ф. Чарнышэвіч, А. Паўловіч, А. Гарун, Я. Колас, Зм. Бядуля, К. Крапіва, П. Броўка, П. Глебка, А. Куляшоў, Р. Барадулін і інш.

*Шлях з Мінска да Вільні:*
*ад ветласці — ў роднасць...*
*Слуга, ён быў вінен, бо думаў пра годнасць.*
*Наперадзе страты, салдацкія ранцы...*
*Ён Віленскім трактам ідзе — у паўстанцы!*

**(З верша Сяргея Панізьніка «Віленскі гасцінец». Пераклаў гэты верш на ўкраінскую мову Раман Лубкіўскі)**

110 гадоў таму, у 1909 г., педагог Іван Крыпякевіч, выдатны вучоны- гісторык, аўтарытэтны знаўца беларускай культуры, выдаў брашуру «Білоруси», дзе разглядаў гісторыю і пісьменства Беларусі, яе сувязі з Украінай, ацэньваў творчасць беларускіх пісьменнікаў. Упершыню на Украіне былі змешчаны ў перакладзе Мікіты Шапавала вершы Янкі Купалы «А хто там ідзе?» і «Памяці Шаўчэнкі». Аўтар распавёў пра Васіля Цяпінскага, Ф. Скарыну, Ф. Багушэвіча. Для больш шырокага пазнання тэмы заклікаў падпісацца на газету «Наша Ніва».

Гучыць там і такое прызнанне І. Крыпякевіча: «Сярод беларусаў знайшлі мы, украінцы, шчырых сяброў і суседзяў. А іначай не магло быць. Амаль усю мінуўшчыну пражылі мы разам з беларусамі, і ніколі не было між двума народамі якой-небудзь нязгоды... У долі і нядолі ішлі мы ўсе разам».

110 гадоў таму ў львоўскім гадавіку «Літературно-науковий вістнік» (ліпень-верасень 1909 г.) надрукавана нізка вершаў «З беларускай паэзіі», падрыхтаваная перакладчыкам Мікітам Шапавалам. Акрамя купалаўскіх, ён пераклаў і два вершы М. Багдановіча: «Над магілай» і «Прыдзе вясна». А сам М. Багдановіч пераклаў вершы Т. Шаўчэнкі, І.Франка, М. Кацюбінскага, В. Стэфаніка, В. Самійленкі і інш.

*Пясняр — ён ваяр і гісторык*
*і чорнарабочы, калі*
*становяцца светлыя творы*
*малітваю горкай зямлі.*

**(З верша Сяргея Панізьніка «Паклон».)**

110 гадоў таму (вясной 1909 г.) Максім Багдановіч лячыўся ў Ялце (Аўтка, малочная ферма «Шалаш». Летам 1915 г. лекаваўся ў Старым Крыме. Наведаў Кактэбель, Феадосію. У лютым 1917 г. зноў трапляе ў Ялту (назаўсёды). «Шалаш» знаходзіўся на вуліцы Крымская, 2. Яе пераназвалі ў вул. М. Багдановіча. А на будынку былой малочнай фермы была ўстаноўлена мемарыяльная шыльда. Побач, у Місхоры, у 1957 г. быў усталяваны помнік работы Заіра Азгура з надпісам: «Выдатнаму беларускаму паэту Максіму Багдановічу (1891–1917)», які ў 1959 г. стаў узнёслай аздобай парка пры санаторыі «Беларусь». 30 гадоў таму, у снежні 1989 г., у Ялце была ўстаноўлена мемарыяльная дошка з барэльефам: «На этом месте находился дом, в котором жил (с марта по май 1917 г.) и умер 25 мая 1917 г. выдающийся белорусский поэт Максим Богданович». На мітынгу ў гонар такой падзеі дошку адкрыў паэт Мікола Аўрамчык, выступілі скульптар Генадзь Мурамцаў, дырэктар музея М. Багдановіча ў Мінску Алесь Бяляцкі, паэт Сяргей Панізьнік. На ялцінскіх гарадскіх могілках (сектар №7) у 1924 г. быў пастаўлены помнік Паэту. У 2003 г. яго замяніў новы варыянт помніка, створаны Львом і Сяргеем Гумілёвымі.

*З песняй кахання ўзнадзеіцца вера.*
*Промні пастукалі ў шыбу акна,*
*Каб над Ай-Петры не смягла Венера —*
*як пры Максіме — адна.*

**(З песні «Світальная зорка...»: музыка Міколы Яцкова, словы Сяргея Панізьніка.)**

100 гадоў таму пачаў выходзіць тыднёвік «Воля» (1919–1921) — спачатку ў Львове, а потым у Вене пад рэдакцыяй Андрэя Горленкі. У перакладзе на ўкраінскую мову Аляксея Ярэмчанкі там былі надрукаваны вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі, Алеся Гаруна. А. Ярэмчэнка змясціў у Волі» (верасень 1921 г.) «Кароткі нарыс гісторыі беларускай літаратуры». А ў 1922 г. у прыгарадзе Берліна — Шарлотэнбурзе — выдаў на гектографе зборнік сваіх перакладаў пад назвай «Білорусь». Там — 17 вершаў М. Багдановіча, 4 — Я. Купалы, 2 — Я. Коласа, па адным А. Гаруна, Зм. Бядулі, Г. Леўчыка.

*І заўтра хтось яшчэ адзін абудзіцца,*
*забыўлівасці распілуе краты.*
*Святла — у спраты! Ажывайце, страты,*
*і ўсё, у што паверылі мы, збудзецца.*

**(З верша «Страты» Сяргея Панізьніка.)**

95 гадоў ад нараджэння Васіля Быкава (19.06.1924–22.06.2003) — пісьменніка і грамадскага дзеяча. У 1959 г. прыняты ў СП СССР; у 1964 г. — Лаўрэат літпрэміі імя Я. Коласа; у 1974 г. атрымаў Дзяржпрэмію СССР; ад 1980 г. — народны пісьменнік Беларусі...

Ваяваў на ІІ-м і ІІІ-м Украінскіх франтах. Удзельнічаў у баях за Крывы Рог, Александрыю, Знаменку. Падчас Кіраваградскай аперацыі (1944 г.) быў цяжка паранены (памылкова запісаны ў спісы загінулых). У в. Вялікая Севярынка Крапіўніцкага р-на на брацкай магіле ўстаноўлены мемарыял, дзе было пазначана, што В. У. Быкаў лічыцца забітым 3.01.1944 г. і тут пахаваны. Сам горад Кіраваград пераназваны ў г. Крапіўніцкі.

*Сёння знойдзеным ветразем сцелецца*
*ваяроў-весляроў павучанне:*
*анікуды Айчына не дзенецца,*
*не сплыве Беларусь у маўчанне!*

**(З верша «Вялікае княства Беларусь» С. Панізьніка.)**

**Падрыхтаваў Сяргей Панізьнік.**
**Тэкст друкуецца ў скароце.**



Фота www.foto.by

# Адвечны шлях

Алесь КАМОЦКІ

***

*Куды вядзе мая дарога адусюль,*
*Дзе я бываю выпадковым чынам*
*І не умею ведаць пра прычыны*
*Нягеглых святаў выпітай душы,*
*Якая не збіралася грашыць.*

*Дваццаць трэцяга ліпеня*
*Можа рознае быць ці не быць.*
*Дваццаць трэцяе ліпеня*
*Дзень не горшы за іншыя дні,*
*Каб мінулае выкінуць,*
*Нешта выдумаць ці адмяніць.*
*Можа рознае быць і не быць*
*Двадцаць трэцяга ліпеня.*

*Калі дарогу бачыць не хачу,*
*Спыняюся за першым паваротам*
*І пачынаю марыць неахвотна*
*Аб новых кроках выпітай душы,*
*Якая не збіралася грашыць.*

***

*Шукай, знаходзь і не губляй,*
*І не лічы пачаткі дзён,*
*Але пра час*
*Не забывай.*
*Не забывай —*
*Яму належыць першы крок,*
*Ён дорыць вынікі шляхам.*
*Прыходзіць час*
*Каб бачыць нас і не знікаць.*

*Бывае небу не да нас,*
*Бывае сонца не відно,*
*Чарговы раз*
*Прыходзіць час,*
*Праходзіць час.*
*І мараць новыя шляхі*
*Пра крокі нашыя, але*
*Не бачыць свет*
*Наступны след.*

*Часы,*
*Не мы іх абіраем для сябе —*
*Іх воляй узнікаюць нашы дні,*
*Іх воляй пралятаюць нашы дні.*

***

*Усё цяжэй паразумецца з векам,*
*Шукаць,*
*пусціўшы стому ў імпэт,*
*Тых,*
*для каго застаўся чалавекам.*
*...і пра самоту марыць неўпрыкмет.*

*Трымаць недаацэненую шчырасць*
*Напагатове кожны божы дзень,*
*Спасцігшы вынік,*
*забываць прычыну*
*І лішні раз уперад не глядзець,*
*Дзе тое, што з гадамі прыгажэе,*
*Прызнання дамагацца не ідзе,*
*Дзе сутнасць, перастаўшы быць ідэяй,*
*На век,*
*што знойдзе,*
*тое й пакладзе.*

***

*У снежаньскую сцюжу пачынаўся раман,*
*Адно што завіруха нешта*
*бачыць магла —*
*Гэта зіма.*
*З ёй зімаваць —*
*Не дадаць і не адняць.*

*Гісторыя кахання не давала заснуць,*
*У мроях недасяжна панаваў сакавік —*
*Гэта зіма.*
*Гэту зіму*
*Ні прыспешыць, ні спыніць.*

*Бязгучна падышла і не змагла расказаць,*
*Чым цябе здзівіла напрадвесні яна —*
*Гэта зіма.*
*Гэту зіму*
*Зімаваць і забываць.*

***

*Гараць паціху свечы,*
*Рыфмуе думкі вечар,*
*Не хочацца пытанняў,*
*На ўсе адзін адказ.*
*Мы разганяем хмары,*
*Мы дасягаем мары,*
*Але, на жаль, не ў стане*
*Стрымаць бягучы час.*

*Імгненні як імгненні,*
*Памкненні як памкненні,*
*Мужчыны і жанчыны,*
*Умоўнасці наўкол.*
*Алоўкам па паперцы*
*Малюе межы сэрца,*
*Карцінка як карцінка...*
*Звалілася пад стол.*

## Вечар

*Хараство знікаючага неба*
*Сёння зноў наіўна нішчыў вецер.*
*Наляцеў аднекуль непрыкметна*
*І шпурляў, шпурляў у неба смецце.*

*Ці паўночны быў ён, ці паўднёвы...*
*Ці даўнейшы быў, ці нейкі новы...*

*Толькі ноч бязродная суцішыць,*
*Узваліўшы сны яму на плечы.*
*І ў зніклым небе стане чыста,*
*І з сусвета зоркамі засвеціць.*

## Музыка

*Вечар, накрыўшы горад*
*Ціхім і цёмным небам,*
*Кліча ў вышыню.*
*Стомленым рэшткам сонца*
*Перастае належыць*
*Дзень, што ўжо мінуў.*
*За*
*Сонечным святлом*
*Кропелькі цяпла*
*Як нотныя радкі.*
*І*
*Промнем па струне*
*Бліскавічны шлях*
*Бязважкае рукі.*
*Плыў*
*Месяцам сівым,*
*Каб як апошні раз*
*У гэты дзень глядзець.*
*Сон*
*Натоліць нас пасля*
*Пярэстай хваляй мар,*
*Чаканняў і надзей.*

*Хутка раскажа вечар,*
*Дзе ў вірах мелодый*
*Новы матыў кране.*
*Музыцы там спакойна,*
*Музыка там начуе,*
*Там яна сніца мне.*

***

*Ходзіцца па зямлі,*
*Думаецца пры тым —*
*Як бы ўсе жылі,*
*Збіўшы сабе панты?*

***

*Дзе сляды ад снягоў,*
*што ў мінулым жыцці*
*Пакідаюць зямлю сакавіцкім*
*дзяньком?*
*Ім ужо не ляцець, ім ужо не ісці —*
*Безназоўным і брудным*
*плысці раўчуком.*

***

*Прыйдзе час, і застануся я ў снах,*
*Там, дзе хвіліны на імгненні час*
*не дзеліць,*
*Там, дзе палёту*
*без патрэбы будзе цела,*
*Там, дзе бясконцасцю*
*нацешыцца вясна.*

***

*Я, як заўжды, маўчу,*
*Словы вакол стаяць,*
*Ты, як заўжды, не тут,*
*І без цябе ніяк.*

## Сны

*Вечар*
*Сумам пустых завулкаў,*
*Сполахам крокаў гулкіх*
*Рушыў у межы сноў.*
*Спodзеў*
*Пераглядаў надзеі,*
*Мары услед ляцелі,*
*Час у зіму ішоў.*

*На асфальце мокры снег*
*Разам з шэрым небам*
*Невыразны цень*
*Крадзе*
*На шляхах*
*Па слядах былых*
*Блуканняў.*
*Так і ноч настане.*
*Можна сны глядзець,*
*Можна сны глядзець.*

***

*1*
*Хмарам неба не належыць,*
*Неба хмарам толькі так —*
*У далёкае бязмежжа*
*Шлях.*

*Хмары — шэрая навала,*
*Набягаюць зніадкуль,*
*Ім бывае месца мала*
*Пакуль.*

*Неба — сіняе бязмежжа,*
*Хмары — плямы па краях.*
*Хмарам неба не належыць*
*Аніяк.*

*Ім жыццё, а нам імгненне,*
*Хмары маюць іншы час,*
*Пралятаюць іх памкненні*
*Не праз нас.*

*2*
*Сонца бачыць зверху неба,*
*Позірк шле за небакрай,*
*Дзе дзяецца ён пасля —*
*Шукай.*

*Хмары неба бачаць знізу,*
*Цень кідаючы зямлі,*
*Хай бы ўсе яны ад нас*
*Плылі.*

*Зоры неба зверху бачаць,*
*Так загадкава мігцяць,*
*Ім адвеку ёсць задача —*
*Не згараць.*

*Зоры, неба, хмары, сонца*
*Карагодам па жыцці*
*Ноч змушаюць дзень бясконцы*
*Адпусціць.*

*Летні сон дрыготкай хваляй*
*Лёг на плечы цішыні,*
*І на свеце меней стала*
*Мітусні.*

## Рок-н-рольчык з 70-х

*за крокам крок*
*і за парог*
*а там працяг*
*жыццёвы шлях*
*напрамкаў многа*
*а сэнс адзін*
*знайсці дарогу*
*без каляін*

*сюды-туды*
*туды-сюды*
*пад час хады*
*лятуць гады*
*пасярод тлуму*
*штодня часцей*
*ды будзем думаць*
*пра ўсё прасцей*

*хай гэты час*
*убачыць нас*
*каб нам сусвет*
*глядзеў услед*
*Каб нашай веры*
*было дзе жыць*
*і каб без меры*
*і без мяжы.*

***

*Жыццё — імклівы рух*
*сярод спакусаў,*
*Тут цяжка быць падалей ад граху,*
*Дык дай жа, Божа, сілы беларусу*
*Трымацца годна на усім шляху.*



# Вусны партрэт з вуалеткай



Марыя ВАЙЦЯШОНАК

## Волечка

Мяне везлі сябры да хірурга. Волечка, даведаўшыся, што мы можам убачыцца ў горадзе, сустракала нас. Гэта быў завулак, троху скошаны. Волечка ішла, раскінуўшы рукі, яна ляцела. Струменілася, віравала ейная лёгкая дзяргатая сукенка, я аж спужалася напроці ў сваім спрацаваным вясковым адзенні. Мы абняліся, гаварылі гучна, смяяліся пасярод вулачкі. Я рада, калі чалавек, сустрэўшы цябе, не пытае: «Ну як ты сябе адчуваеш?», таму што ён пра цябе ведае амаль усё! Яна прыязджала ў Сілічы. Я не памятаю, якая гэта была пара года, але яна выйшла з машыны ў квяцістай сукенцы. І ўсё зацвіло наогул. У кветках і стужках была машына, быццам вясельны картэж і сам Валодзя, які яе прывёз, быў урачысты, як жаніх. Уменне яе насіць сукенкі незвычайнае. Мне здаецца, яна ніколі не стаіць на месцы. Яна заўсёды перабірае нагамі, як жаробка. Яна валодае нейкім талентам юнацтва, маладосці,таму што знаходзіцца заўсёды ў руху, заўсёды ў нейкім лёгкім настроі. Калі атрымоўваецца іншы раз патэлефанаваць, пагаварыць, то застаецца ўражанне, паклаўшы трубку, што ты пабыў з вельмі блізкім чалавекам. Побач з ёю лёгка рэалізавацца. Ці ты хочаш выказаць сваю думку, альбо нейкі выраз, вобраз. Усё ўзнікае каля яе з неверагоднай лёгкасцю. І яна можа сказаць: «Маша, Маша, гэта ўдача! Запішы абавязкова, а то забудзецца».Ты можаш з ёй падзяліцца радасцю, яна прымае ўсё на свае рукі. З ёй можна пагаварыць, як ні з кім болей. Бывае чалавек, не раўнуючы, як храм, каля яго ты больш шчыры, адкрыты, ты больш дасканалы. Такая Волечка.

## Аксана

Гэты дом стаіць праз дарогу, насупраць. Я бачу яго ў верхняе акно, бачу ў другое акно. Я з задавальненнем спыняюся, калі бываю зусім побач, каб з ім павітацца, каб не абысці яго, каб, Божа барані, раптам не заўважыць яго. Дом новы, цікавы, у ім ніхто не жыве, не жывуць людзі, але ён сам па сабе жыве. Калі мы тлумачым, дзе мы знаходзімся, гасцям, што едуць да нас, мы кажам: вы ўбачыце такі дом з зялёным дахам, незвычайны, такі трохі казачны, а тут адразу такая папярэчка. У гэтай папярэчцы мы і жывем. Трэба ехаць адразу да гэтага дому, напрасткі да нас.

Каб мяне запыталіся, каб я сама ў сябе запыталася: «А як я сабе ўяўляю, хто тут мог бы жыць?» Ты, Аксана, вельмі будзеш смяяцца, але мне выдаецца, што ў гэтым доме ты магла б сама жыць. Менавіта ты б магла жыць! І ведаеш чаму? Зараз я буду табе тлумачыць. У чым павінна быць апранута гаспадыня, калі яна заходзіць у гэты дом? Калі мы толькі пасяліліся ў Сілічах, праз акно мы хацелі зазірнуць (дом жа прадаецца), і спрабавалі паглядзець, што робіцца там унутры. Мне падаецца, што там такога бурага колеру мармур на падлозе. Мне падаецца, што ты павінна зайсці гаспадыняй у гэты дом у сукенцы «ў пол», менавіта пад колер мармуру, нешта такога вулканічнага колеру. Як ты там павінна жыць? О! Ты для яго падыходзіш як ніхто іншы. Ты не любіш мыць посуд, але ты можаш накарміць з рукі мужа, дзяцей, птушак, сабак. Далей, я не ведаю, ці іграеш ты на чым-небудзь, але гэты дом патрабуе, каб у яго быў інструмент, хутчэй за ўсё гэта мог бы быць клавесін. Я вельмі люблю клавесін. Дом празрысты, хаця ён не са шкла, але ён празрысты, як можа быць празрыстым рэха, альбо музычная нота. Быццам там, усё што ў доме: паліцы, усё, што на паліцах, расстаўлена, як у музычным радзе, як ноты, а наперадзе скрыпічны ключ. І мне здаецца, што гэтым скрыпічным ключом гэты дом павінен адчыняцца. Зачыняцца ты яго ніколі не будзеш, ты не любіш пільнавацца рэчаў, маёмасці нейкай там. Не-не-не! Ты будзеш выходзіць, дзякуй Богу, што не забудзешся зачыніць за сабой дзверы, і як заўсёды ты любіш, не збіраючыся, не пераапранаючыся, адразу з дому, у чым ты ёсць, сесці і паехаць у Ісլач.

Там цябе сустрэне хворы мастак з крывымі капытамі. Ён будзе хадзіць вакол цябе, пастукваючы капытамі, ён будзе разводзіць табе вогнішча. Ты не ў гэтым часе. Я і не ведаю, у якім ты часе знаходзішся, калі туды едзеш, але табе трэба вялікае вогнішча. Ты пасядзіш, ты паглядзіш на гэтае вогнішча, ты пагаворыш, а прыехаўшы,будзеш распавядаць, што ты бачыла агонь. Табе трэба бачыць жывы агонь.

Звычайна, вярнуўшыся, ты залятаеш у краму, як птушка, і тое, што купіла, можаш выцягнуць з кішэні і з'есці. Не патрэбна будзе ні талерка, ні стол, ні нейкія прылады, ні сервіроўка. Божа барані, каб у доме пахла кіслай капустай альбо нейкім баршчом ці нека варыў варэнне! Я хацела б сказаць, што ўсё гэта я быццам бачу праз сваё акно на другім паверсе.

Я цябе вельмі віншую. І гэты домік я табе падаравала. Таму што ёсць вялікая прычына. Твой дзень народзінаў! Нават калі гэты домік купіць і паселіцца іншы чалавек, я заўсёды буду яго называць «Аксанін Дом».

## Алена

Першы раз Алену мы ўбачылі ў Доме друку, у «Сельскай газеце». Яна заходзіла з мужам у сталоўку, а мы якраз там палуднавалі. Віктар вёў яе за руку.



Лена мае ўсходнюю прыгажосць. Яна мала пра гэта ведае, ніколі не апранаецца так, каб падкрэсліць сваю прыроду. І на той раз яна была ў белай сукенцы, вязанай пруткамі. Ну проста лермантаўская Бэла. Яна ішла неяк крыху наводдаль ад яго. Менавіта такое ўражанне, быццам яна крадзеная. Быццам яе Віктар украў. Паклаўперак сядла і прыскакаў у Дом друку. Мы чамусьці ўсе амаль збянтэжыліся ад ейнай прыгажосці. Быццам захацелася крыху не тое, што параўнацца з ёй, а ейная прысутнасць, выразная прыгажосць падзейнічала на нас нібы прахаладай, захацелася не тое, што недзе схавацца, а неяк аддаць ёй усю тую вартасць, тую цану, забыцца на тое, што ты таксама жанчына, што таксама лічыш сябе прыгожай, на гэта так хацелася забыцца, і не было дазволу на параўнанне. Такой была Алена. Алена такой застаецца, я думаю. І абавязкова трэба сказаць рэдактару газеты «Народная воля», каб ён не забываўся, што гэта прыгожая жанчына, што ўзросту, які напісаны ў яе пашпарце, яна яшчэ не мае. Каб ён яе шанаваў, таму што ў любой сям'і, ці то ў газеце, ці то ў якім каралеўстве, — прыгожая жанчына заўсёды мае вялікую цану. Тых, хто працаваў у «Сельскай газеце», засталося вельмі мала, і ўсе мы з аднаго кошыка, з аднаго гнязда. Каб ён гэта памятаў.

## Святлана

Мы сустракалі людзей разам з ёй, ідучы ў краму, ідучы з крамы, ідучы па вуліцы, зайшоўшы ў кафэ. Было так нечакана, калі я, напрыклад, вярталася да століка, атрымаўшы прыгатаваную каву, а ты ўжо сядзела за ім, у цябе ў руках была ружа, і ад цябе адыходзілі двое маладых мужчын. Было так неспадзявана, таму што была праца, было столькі дарог, столькі цяжкіх дарог. Была такая ахвярная праца твая.

І раптам над усім узышла ружа.

Потым заходзім у індыйскую краму, цябе пазнае прадавец, падыходзіць. Шукае паперу, лапае па кішэнях, хвалюецца. Потым дастае заліковую кніжку і кажа: напішыце тут аўтограф. І ты распісваешся ў заліковай кніжцы. Мне падаецца, што я б яму паставіла таксама залік па самаму важнаму прадмету, літаратуры. То мы ідзем па вуліцы, падбягае адна, другая жанчына. Гэта было кожны раз. Быў выпадак, і не адзін, калі нехта нешта стараўся адразу падараваць. У адным кафэ, куды мы зайшлі, гаспадыня, убачыўшы Святлану, папрасіла пачакаць. Яна пабегла і прынесла брошку, падаравала.

Падбягалі маладыя дзяўчаты і хлопцы. Самае цікавае, адзін з іх кажа: мне для мамы трэба, напішыце. Дзяўчынка кажа, што яе кніжкі дапамагаюць ёй жыць. Я гляджу на яе, яна такая маладзенькая, і думаю, можа быць, у яе штo здарылася, які злом, іспыт, згуба, няшчасце? Мы заўсёды лічым, што яны жорсткія, што яны самавольныя, хіба і ім патрэбна дапамога!? То вось у краме: зноў выбягаюць, і адна прадавачка пазнае цябе. Яна заве іншых, і яны падбягаюць усе гуртам. Просяць сфатаграфавацца. І ты нікому не адмаўляеш, а я стаю такая, здуроная гэтымі модамі. І думаю, як ты выглядаеш? Хвалююся за цябе. Ты пра гэта ніколі не думаеш. Папрасілі, і ты не адмаўляеш. Цябе просяць сфатаграфавацца, і ты згаджаешся. Ты нікому ніколі не адмаўляеш, а я палохаюся — у чым ты? Звычайна ты ходзіш як жанчына, якая заўсёды ў дарозе, ты падарожніца. На табе надзеты нейкі лёгкі бушлат з капюшонам. Ты баішся ветру, цябе ён можа дагнаць на любой адлегласці, нават у памяшканні, у вобразе вентылятара. Вядома, людзі пазнаюць цябе лёгка, ты не носіш дарагога адзення, ты ніколі сябе не дэманструеш, ты проста падарожнік.

У мяне ўражанне, што ўвесь горад чытаў толькі «Время секонд хэнд». Выглядала гэта так, быццам я знаходжуся ў бібліятэцы, у чытальнай зале. Нехта ўстае, падыходзіць да аўтара і пачынае з ім размаўляць, браць аўтограф. Нехта сядзіць дома, чытае, глядзіць у акно, пазнае яе і выбягае па аўтограф. З аднаго дому, з другога, з дзясятага, з сотага. Нехта ідзе па вуліцы і таксама просіць сфатаграфавацца. Горад мяне проста здзівіў!

Я заўсёды, калі цябе нехта пераймае, адыходжу ўбок. За два гады ніхто ў я не запытаўся: а хто гэта быў з вамі побач? Ніхто, ніхто не запытаўся: а хто з вамі, Святлана, увесь час побач? Як лёгка я сыходжу ўбок, як быццам знікаю. Гэта лёс, я часта ўваходжу ў свой цень, нібыта ўвесь час знаходжуся на самай сонечнай старане быцця.

## Юля

Аксана мне шмат чытае. На гэты раз яна расказала мне пра жанчыну на фотаздымку, дзе яна сядзіць, ахінуўшыся пледам, п'е каву і паліць цыгарэту, недзе далёка на адпачынку. На фотаздымку, як Юлі самой падалося, яна падобная на жанчыну з партрэта Веласкеса. А мне адразу ўвачавідкі, ужывую ўбачылася, як яны сядзяць насупраць адзін аднаго і п'юць каву. І гэта раніца. І не ў якой там вымандж онай сукенцы, як у Веласкеса, а проста з пледам на плячы, быццам усё так просценька. Мне захацелася б зараз узяць пэндзаль і размаляваць ейны твар іспанскімі фарбамі, а сама яна напісала ў Фэйсбуку проста, не ўжываючы аніякіх малявідлаў. Ніводнай плямы на ёй каляровай, не магла яна запэцкацца ніякай фарбай. Толькі ўся асветленая фразай: «Я — шчаслівая!» І тут я нечакана востра адчула: мне так захацелася паўднёвай цеплыні, прытулку. Захацелася недзе пасядзець, і каб мужчына абавязкова быў насупраць і плед на плячах. І каб гэта ўсё адбывалася ў нейкай далёкай чужой старане, дзе ты незнаёмы ўсім і вельмі вольны: не выбіраеш сукенку, ні ў чым не сумняваешся, не бянтэжышся, не губляешся. Ты ўпэўнена ў самой сабе, у ім. Ты пад пледам, быццам пад аховай, цябе не збянтэжыць чужы позірк. Табе шмат чаго дазволена ў жэсце, у слове, у манеры. Ты не адзінокая жанчына, ты не з сяброўкай, побач з якой ты іншы раз адчуваеш, быццам ты з двайніком, калі раптам збоку бачыш свой немалады твар, як адбітак у бягучай вадзе. Аксана быццам чытала мне на найпрасцейшай мове. А вось жа атрымалася, перадалося. Мне таксама вельмі захацелася пасядзець на тэрасе, вельмі-вельмі. Я іншы раз адчуваю, як балюча не хапае чалавека побач. Гэта адбываецца рэдка, але я раптам заўважаю побач з сабой пустое крэсла. Быццам у зусім нечаканым месцы. Так балюча, быццам мяне нядаўна вырвалі з сям'і, ці адлучылі з нейкага асяроддзя. А можа, я проста выпала, а павінна была быць менавіта на тым месцы, на тэрасе!

Потым я даведваюся, Аксана мне чытае, што ўсё адбывалася не ў Іспаніі, а ў Чэхіі. А ў маёй галаве ўсе помныя фарбы разліліся, перамяшаліся. І ў мяне намаляваўся вобраз Іспаніі. Я бачыла на фотаздымку: жанчына яна ігрывая, адкрытая, чорнавалосая. Ёй вельмі б пайшло, каб ён сам запрасіў яе станцаваць на тэрасе фламенка, а можа хто-небудзь з іншых мужчын, з іспанцаў! І ёй бы пасавала замест банта, як у жанчыны Веласкеса, прышпіліць у валасы чырвоную кветку.

Я з ёй зусім незнаёмая. Іншы раз ад людзей, якіх не ведаеш, нават на вялікай адлегласці можна заразіцца іх энергіяй. Нібыта атрымаць запрашэнне, хуценька пераапрануцца і сесці за іх столік. Я ўпэўнена, яны сядзяць, размаўляюць, рассыпаючы вакол сябе буйныя шкляныя пацеркі. Іх хочацца паднясць і начапляць на нітку!

Я не адчуваю сябе адзінокай. Гэтае пачуццё прыходзіць вельмі рэдка. Я наогул лічу, што адзіноты не існуе. Як сказаў адзін грэчаскі паэт: калі недзе на свеце маладая маці гушкае дзіцяці, калі недзе на лузе пчала збірае пылок, калі вецер расхінае бутон кветкі, чалавек не можа адчуваць сябе адзінокім.

# Шляхі жыцця

## Разуменне сутнасці часу Алесем Разанавым

Аляксандр ДАКУКІН

***Развей няведання туман***
***і адкажы нам,***
***непазбежнае,***
***ці гэта час належыць нам,***
***ці гэта мы яму належныя?***
***А. Разанаў***

Усе мы заўсёды знаходзімся ў непарыўнай сувязі з часам, які знітоўвае паміж сабою падзеі, робячы тым самым жыццё разнастайным і нечаканым.

Такая надзённая, але абстрактная з'ява, безумоўна, не магла пакінуць абыякавымі мысляроў і пісьменнікаў, якія ўжо не адно стагоддзе імкнуцца ўсвядоміць няўлоўную сутнасць часу, атаясамліваючы яго з нечым Боскім ці абвяшчаючы «звычайнай» фізічнай канстантай або ўвогуле падкрэсліваючы неспасцігальнасць дадзенай з'явы. Так, Гарацый звяртаў увагу на хуткаплыннасць жыцця і разбуральную моц часу, кажучы: «Чаго толькі не аслабляе ўсёразбуральны час?» ці «Чаму не пагражае пагібельны час?». Пагэтаму «што будзе заўтра, сцеражыся разгадваць, і кожны дзень, лёсам нам пасланы, лічы за шчасце». Філосаф заклікаў нас атрымліваць асалоду ад кожнай хвіліны, а жыццё напоўніць слодычу і прыемнасцю. Менавіта ён аўтар знакамітага выразу aurea mediocritas («Залатая сярэдзіна»), што ўвасабляе сабой жаданне пазбягаць залішніх цяжкасцяў ды імкненне да памяркоўнасці, спакою. Шмат разважаў пра час і Марк Аўрэлій у сваіх «Роздумах»: «Успомні аб сутнасці ў яе цэлым: у якой нікчэмнай долі ты ўдзельнічаеш у ёй; пра час у яго цэлым, ад якога табе дадзены толькі кароткі і мімалётны тэрмін; пра лёс: якой нязначнай часткай яго ты з'яўляешся!». Б. Паскаль увогуле зводзіў час да пэўных лічбаў: «Тэрмін на зямлі сто гадоў... Чаму прырода спынілася на гэтым ліку, а не на іншым, хоць іх незлічонае мноства, і няма падстаў выбраць гэты, а не той, і гэтаму ліку аддаць перавагу, а не таму».

Цікавы погляд на час падае і Алесь Разанаў, адзначаючы яго цыклічнасць, спалучаную з непарыўнасцю і зменлівасцю. Гэта дае падставу праводзіць паралелі з традыцыямі філасофіі Усходу.

Традыцыйна час падзяляецца на мінулае, сучаснасць і будучыню, але ці правамерная такая дыферэнцыяцыя? Няўжо мы пражываем пэўную падзею, а пасля пакідаем назаўсёды ў сховах памяці, незваротна імкнучыся ў вір новых імгненняў? Ці ўсё-ткі захоўваем сувязь, еднасць з ранейшым?

*Тут толькі лета і зіма,*
*світальны позірк,*
*сон глыбокі,*
*і белаплынныя абокі,*
*і міг, што быў*
*і ўжо няма*
**(«Танец з вужакамі: выбранае»)**

Як бачна, аўтар падкрэслівае, што нешта перажытае намі ўяўляе толькі імгненне. Але імгненне гэтае не знікае бясследна, а працягвае існаваць побач з сучаснасцю:

*Мінула, знікла...*
*І ў траве*
*прамень бязбоязна іграе.*
*Але мінулае жыве,*
*яно за намі назірае.*
**(«Танец з вужакамі: выбранае»)**

Таму нельга дакладна правесці межы пры падзеле часу на пэўныя часткі, бо перажытае можа зноў з'явіцца ў жыцці, толькі ўжо ў пераўвасобленым выглядзе. Напрыклад, назва кнігі Алеся Разанава «Шлях-360» адлюстроўвае часавы «велізарны супярэчлівы кругазварот сэнсу і бяссэнсіцы, гармоніі і хаосу, вечнасці і мімаходнасці, духоўнага і бездухоўнага». Мы пражываем адзін такі кругазварот, а затым ён пачынаецца зноў, але ўжо насычаны мноствам чагосьці іншага. Можна ў сувязі з гэтым казаць пра цыклічнасць часу, якая, аднак, не парушае яго непарыўнасці, а дапамагае ў імкненні далей. Нават, калі пэўны цыкл пашкодзіцца, усеабдымнасць часу не зменіцца:

*Выбіўся з рытму часу –*
*падаю*
*ў бездань часу.*
**(«Танец з вужакамі: выбранае»)**

Для Алеся Разанава традыцыйным увасабленнем часу і гісторыі з'яўляецца вобраз шляху. Чалавек безупынна крочыць па гэтай дарозе — перамяшчаецца ў часе — і пакідае сляды, пад якімі разумеюцца пэўныя падзеі мінуўшчыны і сучаснасці. Навакольная рэчаіснасць уся

**Час-дарога ўплывае на чалавека і ягонае жыццё, але і сама гэтая няўлоўная з'ява пэўным чынам абумоўліваецца паводзінамі асобы. Шляхі доўжацца, а людзі працягваюць па іх крочыць**

ахутаная безлічччу самых разнастайных шляхоў. Кожны абірае сабе пэўную дарогу і пасіху ідзе па ёй, паступова пераходзячы на ўсё больш і больш шырокія і шматлюдныя. Застаюцца ззаду разнастайныя рэчы, незлічоныя багацці, нават цэлыя эпохі, а людзі ўсё працягваюць крочыць па шляхах, пакідаючы адбіткі сваіх слядоў на паверхні гісторыі: «Адзінага, каго яна [дарога] не можа пакінуць, — гэта чалавека: калі рухаецца ён — рухаецца і яна, калі спыняецца ён — спыняецца і яна. Ён — яе другое «я», яе спадарожнік і правадыр, які дырыжуе, як ёй ісці — таропка ці паволі, ціха ці гучна». Як сцвярджае Алесь Разанаў, дарога і чалавек, што рухаецца па ёй, заўсёды цесна звязаны між сабою: «Усё, што здараецца з дарогай, здараецца і з чалавекам, і ўсё, што ні здараецца з чалавекам, здараецца якраз у дарозе, бо сама прырода дарогі — здарацца, «здарагацца»». То бок, сапраўды, час-дарога ўплывае на чалавека і ягонае жыццё, але і сама гэтая няўлоўная з'ява пэўным чынам абумоўліваецца паводзінамі асобы. Шляхі доўжацца, а людзі працягваюць па іх крочыць. Такое становішча адбываецца здаўна. З'яўляюцца і знікаюць усё новыя пакаленні людзей, прычым пры знікненні яны не пакідаюць адрасы, па якіх іх трэба шукаць. Застаюцца толькі адбіткі на вечным шляху, на вечнай «торы чалавечай гісторыі». Менавіта здольнасцю захоўваць успамін аб мінулым і даваць нам магчымасць да яго дакрануцца і каштоўная гісторыя-дарога. А які ж успамін выбраць з бязмежных сховаў мінулага жыцця — гэта поўнасцю залежыць ад лёсу і наканавання: «Дарога найдаражэйшая госця: яна нясе людзям навіны, нясе дары, нясе радасць і гора, трагедыю і жарт, гатовая, як торг, заўтра змяніць іх на проціглеглае».

Дадзеная вобразнасць і якасці, якімі надзяляецца час, перагукваюцца з пэўнымі ўяўленнямі, характэрнымі для філасофскіх канцэпцый Усходу. Творы Алеся Разанава, на думку Т. Лозкі, «варта разглядаць у суаднесенасці з такімі напрамкамі рэлігійна-філасофскай думкі Усходу, як даасізм і будызм». У іх аснову пакладзены прынцыпы старажытнакітайскай натурфіласофіі і вучэнне Інь-Ян. Сутнасць апошняга ў тым, што «...нічога не можа існаваць у часавай катэгорыі «заўсёды», нішто не з'яўляецца па сваёй сутнасці дрэнным ці добрым. Такія традыцыйныя паняцці, як «добра» і «зло» ва ўсходняй філасофіі — гэта дуалізм, які залежыць ад адносінаў чалавека да падзеяў і сваіх жаданняў, адзнакі «дрэннае»-«добрае» насамрэч не з'яўляюцца ўласцівасцямі, суадноснымі з прыродай рэчаў» (Т. А. Лозка. Творчасць А. Разанава ў святле ўсходняй філасофіі // Известия Гомельского государственного университета имени Ф. Скорины. — 2006, № 1).

Гэтая дваістасць пранізвае не толькі час, прастору, але нават і саміх нас: «Я аддзяліў слодыч ад горычы, асалоду ад пакуты, рай ад пекла — і кветкі сталі мяне паіць толькі салодкім нектарам, а дрэвы частаваць толькі райскімі яблыкамі. Але чым далей, тым з усё большай трывогай я ўслухоўваюся ў тую другую палову падзеленага мною свету. «Яшчэ не позна, — мне шэпчуць нейчыя галасы, — выпі кубак горычы, якою перапоўніліся кветкі, — і яна ацэліць цябе, сатупі ў пекла — і яно цябе выратуе...» Я вагаюся, туляюся ў сваю палову і не адважваюся зразумець, што я ўжо асуджаны». Таксама пра дуалізм і часу, і чалавечай сутнасці распавядаюць наступныя радкі:

*Куды? Адкуль?.. —*
*маўчанне.*


Фота kolyaseg.com

*Не дасць адказу час.*
*Стаю — і сам пытанне,*
*іду — і сам адказ.*
**(«Танец з вужакамі: выбранае»)**

У паэтычным свеце, створаным пісьменнікам, Т. Лозка бачыць таксама і паралелі з даасізмам: «У творчасці А. Разанава рэалізуецца асноўнае палажэнне даасізму — існаванне Даа. Даа ўвогуле не паддаецца вызначэнню, семантыка слова ўключае «руханне» свету, шлях жыцця. Гэтае слова па-кітайску азначае «шлях», «дарогу»».

Уплыў даасізму ў Алеся Разанава можна адчуць таксама і на ўзроўні паэтыкі, для якой уласціва ампліфікацыя вобразна-выяўленчых сродкаў, багацце і разнастайнасць іх: сімвалы, паралелізмы, алегорыі, параўнанні і інш. Асабліва яскрава гэта можна ўбачыць у вершаказах. Напрыклад, даволі цікавы вершаказ «Век»:

Век спалучаны з усімі істотамі, але найшчыльней — з чалавекам. Ён выяўляецца — і чытаецца — у яго твары і постаці, і калі па якой-небудзь прычыне век парушаецца, то *нявечыцца* і чалавек. Век не аднолькавы са стагоддзем: ён утрымлівае ў сабе сваю меру, якая вымяраецца не проста часам, а самой непаўторнасцю часу, — і свой вектар, які скіроўваецца з пачатку ў канец, з маладзіка ў ветах, з раніцы ў вечар, з жыцця, якое падуладна зменам, у жыццё, якое зменам не падуладна, — у вечнасць. Калі гарыць свечка, яна гарыць век, калі расце дрэва, яно расце век, калі жыве чалавек, ён жыве век, і які б гэты век ні быў — кароткі ці доўгі, роўны ці пакручасты, — ён усё роўна вялікі.

Разнавіднасць будызму — дзэн-будызм — уяўляе сабою не рэлігію і не філасофію, а «прапануе своеасаблівы спосаб мыслення: ён адмаўляе зносіны, якія могуць адбывацца толькі з дапамогай канвенцыянальных знакаў і якія прадстаўляюць свет у абстрактным лінейным перакладзе»; з дадзеным кірункам «творчасць А. Разанава лучыць этычная арыентацыя, увага да ўнутранага свету асобы» (Т. Лозка). Прыгадаем тут наступныя словы паэта: «Палову жыцця падаюся ў свет, палову — варочаюся са свету, палову жыцця пішу на дарозе свае імёны, палову — закрэсліваю напісанае, палову жыцця расту ад зямлі, палову — расту з зямлёю: і ўсё менш ува мне мяне, і ўсё больш бязмежжа». Пададзенае меркаванне зноў падкрэслівае думку, што падзяліць час на пэўныя адрэзкі можна толькі ўмоўна. Безумоўна, нельга поўнасцю атаясамліваць творы пісьменніка з усходняй філасофіяй, але пэўнае падабенства назіраецца.

А. Разанаў адлюстроўвае таксама і лёсавызначальнасць часу: «Колішні брыгадзір палаводчай брыгады Іван Шаўкаловіч, па-вулічнаму Гуговіч, казаў, што ён пражыве семдзесят два гады. Столькі разоў адстукаў яму ў часы яго маладосці, яшчэ пры Польшчы, на адным спірытычным сеансе драўляны столік. І з ім, і вакол яго ўсё мянялася неаднаразова, і ў чужых землях, і ў сваёй зямлі гінулі аднавяскоўцы, а Іван Гуговіч, нібы зарок, насіў у сабе тую звестку, якая прыйшла да яго з яго канца... І калі па вёсцы блукалі ўпартыя чуткі: будзе вайна, і ў ёй анііхто не ўцалее, а ў краме бралі мяшкамі запалкі, мыла і соль, я не згаджаўся: не будзе — Івану Гуговічу яшчэ далека да сямідзесяці двух гадоў. Загінуў ён неяк дзіўна. Паехаў на возе ў лес, а перад мостам чамусьці збочыў, паехаў па-плыткаму — уброд, праз раку... Там і знайшлі яго: на беразе хадзіць конь, воз у вадзе, а пад возам Іван Гуговіч, адно вытыркаецца, у кола ўчапераўшыся, рука... Розныя меркавалі пра выпадак гэты. А я прыгадаў ягоны расказ, якому і сам ён здзіўляўся, нібы не верачы, як гэта можа быць... Ён не дажыў паўгода да тэрміну, што яму тады налічыўся, — мабыць, апошні раз столік стукнуў цішэй» («Танец з вужакамі: выбранае»). Але нельга казаць, што чалавек цалкам залежыць ад часу. Наадварот, мы можам у любую хвіліну зрабіць сваё жыццё інакшым:

*Але чакай,*
*няўмольны час:*
*я маю права*
*ўсё закрэсліць*
*і потым*
*нанава пачаць.*
**(«Танец з вужакамі: выбранае»)**

Як выяўляецца, бачанне часу у Алеся Разанава вельмі шматграннае. Час уяўляе сабою не проста лінію, а сукупнасць пэўных жыццёвых цыклаў, якія несупынна змяняюцца, імкнучыся далей у існае. Найбольш адпаведным вобразам для адлюстравання супярэчнасцяў дадзенай з'явы падаецца вобраз шляху, але гэты шлях жыцця дуалістычны, то бок спалучае і адмоўнае, і станоўчае. Сапраўды, можна поўнасцю пагадзіцца з пісьменнікам, які трапна характарызуе час як няўлоўны і няўмольны.

# Навагодняе чытанне: «Дзеяслоў-97»

**Неўпрыкмет мінуўся яшчэ адзін год стваральнага жыцця ў беларускім сучасным літаратурным працэсе.**

Шмат напісана і нямала выдадзена. І нават калі браць па вялікім рахунку — сярод усяго гэтага ёсць таленавітыя, адметныя і вартыя шырокай чытацкай увагі творы нашых паэтаў, пісьменнікаў… і крытыкаў.

Хоць чамусьці менавіта апошнім, бедным, якраз і дастаецца найбольш таго самага пякучага выспятку. За што? А за тое, што ўсё-ткі не ўсё напісанае і выдадзенае вартае чытання і ўхвалы… М-да…

Іншая справа — часопіс. Да прыкладу — «Дзеяслоў». Тут ёсць разнастайны жанравы выбар. Таму нешта ды знойдзецца для чытання на ўсякі густ. Нават для самых што ні на ёсць літаратурных гурманаў. Ну вось хоць бы і ў гэтым 97-м (6-м) нумары.

Перадвнавагодняе выданне адкрываецца публікацыяй перастварэння «Каляднай казані» Лявонція Карповіча са старабеларускай мовы, зробленае вядомым сучасным паэтам Алесем Разанавым. Л. Карповіч (1580–1620) — паэт-публіцыст і вядомы царкоўны дзеяч (узначальваў антыўніяцкае супрацьстаянне ў ВКЛ), народжаны ў Пінску (памёр у Вільні); быў архімандрытам брацкага праваслаўнага манастыра Святога Духа ў Вільні, таксама меў датычнасць да навучальнай і выдавецкай дзейнасці, у прыватнасці, да выдання кніг Мялеція Смятрыцкага. Перастварэнне, як мне падаецца, надало «казанню» свецкасці, жывой логікі, душэўнага цяпла і той простасці, што закранае глыбіню сутнасці зямнога чалавечага жыцця і яго духоўнага працягу ў боскай вечнасці…

Нізку адмысловых вершаў рознай тэматычнай скіраванасці — ад грамадзянска-палітычных да пачуццёвай лірыкі — прапануе чытачу Уладзімір Някляеў. Творы — дасканалыя па версіфікацыі, вытанчаныя па майстэрству і стылю, напоўненыя зрушлівым і ўзвышаным духам, аднак пазнавальныя і прадказальныя карэннымі праявамі, што вынікаюць са шматгадовага вопыту літаратурнай творчасці і грамадскай працы. Вось адзін з такіх вершаў:

*Сарвалася ў бездань дарога,*
*І я азірнуўся ўначы:*
*За спінай маёй анікога.*
*Хоць крыкам крычы —*
*Ніхто мне вяроўку не кіне,*
*Ніхто не працягне руку!..*
*А недзе*
*Агонь у каміне.*
*Каханая на скразняку.*

Вельмі актыўны апошнім часам пісьменнік Віктар Казько. Чытачам прапануецца аповесць «Як я «рабіў» шпіёнам у Нью-Ёрку». У гэтым тэксце так шмат фактычнага матэрыялу і фігуруе каля дзясятка сапраўдных імён, таму я не ведаю, чаму ён названы аповесцю, а не, скажам, эсэ альбо яшчэ якім мемуарным жанрам. Аднак — аповесць. Пра што? Пра былога савецкага чалавека і найбольш пра сябе самога. Пра чалавека Хрыста, які быў у кроку ад чалавека Юды… Пра паўсядзённую працу органаў дзяржбяспекі (КДБ) і спробы схілення да працы на гэтыя органы. Аўтар зазначае:«Лічыцца, што самая старажытная на зямлі прафесія — прастытуцыя. Падман. Выведка — яна прастытуткай была ці не раней. Калі ўжо не блізняты яны, то, бясспрэчна, аднаяйкавыя родзічы». І вось пад яе пільным наглядам і адбывалася драматычная эвалюцыя савецкага чалавека — ад грамадзяніна да асобы. В. Казько, не шкадуючы слоў, падрабязна апісвае гэтае калючае прадзіранне праз заслоны знешне аточанага ад усяго свету жыцця, а таксама не хавае перанесеных пакут, і ўрэшце выкрывае і высмейвае псеўдакамуністычныя рэаліі і вычварэнні сацыялістычнага будаўніцтва. Ну і асноўная гаворка ў аповесці — пра ўдзел пісьменніка ў асамблеі ААН у Нью-Ёрку якраз на пачатку гарбачоўскай перабудовы.

Як мне здаецца, то на такія доўгатэрміновыя мерапрыемствы ў самае логава капіталізма пасылаліся ўсё-ткі правераныя людзі. Не думаю, што В. Казько нейкім дзіўным чынам пазбег гэтага. Але ўнутрана аўтар усё ж заставаўся натурай творчай і таму не да канца вытлумачальнай, а да ўсяго яшчэ і глыбока перакананым беларускім нацыянальным чалавекам. Як ён піша:«Сапраўды, усё таемнае з цягам часу становіцца яўным, як шыла ў мяшку: згвалтаваная і падманная гісторыя, сапраўдны кошт усіх рэвалюцый, справядлівых і несправядлівых войнаў, крывавая, забітая ў Гулагах праўда. І гэта толькі здаецца, што ўсе мы розныя і таемныя. Карэннае, нашчадкавае, у барадзе Карла Маркса не схаваеш, у дрыгве і багне не стоіш, чужое ёсць чужое, сваё ж заўсёды бярэ верх, кілой яно выпрэ з цябе. Кожны на зямлі смяецца, плача, робіць і нават крадзе і хлусіць так, як бацькі і бацькаўшчына запаветавалі». І ў той жа час пісьменнік шчыра прызнаецца, што ён «не жадаў выходзіць з дваццатага свайго веку — вясковая вернасць. Вернасць свайму стойлу, балоту і часу». Аднак жа паступова прасвятлэнне адбывалася… І ўжо з сённяшняга часу вымалёўваецца гэты наш ментальны і, дасць Бог, неўміручы гістарычны вобраз: «І я іду, іду па сваім жа следзе праз камяні спатыкання, па сцежках, барáх і дубровах, багне і дрыгве дзяцінства. Па апякаючай і чаруючай нас памяці, прагі загадак, сакрэтаў таямніц, нахай і марна прывідных. Іду на чужыне і дома, па тым, што наканавана і загадана мне вечнасцю — быць шпіёнам, хаця на кожным кроку выракаюся гэтага, толькі ў галаве трымаю: назіраць і бачыць, слухаць і маўчаць. Чым не наш з вамі партрэт, партрэт беларуса сёння».

Друкуюцца ў апошнім нумары «Дзеяслова» 2018 года новыя вершы Леаніда Галубовіча і Валянціны Аксак. Калі ў першага пераважае традыцыйны песімізм і самотлівая адзінота, дык у яго зямлячкі з-пад Нясвіжа больш існыя і глыбокія тэмы і матывы замешаныя на хрысціянскіх традыцыях і нярэдка супярэчлівых ім сучасных успрыманнях гэтага свету, бо «уцёкі ад дзікае слівы// ў завінены рай// апынуліся бегам// па трэнажорнай дарожцы» (маюцца на ўвазе папярэднія зборнікі паэткі «Дзікая сліва» і «Завінены рай»). Бо:

*Пасталела нарэшце —*
*ужо не азіраюся.*
*Там нічога няма.*
*Нават жменькі попелу*
*са спаленых дзённікаў.*
*Але палюбіла чытаць*
*чужыя ўспаміны.*
*У іх так прыгожа*
*распавядаецца пра тое,*
*чаго не было.*
*І я гэта помню.*
*Дараваць —*
*не значыць забыць.*
*Уважліва чытаю*
*між радкоў.*

Неяк цяжка давялося мне падмастакоўвацца да ўспрымання дзіцячай прозы Сяргея Рублеўскага, да гэтага ягонага дзедаўскага стылю. Я маю на ўвазе аповед пра сабачку, унукаў і іх шчаслівага дзядулю «Тузік-Гузік». Хоць у рэшце рэшт пэўнае паразуменне адбылося.

Алесь Бычкоўскі публікуе заканчэнне свайго фэйсбучнага рамана «Край ваўкалакаў». На першы погляд, прыземленыя, але жывыя натуральныя запісы беларускага жыцця ў правінцыйным гарадку. Ёсць звычайныя шараговыя нататкі, але сустракаюцца і адметныя, можна сказаць, афарыстычныя і філасофскія, як вось гэтыя:

«Дзядуля мой з Палесся быў вернікам. Бывае, паслухае вядзьмарскія заклёны, кульне гранчак самагонкі і абавязкова зап'е свянцонай вадой…»;

«Працаваў аператарам вёрсткі ў газеце. Калі раздрукаваны аркуш фармату А3 з маёй вёрсткай выпаўзаў з прынтара ў рукі, заўсёды адчуваў сябе Францішкам Скарынам».

З чаго ж «вырастае» і складваецца гэты «раман»? З непахіснай любові аўтара да беларушчыны, неабыякавасці да сучасная парадаксальнага жыцця і вернасці свайму літаратурнаму пакліканню. Ну і — гумару, іроніі ды правакацыйнасці, як жа без гэтага можа трывацць прывязка да фэйсбуку:

«Чамусьці я ўпэнены: каб стаць пісьменнікам у нашай краіне, можна ўвогуле нічога не пісаць. Замест творчасці трэба часцей рабіць сэлфі з помнікамі Купалу-Коласу, святкаваць чарговы ўгодкі Міцкевіча-Багдановіча, наведваць магілы Караткевіча-Янішчыц, бываць на шматлікіх прэзентацыях, даваць аўтарытэтныя каментары ў сацыяльных сетках і трубіць-гудзець-трэсці-звінець пра гэта на ўвесь свет праз фэйсбук. І ўсе пачнуць лічыць цябе творцам, паслядоўнікам традыцый айчыннай літаратуры…»

Як заўжды, іранічна-аптымістычны Андрэй Хадановіч надае нашай — то блазнавата-шумнай, то сумнавата-шчымлівай — паэзіі пэўнага еўрапейскага глянцу і адпаведнага настрою. Для ўзору хоць бы гэтая страфа:

*Неймаверны горад сышоў са сваіх графіці*
*і вядзе ў ноч музеяў, бо кожная ноч — музей:*
*«Нарадзіўся — расці вялікім, мой неафіце,*
*адрывайся, спявай і танчы, не цверазей.*

Друкуюцца побытавыя і падарожныя — гэтым разам амерыканскія — запісы з нізкі «Уладзевы гісторыі» Уладзіміра Сіўчыкава («Стрыптыз каля Белага Дома»). Прысутнічае фактура і жывы досціп. Тэксты для разняволенага чытання.

Вершы нашай беларускай палтаўчанкі Іны Снарскай, як заўсёды, эмацыйна-душэўныя і мройна-праніклівыя. У іх ёсць ужо даволі разняволены украінскі росхрыст дум і пачуццяў, але засталіся відавочныя і згадлівыя беларускія мяккасць, дабрыня і спагадлівасць.

*Паляцелі на поўдзень гусі,*
*Развіталіся да вясны.*
*Уплятаю я сны Беларусі*
*У свае даматканыя сны.*

У рубрыцы «Дэбют» маладая паэтка з Магілёва (цяпер вучыцца ў польскім горадзе Лодзь) Яніна Асіпцова спрабуе згарманізаваць спакойную развакжлівасць і жарстлівую пачуццёвасць у своеасаблівых вершаваных маналогах, раскрываючы прасторні сваіх няспраўджаных мрой і няўрымслівай закаханасці… Іншыя з іх зацягнутыя і блізкія да празаічных высноў і сыходаў. Аднак літаратурная і паэтычная адоранасць аўтара несумнеўныя.

Публікуецца кідкая на таленты ды імёны падборка перакладаў з сучаснай польскай паэзіі, прапанаваная Андрэем Хадановічам. Прачытаўшы, думаеш, а добра было б, каб і нашых лепшых паэтаў прадстаўлялі за мяжой гэтак жа гожа і паўнавартасна. Сярод перакладзеных на беларускую мову Войцех Бановіч, Ілона Віткоўска, Эва Ліпска, Юлія Фядорчук. З вершаў В. Бановіча:

*Напішы паэту.*
*Вышлі паштоўку*
*або напішы ў фэйсбуку*
*што яго сляпая ўпартасць*
*табе патрэбная.*

Друкуецца ўрывак з рамана вядомага ўкраінскага паэта і пісьменніка Аляксандра Ірванца «Харкаў-1938» у перакладзе заўчасна памерлага нашага таленавітага творцы Уладзіслава Ахроменкі з яго кароткай прадмовай да тэксту.

Гэта фантэзійны раман пра магчымую некалі Украінскую Рабоча-Сялянскую Рэспубліку. Нездарма ва ўступным слове перакладчык задаецца іранічным пытаннем: а якой магла б быць Беларуская Народная Рэспубліка (БНР), калі б у свой час перамога аказалася на яе баку?

Выбітны фалькларыст і перакладчык Уладзімір Васілевіч публікуе (з разгорнутай біябібліяграфічнай прадмовай) пабытавы з дамешкам маральнай і матэрыяльнай культуры людзей вёскі Камаровічы, што на Мазыршчыне, нарыс Эмы Яленскай у перакладзе з польскай мовы. Як зазначае перакладчык, гэтая «праца стала, можна сказаць, універсальным комплексным даследаваннем, пабудаваным на прыкладзе адной вёскі, дзе знайшло месца адлюстраванне яе гісторыі, геаграфіі і культуры яе насельнікаў».

Штрыхі да творчага партрэта вядомага пісьменніка, рэдактара і энцыклапедыста Барыса Сачанкі «Служыць Бацькаўшчыне» публікуе літаратар Анатоль Астапенка.

А паэт Васіль Жуковіч прапануе чытачам часопіса цікавы featured розгнабаковы артыкул пра жыццё і творчасць вядомага паэта Анатоля Вярцінскага.

Друкуюцца ўспаміны тагачаснага падлетка «Дарагія цені» Паўла Ляхновіча — пра Ракаў, яго ваколіцы, людзей і іх жыццё ў далёкіх ужо 1960-х гадах не так даўно мінулага XX стагоддзя.

Наш сучасны філосаф Валянцін Акудовіч працягвае публікацыю хронікі беларускага інтэлектуала — гэтым разам у асноўным гаворка вядзецца пра літаратурна-філасофскі сшытак «ЗНО», што выдаваўся пры тыднёвіку «Культура».

Паэт і нацыянал-патрыёт Славамір Адамовіч публікуе згадкі «Кулакі дабра» з новай уласнай кнігі «Лісты да Зянона». Тэксты ў выглядзе дзённікавых нататкаў у Славаміра, як заўсёды, гарачыя, правакацыйныя і палемічныя. Вартае чытанне.

Літаратуразнаўца з Віцебска Ірына Саматой друкуе артыкул пра мастацкі свет паэта і перакладчыка Уладзіміра Папковіча.

Леанід Галубовіч рэцэнзуе кнігу Віктара Казько «Казань пра ката, каторы смяецца».

Апроч усяго гэтага змястоўнага, напрыканцы змяшчаецца міні-анатацыйная выдавецкая рубрыка «Дзеяпіс» ды змест часопіса за 2018 год.

Ну, дык чытайма лепшае!

**ЛеГал**

# Юрысты і «Гары Потэр»

**На сайце індыйскага дзяржуніверсітэта — Нацыянальнага ўніверсітэта юрыдычных навук у Калькуце (NUJS) — з'явілася афіцыйнае паведамленне аб спецыяльным курсе.**

Ён прапанаваны для вывучэння выдатнікамі 4-га і 5-га курсаў навучання прававых прынцыпаў чароўнага свету Гары Потэра і мае назву «Узаемадзеянне паміж фантастычнай літаратурай і законам: асаблівы погляд на патэрыяну Роўлінг». Працаёмкасць курса — 45 гадзін.

Праграма NUJS разлічана на зімовы семестр 2018/2019 навучальнага года. Студэнтам прапануюць разгледзець сітуацыю з рабствам хатніх эльфаў, вывучыць выкарыстанне забароненых законам заклёнаў, дыскрымінацыю пярэваратняў, а таксама немагчымыя ўмовы ўтрымання вязняў у чароўнай турме Азкабан, дзе з іх «высмоктваюць» душу і даводзяць да самагубства.

Акрамя таго, увага будзе нададзена пытанням бюракратыі ў міністэрстве магіі, эканоміцы (на прыкладзе банка Грынгатс), прапагандзе ў афіцыйных СМІ (на прыкладзе газеты «Штодзённы прарок»), а таксама падрабязна разглядаюцца ўзаемаадносіны чараўнікоў і маглаў (звычайных людзей).

Для вучобы студэнтам неабходна прачытаць 7 асноўных кніг цыкла пра Потэра Джоан Роўлінг як мінімум два разы, а прагляд кінакарцін патэрыяны рэкамендуецца па жаданні. Для азнаямлення да курсу прыкладаюць спіс з 17-ці навуковых прац, якія прысвечаны розным аспектам права ў серыі кніг вядомай брытанскай пісьменніцы.

Выкладчык навучальнай установы Шувік Гуа чакае, што пасля праходжання курса навучэнцы адказней паставяцца да сацыяльных праблемаў у Індыі, дыскрымінацыі, катаванняў, рабства, а таксама да пытанняў мірнага суіснавання народаў Індыі і прадстаўнікоў розных рэлігій.

# Жуль Верн пісаў вершы!

**Паводле паведамлення выдання «Ex Libris», у бліжэйшы час выдавецтва «Прэстыж БУК» выпусціць кнігу Жуля Верна «Рассеяны агонь».**



Аднак гэта будзе не фантастычны або прыгодніцкі раман вядомага французскага пісьменніка, а зборнік паэтычнай спадчыны. Так, гэта не памылка, класік прыгодніцкай літаратуры ў юнацкія гады сапраўды пісаў вершы.

Зрэшты, гэта і зразумела, паколькі такой рамантычнай натуры, якая пакінула нам велізарную творчую спадчыну ў жанры фантастычнага і прыгодніцкага вострасюжэтнага рамана, павінна быць «уласцівая» і паэзія. Аднак на фоне яго белетрыстыкі, юнацкая лірыка мала вывучана і незаслужана забытая.

Справядлівасць і вырашыў аднавіць паэт і перакладчык Яўген Віткоўскі, які ініцыяваў ідэю стварэння паэтычнага зборніка знакамітага француза, а сам праект быў рэалізаваны дзякуючы дапамозе ўдзельнікаў семінара «Стагоддзе перакладу» — невялікага калектыву перакладчыкаў з французскай на рускую мову, якія падрыхтавалі да друку зборнік вершаў Жуля Верна.

Лірыка французскага аўтара налічвае звыш 180 твораў — ад невялікіх накідаў і вершаў «з нагоды» да буйных баладаў і паэм.

# Музей Салжаніцына

**Запрацаваў музей-кватэра Нобелеўскага лаўрэата Аляксандра Салжаніцына.**

У Маскве на Цвярской вуліцы, у кватэры, якая знаходзіцца на першым паверсе корпуса 8 дома 12, знакаміты аўтар пражываў да 12 лютага 1974 года, калі быў арыштаваны пасля публікацыі за мяжой рамана «Архіпелаг Гулаг». Яго абвінавацілі ў здрадзе радзіме, а ўжо на наступны дзень ён быў высланы з Савецкага Саюза. Пазней пісьменнік, калі змог вярнуцца на радзіму, пражываў у гэтай жа кватэры з 1994 года па 2002-і.

У цырымоніі адкрыцця музея прымалі ўдзел удава літаратара Наталля Салжаніцына, намесніца мэра Масквы Наталля Сергуніна, грамадскія дзеячы. «Думаю, што гэты музей будзе вельмі запатрабаваны, — адзначыла высокапастаўленая чыноўніца маскоўскай мэрыі. — Дакрануцца да вялікага можна не толькі праз творы, але і праз такое адчуванне эпохі, побыту».

У экспазіцыі музея-кватэры паказаны этапы жыцця і творчасці Салжаніцына. Прастора падзелена на тэматычныя секцыі: «Кухня Салжаніцына», якая узнаўляе непаўторную атмасферу жыцця інтэлігенцыі 1970-х гадоў, зала «Набеліяна», «Арышт», «Праца над «Чырвоным колам»», «Кабінет Салжаніцына 1990-х гадоў».

# Прэміі «Рускі Букер» няма

**Літаратурны сакратар вядомай прэміі «Рускі Букер» прафесар Ігар Шайтанаў паведаміў, што адна з самых сталых незалежных літаратурных прэмій Расіі не змагла знайсці спонсараў і была вымушана запусціць працэс закрыцця.**

Традыцыйна — на працягу 26-ці гадоў — у пачатку апошняга месяца года аргкамітэт прэміі «Рускі Букер» праводзіў урачыстую цырымонію ўручэння прэстыжнай літаратурнай узнагароды. Мінулай вясной прадстаўнікамі прэміі было абвешчана аб вымушанай паўзе з прычыны праблем з фінансаваннем, пры гэтым узніклую праблему паабяцалі вырашыць да канца лістапада, максімум — снежня, аднак спонсары так і не знайшліся.

Як адзначыў І. Шайтанаў, надзея памірае апошняй, напэўна таму дагэтуль працягваюцца тэлефонныя званкі, прызначаюцца сустрэчы, але хоць нейкай канкрэтыкі ці пэўнасці да гэтага часу няма. А гэта значыць, што «зачыняецца» не толькі прэмія, але і фонд «Рускага Букера», і па-новаму "закруціць гэтае кола" наўрад ці атрымаецца.

# 10 гадоў за эратычны раман

**За стварэнне і распаўсюд эратычных раманаў на 10 гадоў турэмнага зняволення асуджаная кітайская пісьменніца Цяны.**

Гэта справакавала шырокі грамадскі рэзананс і дэбаты карыстальнікаў у Інтэрнэце з нагоды сур'ёзнасці прысуду. Было зафіксавана больш за 1,8 мільёна паведамленняў, якія выкарыстоўваюць хэштэг #Tianyi на Weibo, кітайскай версіі Twitter. Большасць карыстальнікаў абараняюць аўтара.

З паведамленняў кітайскіх дзяржаўных СМІ вынікае, што Ліу, якую многія ведаюць пад інтэрнэт-псеўданімам Цяны, была арыштаваная паліцыяй правінцыі Аньхой ва Усходнім Кітаі ў 2017 годзе пасля поспеху яе гомаэратычнага рамана «Занятасць». Калі яе кніга атрымала шырокае распаўсюджванне ў Інтэрнэце, ёю зацікавілася паліцыя. Ліу прадала звыш 7 тысяч копій рамана, а таксама іншых «адкрытых», навэл, пры гэтым зарабіла больш за 150 тысяч юаняў ($ 21 624).

Тэрмін за распаўсюд парнаграфіі Цяны атрымала, як гаворыцца ў пастанове суда, адлюстраваўшы ў рамане «непрыстойныя сэксуальныя паводзіны паміж мужчынамі». Вытворчасць і продаж парнаграфіі ў Кітаі строга забаронены.

Вядомы кітайскі сэксолаг і сацыёлаг Лі Йінх, які мае больш за 2 мільёны падпісчыкаў у Weibo, напісаў: «Аўтар заслугоўвае спагады». І дадаў: «Яна сапраўды парушала крымінальнае права, але нават аднагадовы прысуд занадта вялікі, не кажучы ўжо пра дзесяць».

CNN працытавала юрыста Дэна Сюэпіна, які сцвярджае, што прысуд быў заснаваны на састарэлай судовай інтэрпрэтацыі законаў краіны, датаваных 1998 годам. «Вярхоўнаму суду, магчыма, спатрэбіцца пераглядзець справу ў сувязі з судовай інтэрпрэтацыяй», — сказаў ён.

# Горад-кніга

**Лейдэн — горад у нідэрландскай правінцыі Паўднёвая Галандыя на рацэ Стары Рэйн. А яшчэ становіцца... кнігай.**



Яго ведаюць як родны горад вялікага жывапісца Рэмбрандта, а таксама многіх навукоўцаў. Маляўнічы гарадок, які жыў толькі мінулай славай, дзякуючы двум сябрам ператварыўся ў адзін з цэнтраў сучаснай культуры.

Праект Бэна Валенкампа і Яна Браўнса некаторыя называюць арганізаваным і прадуманым, аднак пачынаўся ён стыхійна. Паколькі Валенкамп любіць паэзію, яго засмучае тое месца, на якое ў наш час рацыянальныя галандцы адсунулі вершаваныя радкі, вось ён і вырашыў у 90-х паказаць жыхарам Лейдэна, наколькі прыгожыя тыя вершаванкі.

Вершы, па задумцы Бэна Валенкампа, неабходна было пісаць выключна на мове і алфавіце арыгінала на сценах дамоў горада. І горад паступова стаў ператварацца ў гіганцкі паэтычны зборнік, а самі вершы пакідалі ўражанне мудрагелістага арнаменту.

Першым стаў верш Марыны Цвятаевай «Маім вершам, напісаным так рана...». Домам, на сцяне якога яго напісалі, валодалі знаёмыя Бэна і Яна, таму яны лёгка атрымалі дазвол ад гаспадара, які з'яўляўся да таго ж уладальнікам кніжнай крамы. Атрыманага эфекту не чакаў ні адзін з траіх: у краму «павалілі» рускія турысты, мяркуючы, што вершы з'яўляюцца рэкламай рускай кнігарні. Пазней, зразумеўшы памылку, прызнавалі, што радкі Цвятаевай закранулі ім сэрца, а ў некаторых вершаваныя радкі нават выклікалі слёзы...

Пасля з'яўлення на дамах новых вершаў мясцовыя газеты друкавалі іх пераклады. Так што жыхары горада пазнаёміліся з паэзіяй мноства краін: на гарадскіх сценах можна сустрэць арабскую вязь, японскае хоку, інданезійскі верш і інш.

Агулам аўтары праекта планавалі ўпрыгожыць сцены горада 101 вершам, адбіраючы тыя, што апісваюць ролю паэзіі і паэтаў для чалавецтва і душы, прычым да кожнага падыходзілі індывідуальна. Апошнім павінен быў стаць верш Федэрыка Гарсія Лоркі, аднак лейдэнцы папрасілі дадаць яшчэ, і вершамі цяпер упрыгожаны 111 сцен.

**У падрыхтоўцы старонкі выкарыстаны матэрыялы novostiliterary.ru, «Ex Libris», CNN, «Новай газеты», «The New York Times», Interfax.**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Рускі прывід

## Гісторыя аднаго артыкула, які апярэдзіў час

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 6

У выніку за тое, каб зацвердзіць рашэнне за подпісам дырэктара Інстытута гісторыі АН БССР Міхаіла Касцюка, прагаласавалі 8 чалавек, супраць — 2, не ўстрымаўся ніхто.

### Не першы раз

Гэта быў не першы матэрыял Зянона Пазняка, накіраваны непасрэдна супраць Расіі. Так, у студзені 1993 года «Народная газета» надрукавала яго артыкул «Беларусь, Расія, СНД». Публікацыя з'явілася напярэдадні сустрэчы лідараў краін-сябраў СНД у Мінску 22 студзеня для падпісання Статуту Садружнасці. Па выніках сустрэчы Статут не падпісалі Украіна, Малдова і Туркменістан.

Лідар БНФ запэўніваў, што падпісанне Статуту нічога не дасць: «Такі статут — знявага дзяржавам. Безумоўна, Беларусі нельга падпісваць такі статут. Не трэба ўвогуле занімацца самаашуканствам. СНД практычна ўжо не існуе. Яна ціха канае і хутка памрэ зусім. Трэба ўмацоўваць сваю дзяржаву і развіваць двухбаковыя сувязі».

Зянон Пазняк пытаўся: калі Расія і нават Украіна парушаць Статут, то хто і якія захады супраць іх здзейсніць? Лідар БНФ прывёў прыклад парушэння пагаднення па СНД, калі 3 жніўня 1992 года ў Ялце Расія і Украіна падпісалі дамову аб прынцыпах фармавання сваіх ваенна-марскіх флатоў на базе Чарнаморскага флоту былога СССР. Згодна з дамовай, Чарнаморскі флот выводзіўся са складу Аб'яднаных Узброеных Сіл СНД і падпарадкоўваўся непасрэдна прэзідэнтам Расіі і Украіны. 6 жніўня 1992 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі заявіў, што гэтая дамоўленасць парушае пагадненні паміж дзяржавамі — удзельніцамі СНД: ад 30 снежня 1991 года — аб стратэгічных сілах, ад 14 лютага 1992 года — аб Аб'яднаных Узброеных сілах на пераходны перыяд. Але, сапраўды, што рэальна здолела б зрабіць Беларусь?

У гэтым артыкуле меліся і філасофска-палітычныя развагі Пазняка пра Расію. Ён заклікаў «паглядзець» на Усход, на СНД: «Вялізарнай па тэрыторыі, насельніцтву, эканамічнаму патэнцыялу і ваеннай магутнасці Расіі няма тут супрацьвагі. Якая б фармальна сістэма дзяржаў тут ні ўтварылася разам з Расіяй у межах былой Расійскай і савецкай імперыі — ці то саюз, ці то канфедэрацыя, ці то садружнасць, ці то якая-небудзь асацыяцыя, ці іншая супольнасць, яна заўсёды будзе асуджана на імперскую перспектыву, на залежнасць усіх ад Расіі, на паступовую страту астатнімі сваіх правоў і незалежнасці, на палітычны ўціск і навязванне расійскіх інтарэсаў, «языка», агульнага войска і г. д. Сумесна з Расіяй у межах былога СССР не можа стабільна існаваць ніякая аб'яднаўчая сістэма дзяржаў. Гэта аб'ектыўная, навуковая і гістарычная рэальнасць. Пара б ужо гэта зразумець, пазбавіцца ад ілюзій, чужых праджэктаў і марнавання часу. Лепш пашукаць выхад з пагрозлівага становішча».

Выйсцем з такога становішча, на думку Пазняка, павінна стаць своеасаблівая раўнавага Расіі ў выглядзе Балта-Чарнаморскай садружнасці (Эстонія, Латвія, Літва, Беларусь, Украіна, Малдова). Гэта будзе, запэўніваў аўтар, стымулам для развіцця самой Расіі, якая «вечна пакутуе ад імперскага сіндрому».

«О русском империализме и его опасности» Зянона Пазняка справакаваў мноства крытычных артыкулаў. Напрыклад, у даволі рэзкай форме яму адказаў дэпутат-генерал Валерый Прывалаў (артыкул «Беларусь, Россия, БНФ» у «Народнай газеце» ад 20 студзеня 1993 года), а таксама колішні прыхільнік БНФ Валянцін Акулаў. Апошні ў сваім артыкуле «Куда развернут БНФ?» у газеце «Мы и время» сцвярджаў, што Балта-Чарнаморскі саюз — «удавка на шее народа», а ў артыкуле Пазняка, «как в хорошей мусорной свалке — можно найти всё, что хочешь».

Праўда, публікаваліся і матэрыялы, у якіх рабілася спроба дыскутаваць з Пазняком на прыстойным, навуковым узроўні (Божанов В. «Суверенитет и добрососедство — не антиподы» // «Народная газета», 27 лютага 1993 года). Таксама ў некаторых лістах чытачоў выказвалася падтрымка ідэй Зянона Пазняка («На поводке у "старшего брата"» // «Народная газета», 27 лютага 1993 года).

### Чаму з'явіўся?

З'яўленне артыкула пра расійскую імперскасць было абумоўлена некалькімі фактарамі. Па-першае, імклівым збліжэннем Беларусі і Расіі. Мэта беларускага кіраўніцтва на чале з Кебічам палягала ў заключэнні не менш як грашовага саюза з Масквой. Кебіч наіўна лічыў, што гэта не нясе ніякай небяспекі для незалежнасці ўласнай краіны, а больш таго — дазволіць вырашыць шматлікія праблемы ў беларускай эканоміцы.

Вядомы публіцыст Анатоль Майсеня ў адным з артыкулаў справядліва зазначыў, што саюз з Расіяй з'яўляецца своеасаблівай «небитой политической картой» старшыні Савета Міністраў Беларусі. У той жа час Майсеня перасцерагаў ад фетышызацыі грашовага саюза з Расіяй: маўляў, Масква ўсё роўна ніколі не будзе вырашаць за Беларусь яе эканамічныя праблемы. Беларускія інтэграцыйныя памкненні ў прынцыпе віталіся ў расійскіх кіруючых колах. 5 студзеня 1994 года Кебіч і Чарнамырдзін зрабілі сумесную заяву пра тое, што абедзве краіны няўхільна рухаюцца на шляху да адзінай рублёвай зоны.

Па-другое, перамогай у снежні 1993 года на выбарах у Дзяржаўную Думу Расійскай Федэрацыі Ліберальна-дэмакратычнай партыі на чале з Уладзімірам Жырыноўскім. Як вядома, асаблівае значэнне ў перадвыбарчай праграме Жырыноўскага набыў нацыянал-патрыятычны матыў. Лідар ЛДПР паабяцаў адрадзіць пачуццё нацыянальнай годнасці расіянаў, прымусіць усіх суседзяў зноў трапятаць перад Вялікай Расіяй. Галоўнай мэтай сваёй знешняй палітыкі Жырыноўскі абвясціў аднаўленне межаў Расійскай імперыі.

Некаторыя знешнепалітычныя лозунгі Жырыноўскага, у тым ліку і тыя, што былі выказаны ў ягонай кнізе «Последний бросок на юг» гучалі як заклік да вайны і непасрэдна пападалі пад дзеянне 71 артыкула тагачаснага Крымінальнага кодэкса Расіі (прапаганда вайны). Аднак палітычныя праціўнікі Жырыноўскага, быццам бы шакаваныя ягонай нацыяналістычнай рыторыкай і ўспрымальнасцю да яе народных масаў, не зрабілі спробы прад'явіць яму гэтае абвінавачванне.







**На артыкул Пазняка левакамуністычная прэса адказала шэрагам карыкатураў.**
«Мы и время», 1994 год.

### У чым сэнс?

Артыкул Зянона Пазняка «О русском империализме и его опасности» ўмоўна можна падзяліць на дзве вялікія часткі: агульныя філасофска-палітычныя разважанні пра Расію і фактычны перадвыбарчы маніфест БНФ з пералікам канкрэтных дзеянняў, якія павінны былі быць ажыццёўлены ў выпадку прыходу Народнага фронту да ўлады.

Паколькі тэкст артыкулу мяецца ў вольным доступе ў інтэрнэце, ёсць магчымасць не пераказваць яго цалкам, а сканцэнтравацца на асноўных момантах.

Што да імперскай сутнасці Расіі, то наўрад ці лідар БНФ быў тут арыгінальны: падобныя думкі былі выказаныя ў свой час расійскімі заходнікамі, а таксама гісторыкам Ключэўскім. Сэнс гэтай пазіцыі ў тым, што «заходні» і «ўсходні» пачаткі ў расійскай цывілізацыі мелі месца ў перыяд Кіеўскай Русі. Аднак у час мангольскага панавання адназначна перамог «усходні» пачатак. Калі Масква вызвалілася з-пад улады Залатой Арды, яна захавала шматлікія ханскія дзяржаўна-палітычныя традыцыі і злучыла іх з традыцыямі візантыйскімі. У выніку ўзнікла жорсткая цэнтралізаваная ўлада з усімі прыкметамі дэспатыі.

Далей маскоўскія гаспадары, асабліва Іван Жахлівы, здолелі знішчыць адну эліту (баярства) і стварыць іншую (дваранства), ператварыць у рабоў мільёны вольных сялян, узурпаваць іх уласнасць. З часоў Маскоўскай дзяржавы ў расійскай гісторыі цэнтральнае месца заняла дзяржава, яна кіравала як фарміраваннем усіх сацыяльных адносінаў і структураў, так і адносінаў уласнасці, ад якіх залежала эканамічнае развіццё. Ленін і бальшавікі не толькі не скасавалі гэтую цывілізацыйную характарыстыку расійскага грамадства, але і давялі яе да крайнасці.

Што да характарыстыкі Пазняком знешняй палітыкі Расіі, то, на жаль, яна спраўдзілася, калі гаворка ідзе пра Крым і крывава-драматычныя падзеі ва Украіне. Дастаткова ўспомніць рэзананснае звальненне з маскоўскага МГИМО прафесара Зубава, які параўнаў далучэнне Крыма да Расіі з аншлюсам Аўстрыі гітлераўскай Германіяй у 1938 годзе.

Калі разважаць пра тэрытарыяльныя памкненні лідара БНФ, то ў артыкуле не прагледжваюцца непасрэдныя заклікі да нейкай вайны. Хутчэй за ўсё, размова ішла пра вырашэнне гэтых праблемаў з дапамогай міжнароднага права. Але і на той час гэта гучала даволі наіўна. Больш за тое, выказванне такіх тэзісаў стала буйной паліттэхналагічнай памылкай лідара БНФ і саслужыла яму дрэнную службу на першых прэзідэнцкіх выбарах.

У знешнепалітычнай дактрыне, выказанай Пазняком у артыкуле, прасочваецца відавочная супярэчнасць. Адным з сябраў Балта-Чарнаморскага саюза аўтар бачыць Літву, аднак адначасова абяцае паставіць пытанне пра вяртанне Вільні.

Тым не менш, астатнія тэзісы артыкула Пазняка (сацыяльная рэформа, пенсіі, ліквідацыя сістэмы Саветаў і іншае) сёння як ніколі актуальныя. Асабліва перакаанаўчым выглядае тэзіс пра замежную працоўную сілу, калі беларускі грамадзянін павінен мець першае права на працоўнае месца. Гэта асабліва відавочна, калі ў Беларусі назіраецца яўная «кітаізацыя» працоўнай сілы (вельмі рэзанансным стаў «бунт» кітайскіх будаўнікоў у Добрушы ў сувязі з затрымкай зарплаты, якая дасягала 8 тысяч долараў на месяц).

Меў рацыю Гегель, калі казаў, што гісторыя паўтараецца двойчы. Дваццаць пяць гадоў таму, 15 студзеня 1994 года, выйшаў артыкул Пазняка «О русском империализме и его опасности». 11 студзеня 2019 года Лукашэнка на цырымоніі ўручэння дзяржаўных узнагарод заявіў, што ў бліжэйшыя часы нас будуць спрабаваць на зуб. Няцяжка здагадацца, хто.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТАТАРСТАН. Памылкі прэзідэнта

Як вядома, у свой час Віктара Януковіча пачалі называць «прафесар». Усё таму, што ў 2004 годзе пры запаўненні анкеты кандыдата ў прэзідэнты ён дапусціў дванаццаць памылак, самай вядомай з якіх стала памылка ў графе «навуковая ступень». Тут Януковіч напісаў «проффессор». Рэкорд Януковіча быў пабіты татарскім прэзідэнтам Мініханавым. Прэзідэнт Татарстана ў сваім Twitter напісаў маленькі тэкст пра вядомага татарскага спевака, які памёр напярэдадні. У трох сказах кіраўнік рэспублікі зрабіў 14 (!) памылак. Лаяльныя журналісты, апраўдваючы гаранта, пішуць, што той папросту не паклапаціўся пра ўстаноўку на свой гаджэт татарскай раскладкі. З іншага боку, раскладку можна спампаваць і паставіць за некалькі секунд. Цікава, што ў мінулым годзе ў пасце, дзе Мініханаў заявіў, што будзе галасаваць за Пуціна, і заклікаў жыхароў Татарстана прыйсці на выбарчыя ўчасткі, памылак не было.

**Паводле расійскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Пеўням не дазволілі біцца

У Іспаніі прайшла самая вялікая ў гісторыі аблава на арганізатараў баёў пеўняў. Аказваецца, да гэтага часу ў горных раёнах Паўночнай Іспаніі былі папулярныя спаборніцтвы, калі натоўп гледачоў правакуе спецыяльна навучаных баявых пеўняў на бойку адзін з адным. Грамадскасць даўно крытыкуе жорсткую забаву. Падчас баёў пеўні часта забіваюць адзін аднаго. Каб падняць агрэсіўнасць пеўняў — удзельнікаў паядынку, ім часта перад боем даюць наркотыкі. Нягледзячы на забарону, баі праходзяць нелегальна. А ў гэтым годзе ў адной з вёсак правінцыі Мурсія павінен быў адбыцца нават нацыянальны чэмпіянат з удзелам 97 пеўняў. Аднак паліцыя не дапусціла шоу — і затрымала 86 чалавек. Арыштаваны быў і прызавы фонд турніру, які складае каля 300 тысяч еўра. Цяпер аматараў баёў пеўняў чакае суд. Крымінальны кодэкс Іспаніі прадугледжвае пакаранне за жорсткае абыходжанне з жывёламі — зняволенне тэрмінам аж да года.

**Паводле іспанскай прэсы**

### ЕС. Узгадаць жанчын-рэвалюцыянерак

Еўрапейская грамадскасць узгадала 100-ю гадавіну забойства Розы Люксембург і Карла Лібкнехта. Сто год таму, у студзені 1919-га, яны былі забітыя падчас спробы камуністычнага паўстання ў Германіі. Праўда, гэта не перашкодзіла той жа Розе Люксембург з часам стаць галоўнай жанчынай-рэвалюцыянеркай XX стагоддзя. У сувязі з юбілеем прэса заклікала, у тым ліку, перагледзець ролю жанчын у еўрапейскіх рэвалюцыях. Найбольшы рэзананс агучаная ідэя выклікала ў Францыі. «Жанчыны прысутнічалі ва ўсіх рэвалюцыях. Няма рэвалюцыі без жанчын, хаця кожны раз мужчыны бяруць уладу. Калі мы вывучым рэвалюцыйны працэс знізу, мы ўбачым, што жанчыны займаюць там ключавоеае месца», — піша адно з мясцовых выданняў. Рыхтуюцца і канкрэтныя крокі. Згадалі жаночы марш на Версаль у кастрычніку 1789 года, які стаў выракам краху манархіі і абвяшчэння рэспублікі. Прозвішчы жанчын, якія арганізавалі той марш, дасюль былі вядомыя толькі гісторыкам-спецыялістам. Цяпер прапануецца аддаць рэвалюцыянеркам належнае. Дарэчы, на карысць тэорыі пра вялікую ролю жанчын у рэвалюцыях ускосна працуюць і актуальныя падзеі. У руху «жоўтых камізэлек» сярод лідараў вельмі шмат жанчын.

**Паводле французскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Ісус Хрыстос быў казахам?

Казахстан не застаўся ўбаку ад папулярнай у экс-СССР практыкі вытворчасці гістарычных міфаў. Прафесар матэматыкі, прэзідэнт казахскай акадэміі спорту і турызму Кайрат Закір'янаў днямі пазнаёміў суайчыннікаў са сваім сенсацыйным адкрыццём. Ён і раней шакаваў публіку. Згодна з яго папярэднімі даследаваннямі, казахі далі свету Аляксандра Македонскага, Канфуцыя, і нават легендарнага караля Артура. Зараз гэты спіс папоўніў Ісус Хрыстос, Заратустра і егіпецкі фараон Тутанхамон. Зрабіць такія высновы дазваляе Кайрату яго ж тэорыя пра існаванне нейкага kz-фактару. Гэты фактар працуе ў зоне, дзе ёсць качавыя плямёны. Гэта значыць, усе, хто нарадзіўся ў гэтай зоне, з'яўляюцца цюркамі або казахамі. На думку шмат каго, Закір'янаў наўрад ці супакоіцца на дасягнутым. Між тым, у прэсе шырыцца ідэя запрасіць у Казахстан украінца Расціслава Наважэнца. Апошні сцвярджае, што Ісус быў украінцам, паколькі назвы мясцовасцяў у Палесціне, маўляў, маюць украінскае паходжанне. Напрыклад, Назарэт, быццам, паходзіць ад слова «назіраць». Вельмі цікава было б пагледзець на дэбаты Закір'янава і Наважэнца наконт этнічнага паходжання Ісуса, — пішуць у казахскіх сетках.

**Паводле казахскай прэсы**

# 1984-ы пачнецца ў 2020-м?

*Алег НОВІКАЎ*

**У Кітаі стартавала апошняя фаза выпрабавання новай мадэлі грамадскага кантролю, якая грунтуецца на сістэме сацыяльнага крэдыту. Эксперты называюць гэтую сістэму пачаткам «віртуальнай дыктатуры».**



Фота www.sci-fi-news.ru

**У тэксце пастановы шмат прыгожых слоў, таму для разумення сэнсу рэформы будзе прасцей пагледзець у інтэрнэце першую серыю 3-га сезона серыяла «Чорнае люстэрка».**

Аб'ектам выпрабаванняў стаў аэрапорт у горадзе Жунчэн. Там пасажыры маюць ідэнтыфікацыйныя карткі лаяльнасці і рэпутацыі. Тыя, у каго на картцы дастаткова балаў лаяльнасці і рэпутацыі, праходзяць на пасадку паводле спрошчанай працэдуры — без дагляду і пашпартоў. Тых, у каго балаў не хапае, адпраўляюць на больш жорсткі кантроль.

Калі эксперымент у аэрапорце і на іншых пляцоўках пройдзе паспяхова, падобны рэжым будуць уводзіць на іншых аб'ектах. Глабальная задача — да 2020-га падрыхтаваць усю нацыянальную інфраструктуру для працы ў такім рэжыме.

Такую задачу паставіла партыя яшчэ ў 2014 годзе. У тэксце пастановы шмат прыгожых слоў, таму для разумення сэнсу рэформы будзе прасцей пагледзець у інтэрнэце першую серыю 3-га сезона серыяла «Чорнае люстэрка». Там дэманструюць грамадства, дзе сацыяльны стан людзей залежыць ад колькасці «лайкаў» у сацсетках. Калі рэйтынг усяго тры балы, чалавеку могуць закрыць доступ у публічныя месцы, а за рэйтынг у два балы і ніжэй могуць наогул ахрысціць злачынцам і ізаляваць у мясцовым цэнтры для правапарушальнікаў.

У кітайскай сістэме ў кожнага грамадзяніна таксама будзе рэйтынг даверу. Плануецца, што ён будзе складаць тысячу ўмоўных балаў. Сума балаў будзе вагацца ў залежнасці ад паводзінаў. Напрыклад, калі кіроўца не спыніцца на чырвонае святло або чалавек пратэрміне аплату камуналкі, можна пазбавіцца некалькіх пунктаў. Адзіны інфармацыйны цэнтр аналізуе кожнага па 160 тысячах розных параметраў.

З іншага боку, чым менш балаў на картцы, тым больш рызыкаў трапіць у катэгорыю D — уладальнікаў рэйтынгу ніжэй за 500 балаў. Гэтая частка насельніцтва не будзе мець права купляць квіткі на самалёты і хуткія цягнікі, замаўляць нумар у гатэлі і нават карыстацца роварамі або абслугоўвацца ў добрых рэстаранах. Зрэшты, сродкі на паходы па рэстаранах ва ўладальнікаў нізкага рэйтынгу наўрад ці з'явяцца. З такім рэйтынгам чалавек не мае права на сацыяльную падтрымку з боку дзяржавы. Працаўладкавацца яму атрымаецца хіба што дворнікам.

Колькасць балаў залежыць не толькі ад індывідуальных паводзінаў у чатырох ключавых галінах (адносіны з дзяржавай, камерцыйная дзейнасць, грамадская дзейнасць, адсутнасць судовых спраў). Калі «добрыя суседзі» паскардзяцца, колькасць балаў на рахунку лаяльнасці і рэпутацыі скароціцца. Матываваць на паклёп будзе бонус у выглядзе некалькіх пунктаў у скарбонку рэйтынгу.

Дарэчы, сістэма балаў сапраўды ўплывае на псіхіку. У мінулым месяцы амерыканскі канал Vice News апытаў жыхароў Жунчэна наконт іх стаўлення да новых правілаў. Больш за ўсё гледачоў уразіла споведзь нейкага кітайца, які трапіў у катэгорыю D. Цяпер

**Чым менш балаў, тым больш рызыкаў трапіць у катэгорыю уладальнікаў рэйтынгу ніжэй за 500 балаў. Яны не будуць мець права купляць квіткі на самалёты і цягнікі, замаўляць нумар у гатэлі**

яго сэнс жыцця — набраць колькасць балаў, якая дазволіць яму вярнуцца ў катэгорыю А, каб стаць «нармальным чалавекам».

Цікавая рэакцыя на кітайскія эксперыменты за мяжой. Безумоўна, у свеце хапае крытычных каментараў. На думку шматлікіх праваабаронцаў, Кітай, па-сутнасці, будуе новую мадэль татальнага кантролю над грамадствам. Але ёсць і тыя, хто вітае новы парадак. На іх думку, татальны кантроль дапаможа ў перспектыве ўсталяваць кантроль над дэмаграфіяй, міграцыяй і выратаваць чалавецтва і планету ад бессэнсоўнай эксплуатацыі і спажывання.

У некаторых краінах людзі ўжо напружыліся ад навін з Паднябеснай. У расійскай апазіцыйнай прэсе актыўна падымаецца пытанне: хто дасць гарантыю, што прыклад Пекіна, які «абкатае» сістэму, не пяройме Масква?

Аднак такія ж асцярогі гучаць і на старонках заходняй прэсы. Тэхнічна імпартаваць і адаптаваць кітайскую мадэль «Вялікага Брата», хутчэй, здольныя краіны Захаду. Там даўно навучыліся адсочваць паводзіны і настроі сваіх грамадзян з дапамогай аналізу дзеяння ў сацыяльных сетках. Замеры лаяльнасці супрацоўнікаў фірмаў таксама пачаліся задоўга да таго, як ЦК Кампартыі КНР апублікавала ў 2004-м план сістэмы сацыяльнага крэдыту. «Кітайская ідэя сацыяльнага крэдыту не нараджаецца з нічога. Яна кансалідуе практыкі, якія існуюць у цяперашні час», — піша з гэтай нагоды італьянская «l'Espresso».

Магчыма, запуск амбіцыйнага праекта кітайскіх камуністаў давядзецца, як мінімум, адтэрмінаваць. Тарыфныя войны з ЗША і слабая эканамічная кан'юнктура аслабілі тэмпы росту гаспадаркі КНР да ўзроўню дваццацігадовай даўніны. Відавочна, Кітаю прыйдзецца ўрэзаць дзяржаўныя выдаткі, і ў тым ліку на сістэму сацыяльнага кантролю. Перспектывы ўвядзення новай сістэмы будуць зразумелыя, хутчэй, бліжэй да восені.

Алег НОВІКАЎ

**Сто гадоў таму, пасля заканчэння Першай сусветнай вайны, у Версалі пачалася мірная канферэнцыя, якая павінна была выпрацаваць прынцыпы мірнага суіснавання ўсіх нацый і народаў. Чаму не атрымалася? І ці была альтэрнатыва Версалю? Гэта — адна з тэмаў дыскусій сучасных гісторыкаў.**



Фота www.wikipedia.org

**Вялікая чацвёрка: (злева направа): Дэвід Ллойд Джордж, Віторыё Эмануэле Арланда, Жорж Клемансо, Вудра Вільсан. Яны падпісалі Версальскія дамовы**

# Ці была альтэрнатыва Версалю?



«Гэта не мір. Гэта адтэрміноўка вайны на 20 гадоў», — гісторыкі любяць цытаваць гэтую фразу французскага маршала Фердынанда Фоша, якую ён сказаў, прачытаўшы канчатковую версію Версальскай дамовы. Як бачым, маршалу можа пазайздросціць нават Настрадамус. Замест стабільнага міру ў Версалі фактычна быў запушчаны механізм падрыхтоўкі да новай, яшчэ больш жудаснай вайны.

Дзе і ў чым памыліліся ўдзельнікі Версальскай канферэнцыі? Асноўны папрок гісторыкаў — краіны Антанты аказаліся занадта помслівымі на адрас Германіі і яе саюзнікаў. Ім выставілі амаль нерэальны рахунак у якасці кампенсацый. Дастаткова сказаць, што толькі ў 2010 годзе ФРГ заплаціла апошні транш у рамках рэпарацый, прапісаных у Версалі. Аднак для Германіі 1919 года тыя выплаты былі амаль немагчымыя. Рэпарацыі, а таксама дэманстратыўнае абмежаванне суверэнітэту краіны зрабілі рэваншызм істотнай часткай нямецкай палітычнай культуры. Гэта ў выніку дазволіла Гітлеру прыйсці да ўлады.

Якой магла быць альтэрнатыва? Замест таго, каб ставіць немцаў на калені, трэба было абмежавацца захопам былых германскіх калоній, а таксама вярнуць французам Эльзас і Латарынгію, кажуць сучаснікі. Рэпарацыі Германія ўвогуле павінна была пачаць плаціць праз дзесяць гадоў. Такім чынам яе эканоміка хутка стабілізавалася б, што легітымізавала б новы дэмакратычны лад і адправіла ў маргінэс палітыкаў накшталт Адольфа Іллаізавіча.

Пагрозу таго, што рост нямецкай гаспадаркі мог дазволіць немцам хутка адрадзіць ВПК з усімі наступствамі, можна было лакалізаваць за кошт шэрагу мерапрыемстваў. Па-першае, стварыць на захадзе краіны шырокую дэмілітарызаваную зону. Па-другое, Антанта магла заблакаваць Кільскі канал — стратэгічны маршрут для рэалізацыі любых нямецкіх вайсковых аперацый. Страхоўкай ад рэнесансу нямецкага агрэсіўнага мілітарызму павінна была стаць палітычная падтрымка баварскага і саксонскага сепаратызмаў...

Сёння шмат палемізуюць пра «польскі калідор» — выхад Польшчы да Балтыйскага мора, які яна атрымала ў Версалі. Праз гэта Усходняя Прусія ператварылася ў нямецкі анклаў, дзе набылі папулярнасць лозунгі тэрытарыяльнага ўз'яднання з Фатэрландам. Вядома, што ў выніку гэта праблема і стала фармальнай прычынай нямецка-польскай канфрантацыі, якая вылілася ў адкрытую вайну. На думку шэрагу цяперашніх гісторыкаў, марскія апетыты Польшчы ў Версалі трэба было ігнараваць. Замест Гданьску паляклі маглі б атрымаць нейкую ўсходнюю нямецкую правінцыю.

Версальсая дамова, як вядома, спрыяла росту праварадыкальных настрояў не толькі ў Германіі. Незадаволеныя маленькімі тэрытарыяльнымі набыткамі Італіі мясцовыя ветэраны пачалі фармаваць першыя фашысцкія арганізацыі. Хутка яны захапілі ўладу ў краіне. Такога сцэнару, як лічаць некаторыя спецыялісты, можна было таксама пазбегнуць, аддаўшы Італіі частку цяперашняй Харватыі.

Некаторыя сучасныя гісторыкі лічаць памылкай нават роспуск Аўстра-Венгрыі — яшчэ адно з рашэнняў Версаля. Дробныя дзяржавы, якія паўсталі на рэштках імперыі, маўляў, хутчэй спрыялі хаосу, а не стабільнасці ў Еўропе. Не кажучы пра тое, што некаторыя з іх (Чэхаславакія і Югаславія) праз шматнацыянальны склад насельніцтва патэнцыйна былі палітычна нестабільнымі. Гэта давяла гісторыя: праз 70 гадоў пасля канферэнцыі ў Версалі Чэхаславакія і Югаславія самі зніклі з карты свету.

Прапаноў наконт таго, як магла б выглядаць ідэальная Версальская дамова, хапае. Застаецца толькі прыдумаць машыну часу, каб выправіцца ў Версаль 1919-га і растлумачыць удзельнікам канферэнцыі, што павінна быць напісана ў дакуменце. Але нешта слаба верыцца ў тое, што новая версія Версальскай дамовы выратавала б мір у Еўропе.

Лёгка заўважыць, што амаль усе альтэрнатыўныя версіі Версальскай дамовы сыходзяць з адной устаноўкі: напісаць яе тэкст так, каб у выніку нямецкія нацысты не прыйшлі да ўлады. Пры гэтым чамусьці апрыёры лічыцца, што тыя ж палякі, каб супакоіць нямецкіх рэваншыстаў, на аўтамаце гатовыя былі б адмовіцца ад земляў на Балтыцы, якія належаць ім гістарычна. А нямецкія правыя радыкалы, у сваю чаргу, моўчкі пагадзіліся б на страту ўсіх калоній.

Не бярэцца альтэрнатыўнымі гісторыкамі пад увагу Грамадзянская вайна ў былой Расійскай імперыі, і ў тым ліку працэс нацыянальнага адраджэння яе народаў. Напрыклад, украінскае пытанне, якое на канферэнцыі ў Версалі амаль ігнаравалі, ужо тады называлі лёсавызначальным для еўрапейскай стабільнасці.

Такім чынам, перапісваць Версальскую дамову няма сэнсу. Тым больш, што, магчыма, запушчаны сто гадоў таму працэс яшчэ працягваецца. Напрыклад, у 2023 годзе заканчваецца тэрмін так званых Лазанскіх дамоваў — часткі Версальскай сістэмы дамоваў. Паводле іх Турцыя адмаўлялася ад усіх нетурэцкіх тэрыторый, якія ўваходзілі ў склад Асманскай імперыі. Ведаючы Эрдагана, які настальгуе па часах султанаў, няма сумневаў, што працягваць згаданы пункт Лазанскіх дамоваў ён не збярэцца.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Маркус Ганзерэр



Дэпутат баварскага парламента ад «Зялёных» тыдзень таму выклікаў вялікі медыйны скандал, заявіўшы, што на самай справе ён жанчына Тэса.

Справа ў тым, што Маркус адносіць сябе да трансгендараў (асобаў, якія маюць несупадзенне гендарнай ідэнтычнасці чалавека з зарэгістраваным пры нараджэнні полам). Амаль дзесяць гадоў дэпутат таемна насіў парык і жаночую вопратку, а цяпер вырашыў хадзіць так паўсюль, у тым ліку ў парламенце.

Хаця гэта першы падобны ўчынак у палітычнай гісторыі Германіі, крок Ганзерэра не выклікаў негатыву. Наадварот, усе фракцыі ў парламенце, акрамя правых папулістаў, павіншавалі калегу з яго выбарам. Але на гэтым Маркус не спыніўся і ўжо 21 студзеня прапанаваў Бундэстагу разгледзець яго праект гендарнай рэформы. Сутнасць яе ў тым, каб грамадзянін ФРГ атрымаў права мяняць свой пол.

Пакуль у краіне дзейнічае закон, паводле якога пол чалавека вызначаецца знешнімі палавымі прыкметамі. Змена полу таксама дазваляецца, аднак выключна па факце даведкі ад псіхолага. Гэты аспект і не падабаецца Маркусу (Тэсе), паколькі гэта, маўляў, парушае годнасць асобы.

Нельга выключаць, што пытанне з часам з'явіцца ў павестцы дня федэральных дэпутатаў. Калі верыць спецыялістам, прыкладна 0,3–0,5 працэнта насельніцтва любой еўрапейскай краіны складаюць людзі, якія адчуваюць дыскамфорт наконт сваёй гендарнай прыналежнасці. Гэта дастаткова вялікая колькасць выбаршчыкаў, за галасы якіх палітыкі могуць паспрабаваць пазмагацца.

### Аманбол Бабакулаў



Апазіцыйны палітык з Кыргызстану, лідар арганізацыі «Жэці дубан», і яго паплечнікі разварушылі краіну сваімі антыкітайскімі лозунгамі.

За апошні час у сталіцы Кыргызстана прайшло некалькі мітынгаў, удзельнікі якіх патрабуюць абвясціць мараторый на выдачу пашпартоў замежнікам і дэпартаваць усіх кітайцаў-нелегалаў. Адбываюцца канфлікты паміж мясцовымі жыхарамі і прадстаўнікамі кітайскіх кампаній, якія займаюцца распрацоўкай і выведкай радовішчаў карысных выкапняў. Абураюцца кыргызскія ксенафобы і тым, што, паводле чутак, 60 тысяч кыргызак пабраліся шлюбам з кітайскімі хлопцамі, а не з мясцовымі батырамі.

Пры гэтым антыкітайскія акцыі маюць вельмі агрэсіўны характар. Падчас апошняй маніфестацыі мітынгоўцы нават паспрабавалі прарвацца ў офіс ураду. Ахоўнікі парадку, абараняючы міністраў, арыштавалі каля 20 чалавек, у тым ліку Бабакулава. Урад Кыргызстана ў сваю чаргу кажа, што пратэстоўцы не ўлічваюць ролю Кітая як галоўнага гандлёвага партнёра і вядучага інвестара, пры дапамозе якога ў краіне ажыццяўляюцца найбуйнейшыя прамысловыя і інфраструктурныя праекты. У Бішкеку баяцца, што антыкітайскія выступы могуць пагоршыць адносіны з Кітаем, які вельмі важныя для падтрымкі гаспадаркі Кыргызстана. Бішкек і так вінен Пекіну 1,7 мільярда долараў, што складае 41,3% аб'ёму знешняга доўгу краіны.

Рост ксенафобіі ў Кыргызстане можа паставіць пад пагрозу стратэгічны рэгіянальны праект — чыгунку з Кітаю ва Узбекістан, якая павінна прайсці праз Кыргызстан.

### Абдэль Фатах аль-Сісі



Кіраўнік Егіпта, падаецца, пераплюнуў свайго беларукага калегу, які, паводле анекдотаў, любіць асабіста вырашаць самыя дробныя праблемы. 21 студзеня аль-Сісі сабраў сваіх міністраў, каб вызначыцца з колерам, якім трэба пафарбаваць будынкі ў краіне.

Па выніках пасяджэння з'явіўся адпаведны дэкрэт. Паводле яго, усе будынкі ў Каіры і на поўдні краіны будуюць пафарбаваныя «ў пыльныя колеры», а жыллёвыя блокі на ўзбярэжжы — у сіні колер. Муніцыпальным чыноўнікам, якія праігнаруюць цыркуляр, абяцаюць суровае пакаранне.

Эксперты разглядаюць выбрыкі ўлады ў логіцы кампаніі супраць нефармальнага жылля, якое бедныя егіпцяне будуюць дзе заўгодна. У вялікіх гарадах існуюць нават цэлыя кварталы, якія былі пабудаваныя стыхійна. Цяпер улады вырашылі пад шыльдай уніфікацыі колеру навесці нейкі парадак. Задача для дзяржавы вельмі важная, паколькі менавіта такія бедныя кварталы з'яўляюцца цэнтрамі сацыяльных пратэстных рухаў.

# Як «Слоўнік крывіцкай мовы» стаў «Слоўнікам беларускай гаворкі»

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**Яго галоўная праца стала настольнай кнігай паэта Максіма Багдановіча, які вывучаў па ёй родную мову. Гэта быў «Слоўнік беларускай гаворкі», у першапачатковым варыянце — «Слоўнік крывіцкай мовы». Яго аўтарам быў Іван Насовіч.**

## «Аўцу стрыгуць, а ты, баран, дзівіся»

Іван Іванавіч Насовіч нарадзіўся 26 верасня (7 кастрычніка) 1788 года ў сям'і святара ў вёсцы Гразівец Быхаўскага павета (сёння — Чавускі раён Магілёўскай вобласці). Прайшлі паўтара дзесяцігоддзі, як гэтыя землі колішняй Рэчы Паспалітай захапіла Расійская імперыя, і малады чалавек, па заўвазе паэта Ніла Гілевіча, гартаваўся ўжо як «глыбока перакананы, заўзяты вернападданы расійскага цара і Айчыны».

Сапраўдным прыкладам для яго быў бацька Іван Рыгоравіч, які з пяці гадоў вучыў сына чытаць і выкладаў яму акрамя рускай яшчэ і лацінскую мову. Часам Іван выводзіў бацьку з цярпення сваёй непакораю, і ў такім разе атрымоўваў па тры ўдары. Пры гэтым пакаранне бацька заўсёды рабіў прыкладам для іншых малодшых дзяцей, ды пачынаў яго беларускай прыказкай: «Аўцу стрыгуць, а ты, баран, дзівіся».

Па заканчэнні Магілёўскай гімназіі і духоўнай семінарыі Іван Насовіч абраў адрозны ад бацькаўскага шлях — замест прыняцця духоўнага сану стаў настаўнікам.

Падчас вайны з Напалеонам Іван Насовіч працаваў у духоўнай семінарыі ў Оршы. У 1813 годзе яго запрасілі ў Мсціслаўскую духоўную семінарыю, дзе малады настаўнік не толькі паспяхова працаваў, але, як і раней у Оршы, арганізаваў хор з мясцовых вучняў. Музыкай ён захапляўся з маленства, навучыўшыся добра граць на скрыпцы. У 1818 годзе, маючы 30 гадоў, Насовіч узначаліў Мсціслаўскую семінарыю.

Але ў 1822 годзе, пасля 10 гадоў працы ў духоўных вучэльнях, ён перайшоў на службу ў Міністэрства народнай асветы, дзе заробкі былі значна вышэйшыя. Гэты пераход быў вымушаны, паколькі на той час у Івана Насовіча ўжо было чацвёра дзяцей. 10 гадоў ён працаваў у Дынабургскай гімназіі. Затым былі гімназіі ў Маладзечне і Свянцянах.

## Вяршкі і звальненне

У 1843 годзе, пасля больш як трыццаці гадоў бездакорнай службы, адзначанай ордэнам св. Станіслава III ступені, Іван Насовіч пайшоў у адстаўку. Накont абставінаў гэтай справы ён узгадваў: «Напрыканцы жніўня 1843 года я быў у Вільні і з'явіўся да дырэктара Скарабеля. Ён прыняў мяне ветліва і прапанаваў выпіць у яго кубачак кавы. Але пададзеная мне кава была з вяршкамі. Гэта было 29 жніўня, у дзень Усячэння галавы Іаана Прадцечы, у які, па правілу царквы, я ва ўсё жыццё маё захоўваў пост. Я, не раздумваючы, адмовіўся, выбачаючыся тым, што ў гэты дзень у мяне пост. Скарабелі мабыць пакрыўдзіўся, таму што ўжо посная (кавы) мне не падалі, і таму што, не спытаўшыся мяне, у верасні месяцы прадставіў мяне папячыцелю да адстаўкі». Насовічу прызначылі 600 рублёў пенсіі на год, якую ён атрымліваў да самай смерці. Ён вярнуўся ў Мсціслаў, дзе набыў невялікую хату для сям'і.



Іван Насовіч

## «Мяне чакае мой народ»

Пакідаючы працу ва ўзросце 55 гадоў, Іван Насовіч не збіраўся бавіць час дарэмна. Апошнія працоўныя гады ў ім выспявала важнае рашэнне: «Хтосьці ўжо заканчвае. Я толькі пачаў, і я буду ісці па гэтай дарозе, наколькі хопіць моцы. У мяне нарэшце развязаныя рукі, і мяне чакае мой народ, і я павінен зрабіць для яго ўсё. І я не маю права ўпасці, пакуль ён чакае маёй дапамогі і пакуль у мяне ёсць сілы служыць яму». Аднак якім чынам служыць свайму народу — гэтая ідэя ў Івана Насовіча на той час яшчэ не з'явілася. У Мсціславе ён стаў дэпутатам у мясцовай кватэрнай камісіі, а ў вольны час пісаў творы на рэлігійную тэматыку, якія затым абмяркоўваў у гасцях у мясцовых святароў.

**«Хтосьці ўжо заканчвае. Я толькі пачаў, і я буду ісці па гэтай дарозе, наколькі хопіць моцы. У мяне нарэшце развязаныя рукі, і мяне чакае мой народ, і я павінен зрабіць для яго ўсё. І я не маю права ўпасці, пакуль ён чакае маёй дапамогі і пакуль у мяне ёсць сілы служыць яму»**

**У 1870 годзе за этнаграфічныя і мовазнаўчыя працы Насовіч быў узнагароджаны ордэнам св. Станіслава II ступені. Нават у апошні год, калі ён зусім аслабеў, ужо не мог хадзіць і страціў зрок, Іван Насовіч працягваў працаваць, надыктоўваючы сыну Васілю па памяці сабраныя ім матэрыялы**

Свята Раства Хрыстова напачатку 1848 года ён праводзіў у свайго пляменніка ў гасцях і падчас адной з размоваў яму прапанавалі заняцца «беларускай гаворкай, багатым прадметам для распрацоўкі яе». І Насовіч сапраўды зацікавіўся збіраннем народных прыказак і вывучэннем мовы жыхароў Беларусі, у першую чаргу, роднай яму Магілёўшчыны. Магчыма, гэтая справа засталася б не больш чым захапленнем, каб не пабачаная ім у 1848 годзе праграма этнаграфічнага аддзела Рускага геаграфічнага таварыства, заснаванага ў 1845 годзе.

## «З мэтаю сабраць сведчанні...»

Разасланая ва ўсе куткі Расійскай імперыі ў колькасці 7000 экзэмпляраў праграма выпускалася «з мэтаю сабраць сведчанні пра простага рускага чалавека пра народны побыт карэннага рускага насельніцтва ва ўсіх яго адценнях». Яна складалася з шасці пунктаў, па якіх павінны былі апісвацца жыхары імперыі: знешні выгляд, мова, хатні побыт і асаблівасці грамадскага побыту, разумовыя і маральныя здольнасці, адукацыя, паданні і помнікі.

Ужо ў першы год пасля выхаду праграмы Рускае геаграфічнае таварыства атрымала 500 водгукаў, пераважна ад мясцовых праваслаўных святароў. Большасць з адказаў змяшчалі павярхоўныя звесткі, паколькі сама праграма, якая ў далейшым яшчэ двойчы карэктавалася, мела супярэчнасці і прыводзіла да непаразумення. Аднак менш за ўсё гэта тычылася пункта «Мова», у якім прадстаўнікі Рускага геаграфічнага таварыства прапаноўвалі звяртаць увагу на асаблівасці вымаўлення, словаўтварэння, на звароты мовы, выкарыстанне агульнавядомых словаў у адрозным сэнсе. Найбольш цікавілі навукоўцаў «словы мясцовыя, мала ці зусім невядомыя ў агульнапрынятай мове. Гэтых апошніх пажадана б атрымаць наколькі магчыма поўныя сведчанні, у выглядзе слоўнікаў, з тлумачальнымі прыкладамі ўжывання ў розных выпадках і зваротах мовы».

Сярод прац, якія патрапілі ў Аддзяленне рускай мовы і славеснасці Акадэміі навук у 1850 годзе, апынуліся і тры рукапісы Івана Насовіча. Яны былі прысвечаныя назіранням наконт беларускай мовы, у якой рускія навукоўцы бачылі не больш як адну з «мясцовых гаворак рускай народнай мовы», невялікі яе слоўнік ды зборнік прыказак. За гэтыя працы Насовіч атрымаў ад Акадэміі навук 150 рублёў, а ў 1852 годзе іх станоўча ацаніў акадэмік Ізмаіл Сразнеўскі. У тым жа годзе ў «Известиях Академии наук» былі надрукаваныя сабраныя прыказкі.

Пасля гэтага Івану Насовічу зрабілі прапанову, якая прадвызначыла яго далейшы лёс. Яму даручылі скласці слоўнік «беларускай гаворкі».

## Першы гістарычны слоўнік беларускай мовы

Патрэба ў такім слоўніку ўзнікла падчас выдання ў 1843–1853 гадах зборнікаў дакументаў Археаграфічнай камісіі («Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею»). Іх рэдактарам выступіў ураджэнец Прапойска (сёння — Слаўгарад Магілёўскай вобласці) протаіерэй Іван Грыгаровіч (1792–1852). Менавіта ён павінен быў выканаць працу па зборы слоўніка. Але ўжо распачатую працу перарвала заўчасная смерць.

Працягнуць справу, акрамя Івана Насовіча, якому было ўжо 65 гадоў, прапанавалі і Станіславу Мікуцкаму (1814–1890), які атрымаў вядомасць пазней — у 1862–1864 гадах, калі распрацаваў зацверджаную расійскім урадам кірылічную графіку для літоўскай мовы.

Насовіч узяўся за слоўнік з усёй адказнасцю, аб чым узгадваў: «Прысвяціўшы дні і ночы майго вольнага ад усялякіх службовых заняткаў жыцця, я блізу трох з паловай гадоў ужыў на выкананне ўскладзенай на мяне працы, шануючы кожную хвіліну, з-за небяспечнасці, што на схіле маіх гадоў пачатае мною не засталося няскончa-



СЛОВАРЬ БѢЛОРУССКАГО НАРѢЧ…

составленный И. И. Носовичемъ.

Изданіе Отдѣленія Русскаго языка и сл…



СБОРНИКЪ ОТДѢЛЕНІЯ РУССКАГО ЯЗЫКА И СЛОВЕСНОСТИ ИМПЕРАТОРСКОЙ АКАДЕМІИ НАУКЪ.

Томъ XXI, № 6.

ДОПОЛНЕНІЕ къ БѢЛОРУССКОМУ СЛОВАРЮ.

И. И. Носовича.

Слова, извлеченныя изъ составленнаго имъ рукописнаго собранія Бѣлорусскихъ пѣсенъ и сказокъ.

…НКТПЕТЕРБУРГЪ.

…ператорской Академіи Наукъ.

…ас. Остр., 9-я лин., № 12).

1881.



СБОРНИКЪ ОТДѢЛЕНІЯ РУССКАГО ЯЗЫКА И СЛОВЕСНОСТИ ИМПЕРАТОРСКОЙ АКАДЕМІИ НАУКЪ.

Томъ XII, № 2.

СБОРНИКЪ БѢЛОРУССКИХЪ ПОСЛОВИЦЪ,

составленный И. И. Носовичемъ.

САНКТПЕТЕРБУРГЪ.

Типографія Императорской Академіи Наукъ.

(Вас. Остр., 9 лин., № 12).

1874.

ным. Гэта перасцярога мая прымусіла мяне весці жыццё адасобленае, працавітае, у барацьбе з невыказнымі цяжкасцямі. Гэта працавітасць на карысць філалогіі па ўсёй справядлівасці павінна хадайнічаць для мяне ласкавую паблажлівасць у недахопах, якія без сумнення могуць адкрыцца пры разглядзе працы маёй».

Так паўставаў першы гістарычны слоўнік беларускай мовы, у якім змясцілася каля 12 тысяч словаў з іх тлумачэннямі. У 1857 годзе рукапіс слоўніка ў 1110 старонак пад назвай «Алфавітны паказальнік старажытных беларускіх слоў, выбраных з «Актаў, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі» быў завершаны і дасланы ў Акадэмію навук. У 1865 годзе гэтая праца была адзначаная Увараўскай прэміяй у 1500 рублёў срэбрам. Аднак, на вялікі жаль, слоўнік так і не быў надрукаваны.

## «Будучы сам беларусам і вывучаючы сваю гаворку…»

Паралельна Іван Насовіч працаваў над складаннем слоўніка беларускай мовы. Яго сын Васіль узгадваў: «Для паспяховага выканання гэтай справы бацька мой не шкадаваў ніякіх сродкаў, ні з чым не лічыўся, ездзіў у розныя мясцовасці. Жывучы з маленства сярод сельскага люду, добра ведаў як гаворку беларусаў, так і мноства іх песень, прыказак, прымавак. Памятаю яшчэ, што ён, як толькі пачаў збіраць матэрыялы для слоўніка, заўсёды насіў пры сабе сшытак, куды тут жа занатоўваў кожнае новае для яго слова, якое траплялася яму ў гутарцы з простым чалавекам, кожную цікавую песню, прыказку. Людзі, больш або менш адукаваныя ставіліся з павагай да этнаграфічнай працы майго бацькі, усяляк садзейнічалі яму ў гэтым».

У выніку ў 1863 годзе Іван Насовіч прадставіў сабраныя ім матэрыялы, якія займалі 1548 старонак, спісаных дробным почыркам, у Акадэмію навук: «Спадар Мікуцкі паведаміў аддзяленню нязначныя матэрыялы для беларускага слоўніка, а спадар Насовіч, у 1863 годзе, прадставіў на суісканне Дзямідаўскіх узнагародаў поўны слоўнік беларускай гаворкі, над складаннем якога ён, з пахвальнай настойлівасцю, працаваў на працягу 16 гадоў». Гэтая праца была скончаная ў той жа год, калі пабачыў свет першы том «Толкового словаря живаго Великорускаго языка» Уладзіміра Даля. За сваю працу Іван Насовіч у 1867 годзе быў абраны сябрам Рускага геаграфічнага таварыства.

Падрыхтоўка ж слоўніка да выдання была завершаная ў 1868 годзе, аднак з'явіўся ён толькі ў 1870 годзе, паспеўшы змяніць двух рэдактараў — акадэмікаў Ізмаіла Сразнеўскага і Афанасія Бычкова. Сразнеўскі, звяртаючы ўвагу на папярэднікаў складання беларускага слоўніка (Ян Чачот, Павел Шпілеўскі), адзначаў, што толькі Насовіч здолеў справіцца са складанай задачай: «Будучы сам беларусам і вывучаючы сваю гаворку пры збіранні помнікаў і ўзораў гэтай гаворкі, ён мог узяцца за справу складання слоўніка з большаю надзеяю на поспех».

Аднак Іван Насовіч, калі пабачыў тое, што атрымалася ў выніку, быў непрыемна здзіўлены. Па-першае, яго першапачатковая назва «Слоўнік крывіцкай мовы» ператварылася ў «Слоўнік беларускай гаворкі». Насамрэч, Іван Насовіч не прэтэндаваў на ўсёахопны характар свайго збору, які грунтаваўся, у першую чаргу, на гаворках Магілёўскай губерні. Менавіта адсюль і паходзіла назва «Слоўнік крывіцкай мовы». Па-другое, цалкам адсутнічала прадмова самога аўтара, над якой ён працаваў амаль год. Яе замяніў рэдактарскі ўступ.

Па-трэцяе, лічачы беларускую мову толькі адной з гаворак рускай народнай мовы, выдаўцы адзначалі: «Беларуская гаворка, якая з'яўляецца пануючай на вялізнай прасторы ад Нёмана і Нарэва да ўзвышшаў Волгі і ад Заходняй Дзвіны да Прыпяці і Іпуці, якой гавораць жыхары паўночна-заходніх і некаторых частак сумежных з імі губерняў, ці тых мясцовасцяў, на якіх некалі жыло крывіцкае племя, ужо даўно звяртала на сябе ўвагу айчынных філолагаў па захаваных у ёй каштоўных парэштках старажытнай мовы». Па-чацвёртае, выдаўцы зрабілі цалкам няправільную высновы пра падставу падабенства многіх словаў польскай і беларускай моваў: «Колькасцю гэтых словаў і распаўсюджаннем выкарыстання іх у народзе вызначаецца відавочным чынам ступень уплыву польскай мовы на беларускую гаворку». Такім чынам, сцвярджалася, што беларуская гаворка — гэта не больш як сапсаваная польскай руская мова. З гэтым Іван Насовіч катэгарычна не пагаджаўся.

## «Вліяньне польское ничтожно тебе приписано здесь ложно»

Не маючы магчымасці паўплываць на тое, што ўжо было зроблена і выдадзена ад яго імя, ён выказаў свой пратэст у паэтычнай форме, якую прыклаў да свайго асобніка. Гэты вершаваны дыялог ён назваў «Явка Белорусскаго словаря по выходе изъ печати къ своему въ Мстиславле Автору»:

*Словарь:*
*Здоровъ, панъ!*
*Автор:*
*Б а !*
*Изъ Петербурга.*
*Чтожъ это? Ты братъ сталъ курносъ!*
*Не ужъ-то ты въ рукахъ хирурга*
*Оставилъ свой Кривичскій носъ?*
*(Предисловие).*
*Словарь:*
*Мой носъ сорвалъ къ какой-то цели*
*И спряталъ у своей портфели*
*Членъ Академіи Зоил (маецца на ўвазе Ізмаіл Сразнеўскі)*
*Къ моей-же сжалясь кто-то роже*
*На нос кривичскій не похоже*
*Красивый носикъ приклеилъ.*
*Автор:*
*Пусть такъ! Ты въ немъ похожъ на франта*
*Фізіогномія-жъ не та!*
*Кривичскій носъ былъ носъ гиганта*
*Породы всехъ славянъ черта.*
*А тутъ не видно,*
*съ кемъ сродни ты!*
*Твои какъ будто черты слиты*
*Съ фізіогноміей чужой*
*Вліянье польское ничтожно*
*Тебе приписано здесь ложно*
*Везде характер виден твой.*
*Ив. НОСОВИЧ.*
*1870 г.*

Слоўнік Насовіча складаўся з больш чым 30 тысяч словаў, але сярод іх не знайсці шараговых словаў кшталту «хлеб», «нага» або «зямля». Галоўная ўвага надавалася якраз тым словам, якімі беларуская мова адрозніваецца ад суседніх славянскіх моваў. Згодна з падлікамі Л.А. Гедзімін, гэты слоўнік у 150 разоў больш за слоўнік Яна Чачота, у 20 разоў — за Паўла Шпілеўскага, за слоўнік заходнерускай гаворкі 1851 года — у 7 разоў, Станіслава Мікуцкага — у 15 разоў, Еўдакіма Раманава — у 30 разоў.

## Ад прызнання да слепаты

У 1870 годзе за этнаграфічныя і мовазнаўчыя працы Насовіч быў узнагароджаны ордэнам св. Станіслава II ступені. У гэты час ён жыў у Пецярбургу, працаваў у архіве Публічнай бібліятэкі.

Па сваіх поглядах Іван Насовіч быў прыхільнікам тэорыі «заходнерусізму», распрацаванай Вócіпам Каяловічам. Насовіч, які сам сябе лічыў беларусам, разглядаў Беларусь як частку Расіі, адарваную ад апошняй у часы татарскага нашэсця. У пакінутых «Успамінах майго жыцця» Іван Насовіч узгадваў: «Наогул усе мяшчане і рамеснікі гавораць па-беларуску, апрача асоб не беларускага паходжання. Аканомы ж і прыказчыкі, зразумела, з дробнай шляхты, абавязкова павінны з беларускімі мужыкамі размаўляць па-беларуску. Нават самі памешчыкі, асабліва беларускага паходжання, любяць паміж сабою гутарыць па-беларуску».

У апошнія гады Іван Насовіч актыўна апрацоўваў сабраныя ім песні і прыказкі. У выніку ў 1873 годзе выйшаў зборнік «Беларускія песні», у якім больш за 350 твораў. А ў 1874 годзе з'явілася абагульняючая папярэднія яго публікацыі праца — «Зборнік беларускіх прыказак», які ўтрымліваў 3715 прыказак і прымавак з іх тлумачэннямі.

Нават у апошні год, калі ён зусім аслабеў, ужо не мог хадзіць і страціў зрок, Іван Насовіч працягваў працаваць, надыктоўваючы сыну Васілю, на той час дырэктару Слуцкай гімназіі, па памяці сабраныя ім матэрыялы. Яго здароўе моцна падарвалі перажыванні за малодшага сына, які вёў распусны лад жыцця.

Іван Насовіч памёр 25 ліпеня (6 жніўня) 1877 года і быў пахаваны на могілках Тупічэўскага Святадухаўскага манастыра ў Мсціславе. Яго смерць прайшла незаўважанай для навуковай супольнасці Расійскай імперыі.

Сёння адна з вуліц горада Мсціслава носіць імя Івана Насовіча. У 2013 годзе на будынку мясцовай школы мастацтваў была ўсталяваная памятная дошка ў гонар навукоўца.

Не излишнимъ считаю здѣсь сказать, что названіе Кривичи, равно какъ и самыя старинныя пѣсни принадлежатъ всѣмъ вообще племенамъ, населявшимъ, и нынѣ кореннымъ потомкамъ ихъ, населяющимъ все пространство Бѣлорусской страны, кромѣ Литовцевъ. Эти всѣ племена сосредоточиваются подъ однимъ именемъ Кривичи, по Польски Kriwiczy и Германски Krewings, т. е. Кровичи, кровныя родственныя племена, по производству слова Кривичи отъ Бѣлорусскаго слова: кровь-криви; такъ какъ отъ этого же имени производятся слова: кривавецъ,—(кровавикъ, сердоликъ), кривавый, кривяниць и проч.

# БагатаДата

**Вы ведаеце, што Віленская беларуская гімназія адзначае сваё 100-годдзе? А пра тое, калі адзначаецца Дзень беларускай навукі? Прапануем вам цікавыя падзеі і даты наступнага тыдня.**



### 26 студзеня

65 гадоў споўнілася б скульптару Уладзіміру Жбанаву. Яго вядомыя працы: «Дзяўчынка пад парасонам», «Прыкурвальшчык», «Незнаёмка» ў Міхайлаўскім скверы непадалёк ад чыгуначнага вакзала, «Фатограф» і «Пані з сабачкам» каля Камароўскага рынка, «Паштальён» каля кінатэатра «Кастрычнік», «Сям'я» каля ЦУМа, «Дойлід» на плошчы Незалежнасці.

25 гадоў таму пайшоў з жыцця беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч Алесь Адамовіч. Нобелеўская лаўрэатка Святлана Алексіевіч называе яго сваім настаўнікам. Аўтар кніг «Вайна пад стрэхамі», «Сыны ідуць у бой», «Хатынская аповесць», «Карнікі», «Блакадная кніга», «Я з вогненнай вёскі», «Апошняя пастараль», сцэнара да фільма «Ідзі і глядзі».

Алесь Адамовіч быў вельмі актыўны ў грамадскім жыцці, спрыяў пашырэнню праўды пра Чарнобыль. Нашумелым стаў ягоны выраз пра Беларусь як «Вандэю перабудовы». Пад ціскам уладаў БССР Алесь Адамовіч з'ехаў у Маскву. Там працаваў дырэктарам НДІ кінамастацтва. Быў народным дэпутатам СССР.



25 гадоў таму з ініцыятывы кіраўніка антыкарупцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета Аляксандра Лукашэнкі быў адкліканы з пасады спікера Станіслаў Шушкевіч. Пытанне на галасаванне ў парламенце было пастаўлена з такой фармулёўкай — «у сувязі з непрыняццем мер па барацьбе з карупцыяй, адсутнасцю кантролю за працай праваахоўных органаў і праяўленую асабістую нясціпласць». У гісторыі падзея засталася як «адстаўка за скрыню цвікоў». Нібыта Шушкевіч задарма скарыстаўся паслугамі гаспадарчай управы Саўміну для рамонту кватэры і лецішча, хаця ён іх аплаціў. Адставіць прапаноўвалася і прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча, але наменклатурная дэпутацкая большасць пакінула яго на пасадзе.

### 27 студзеня




Міжнародны дзень без інтэрнэту. У гэты дзень можна адпачыць ад глабальнага павуціння або проста задумацца пра залежнасць ад тых самых сацсетак і пра тое, колькі часу яны забіраюць.

Міжнародны дзень памяці ахвяраў Халакосту. Гэта дата абраная таму, што менавіта 27 студзеня 1945 года былі вызваленыя вязні самага вялікага фашысцкага канцэнтрацыйнага лагеру Асвенцым.

Дзень беларускай навукі. Адзначаецца ў апошнюю нядзелю студзеня.

100 гадоў таму ў Кіеўскай вобласці нарадзіўся Мікалай Альшэўскі, камандзір танка, экіпаж якога геройнічаў пры вызваленні Мінска ў ліпені 1944 года. Праз месяц Альшэўскі быў цяжка паранены і сканаў ад ранаў у Літве, дзе і пахаваны. Вуліца Альшэўскага ў Мінску названая менавіта ў яго гонар.

### 28 студзеня

100 гадоў таму нарадзіўся народны артыст Беларусі Павел Кармунін. Ён стварыў дзве сотні вобразаў на сцэне Купалаўскага тэатра, здымаўся ў фільмах «Рудабельская рэспубліка», «Доўгія вёрсты вайны», «Дзяржаўная мяжа».

5 гадоў таму памёр Генадзь Грушавы, дэпутат Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12 склікання, кіраўнік дабрачыннага фонду «Дзеці Чарнобыля».



**Генадзь Грушавы**

### 29 студзеня

155 гадоў таму мяшчанкай Рохляй Фрумкінай быў заснаваны Мінскі броварны завод, які з 1994 года называецца «Аліварыя». За сваю гісторыю бровар меў некалькі назваў (завод Лекерта, «Беларусь», «Багемія») і ўладальнікаў (сярод іх і гарадскі галава граф Чапскі). Цяпер піўзавод знаходзіцца ў тым самым будынку, дзе і распачаў працу.

135 гадоў з дня нараджэння беларускага грамадска-палітычнага дзеяча Антона Луцкевіча. Пры яго ўдзеле з'явілася першая легальная беларускамоўная газета «Наша Доля», а потым і «Наша Ніва». Менавіта Антон Луцкевіч напісаў праект Трэцяй Устаўной граматы, якой абвяшчалася незалежная Беларуская Народная Рэспубліка. Затым быў міністрам замежных справаў і прэм'ер-міністрам БНР.

### 30 студзеня

285 гадоў таму адбылася Віленская бітва. Гэта быў адзін з эпізодаў «вайны за польскую спадчыну» 1733–1735 гадоў. Пасля смерці ў 1733 годзе караля польскага і вялікага князя літоўскага Аўгуста ІІ пачаліся бескаралёўе і барацьба за ўладу паміж магнацкімі групоўкамі. Хутка гэта перарасло ў міжнародны канфлікт. Францыя стаяла за былым каралём Станіславам Ляшчынскім, а Расія ды Аўстрыя — за Аўгустам ІІІ. Шляхта абрала Ляшчынскага, але расійскія войскі хутка дапамаглі стаць на чале Рэчы Паспалітай Аўгусту ІІІ. У выніку Ляшчынскі мусіў уцячы да свайго зяця, французскага караля Людовіка XV.

### 31 студзеня

35 гадоў спаўняецца хакеісту Міхаілу Грабоўскаму. Адзін з нешматлікіх беларусаў, хто гуляў у НХЛ. Прызнаваўся найлепшым хакеістам нашай краіны ў 2009, 2011 і 2013 гадах.

90 гадоў з дня нараджэння доктара гістарычных навук Анатоля Грыцкевіча. Быў дырэктарам НДІ Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, прэзідэнтам Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

### 1 лютага

100 гадоў таму пачаліся рэгулярныя заняткі ў Віленскай беларускай гімназіі. Вядомыя яе настаўнікі і вучні: Барыс Кіт, Рыгор Шырма, Браніслаў Тарашкевіч, Антон і Іван Луцкевічы, Наталля Арсеннева, Міхал Вітушка, Максім Танк, многія іншыя дзеячы і творцы.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №135

Падпісана да друку 25.01.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.